Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4813) 3 красавіка 2015 г.



## Беларусь, будзь краінай уваскрэсення!



Глыбокапаважаныя чытачы газеты «Літаратура і мастацтва»!

Сардэчна вітаю ўсіх вас і віншую з радасным і збаўчым святам Уваскрэсення Хрыста! Гэтае свята мы адзначаем з радасцю, бо праўда Пасхі з'яўляецца падмуркам хрысціянскай веры, яна гарантыя нашага ўваскрашэння, дае надзею і падтрымку ў жыццёвых цяжкасцях і нагадвае нам, што варта жыць, бо перад намі перспектыва шчаслівай вечнасці.

Неўзабаве пройдуць святы і ізноў распачнецца звычайнае жыццё. Ці мы ўвойдзем у яго з праўдай Уваскрэсення? Вось пытанне, якое стаіць перад намі. Бо калі святы прыходзяць і адыходзяць, нічога не пакідаючы ў нашых сэрцах, то гэта знак таго, што наша вера павярхоўная і не закранае глыбіні сэрца, не вядзе да сапраўднай еднасці з Хрыстом і да нашага ўдасканалення. Сама ж назва сённяшняга свята «Уваскрэсенне» нагадвае аб неабходнасці выйсця з грабніцы грахоў і да змены жыцця на лепшае.

Зважаючы на вельмі небяспечныя выклікі нашага часу, кожны з нас асабіста і наша Айчына — Беларусь — патрабуем Хрыста, каб дапамог супрацьстаяць ім.

Нам патрэбны ўваскрослы Езус, каб бараніў нас перад цемрай бязвер'я і халадам абыякавасці, які ўсё больш апаноўвае свет.

Нам Ён патрэбны, каб пастаянна перамяняў нашы сэрцы і чыніў адважнымі сведкамі ў духоўнай цемры сэкулярызму.

Нам патрэбны Хрыстус у сем'ях, калі дэвальвуецца Богам устаноўлены інстытут сям'і як адзіны і непарушны саюз мужчыны і жанчыны з мэтай супольнага жыцця, узаемнай дапамогі, нараджэння патомства і яго выхавання, а разводы і распуста лічацца праяўленнем свабоды.

Нам патрэбны Езус, каб вучыў сужэнцаў перамагаць эгаізм і з радасцю прымаць цяжкасці адказнасці адно за аднаго. Сучасны чалавек павінен разумець, што жыццё без шлюбу і на пробу, імкненне да заспакаення эгаістычных жаданняў і задавальненняў вядзе да расчаравання і жыццёвай драмы.

Чытайце на стар. 2

# Зачараванасць замкамі

Прэзентацыя кнігі-фотаальбома «Беларусь замкавая» — уладальніка Гран-пры ў намінацыі «Трыумф» 54-га Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі» — прайшла ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Гэты адметны праект быў рэалізаваны напрыканцы мінулага года выдавецтвам «Бяловагруп», а паліграфічная праца высокай тэхналагічнай складанасці выканаая Паліграфкамбінатам імя Якуба Коласа.

Аб'ём выдання — больш як паўтысячы старонак, вага кнігі — амаль 5 кілаграм, над яе падрыхтоўкай працавалі 18 аўтараўгісторыкаў і 20 фатографаў. Кніга змяшчае картаграфічныя, архіўныя, музейныя матэрыялы з айчынных і замежных крыніц, гістарычныя малюнкі і гравюры, а таксама — больш як тры дзясяткі ўпершыню апублікаваных здымкаў беларускіх замкаў XIX і пачатку XX ст. з аддзела рукапісаў бібліятэкі Вільнюскага ўніверсітэта… І гэта не ўсе адметныя рысы кніжнага праекта «Беларусь замкавая».

Падчас прэзентацыі гэтай унікальнай кнігі міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч падкрэсліла:

— Мне вельмі прыемна прадстаўляць сёння кнігу, якая літаральна два месяцы таму стала галоўным выданнем краіны 2014 года. Гэта вялікі праект, вялікая праца і вялікі поспех, але не толькі творчага калектыву, выдавецтва «Бяловагруп» і Паліграфкамбіната імя Якуба Коласа. Гэта і вялікі поспех краіны, якая сёння можа праз кнігу паказаць, як аднаўляюцца нашы замкі, а разам з гэтым для кожнага з нас наноў адкрываюцца старонкі гісторыі краю. Кніга — вялікі навуковы і медыйны праект. Да яго спрычыніліся навукоўцы і фатографы, прадстаўнікі рэдакцый раённых газет, якія разам з творчым калектывам па драбніцах збіралі фота замкавай Беларусі. Нельга без хвалявання думаць пра тое, што замкі на тэрыторыі Беларусі як будаваліся, так і руйнаваліся, і былі стагоддзі, калі на войны прыпадала больш гадоў, чым на мірнае жыццё.


Фота Касцуся Дробава

Таццяна Бялова прадстаўляе кнігу «Беларусь замкавая».

Чытайце на стар. 12

# Пейзаж у дэталях

**Нярэдка нашы ўяўленні пра мастацтва заснаваныя толькі на веданні вялікіх майстроў. Дастаткова, здаецца, назваць імёны такіх жывапісцаў, як Іван Айвазоўскі, Аляксей Саўрасаў, Ісаак Левітан, Іван Шышкін, каб ахарактарызаваць рускі пейзаж другой паловы XIX стагоддзя.**


Мікалай Атрыганьеў «Від на раку Асцёр у Магілёўскай губерні». 1885 г.

Разам з тым у гэты перыяд адначасова з карыфеямі — мастакамі, якія прайшлі выпрабаванне часам і занялі заўважнае месца ў гісторыі, — працавалі і іншыя пейзажысты. Без увагі да іх творчасці ацэнка рускай пейзажнай школы не была б поўнай. З гэтай нагоды Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прэзентаваў выстаўку «Сучаснікі карыфеяў».

Вялікае значэнне для развіцця рускага пейзажа мела дзейнасць Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. Нягледзячы на ўзрослае ў 1860 — 1890-я гг. значэнне рэалістычнага мастацтва і ўзмацненне крытыкі прынцыпаў акадэмічнай адукацыі, акадэмізм як мастацкі кірунак працягваў сваё існаванне. У некаторых выпадках пейзажысты строга прытрымліваліся класічных схем пабудовы прасторы, падзяляючы карціну на планы (Фёдар Ясноўскі «Від у Кунцаве каля Масквы», Мікалай Атрыганьеў «Від на раку Асцёр у Магілёўскай губерні», «Расчэпленны дуб»). Асаблівы почырк меў Міхаіл Клот. Ствараючы манументальныя і ўражаныя вобразы прыроды, аднолькава пільную ўвагу ён надаваў усім дэталям («Поўдзень», «На раллі»).

Няма сумнення ў тым, што кола майстроў дэмакратычнага кірунку ў Расіі другой паловы XIX стагоддзя было даволі шырокім. Многія з іх уваходзілі ў Таварыства перасовачных мастацкіх выставак, што само па сабе з'яўлялася высокай адзнакай іх мастацтва. Да ліку такіх пейзажыстаў адносіліся Канстанцін Крыжыцкі, Васіль Пераплётчыкаў, Ілья Астравухаў. Апошняга высока ацэньваў Ілья Рэпін, кажучы, што ён «усялякай сваёй карцінай рабіў эпоху ў пейзажы і выклікаў цэлую школу пераймальнікаў».

— Разам з тым мастацкая спадчына шэрагу прадстаўленых у экспазіцыі жывапісцаў неаднародная па сваім складзе. У аднаго і таго ж пейзажыста ў адным выпадку мы бачым схільнасць да салона, а ў другім — да рэалізму, — зазначыў куратар выстаўкі, загадчык аддзела рускага і замежнага мастацтва Аляксей Харак. — Але якімі б рознанакіраванымі ў сваіх пошуках ні былі мастакі рускай школы, усіх іх, безумоўна, аб'ядноўвае высокі прафесійны ўзровень, здабыты яшчэ ў перыяд навучання. Многія з вышэйназваных майстроў сталі выкладчыкамі Акадэміі і змаглі перадаць уласны вопыт мастакам стагоддзя XX-га.

Выстаўка будзе працаваць да 8 чэрвеня.

Таццяна ШЫМУК

ISSN 0024-4686
9 770024 468001 15013

# Фестываль вясны і паэзіі


Фота Архана Азіма

Падчас сустрэчы ў Саюзе пісьменнікаў Азербайджана.

У Азербайджане сімвалам вясновага свята Наўруза — надыходу Новага года — з'яўляецца перавітая чырвонай стужачкай рунь. Думала, штучная, набытая ў краме, а насамрэч кожная гаспадыня загадзя прарошчвае зярнекі, каб да свята атрымаць такі адмысловы букет. Чамусь прыгадалася Багдановічава «Вось сімвал твой, забыты краю родны…»

Тут усё сімвалічна: тое, што першы міжнародны паэтычны фестываль у гісторыі сучаснага Азербайджана адбываецца ў Сусветны дзень паэзіі, аб'яднаны з Наўрузам і Сусветным днём вады; тое, што зранку тут наказваюць магілы мёртвых паэтаў, а ўдзень даюць слова жывым; тое, што ўдзельнікі форуму разумеюць адно аднаго нават на незнаёмых мовах…

«Азербайджан — усходняя краіна, якая глядзіць на Захад, — адзначылі госці падчас сустрэчы з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў Азербайджана (вітаў гасцей сам славуты старшыня Анар). — Тут адметнае стаўленне да літаратуры». Прызнацці, як заўважыў прадстаўнік Фінляндыі Томі Конца, аўтар амаль 30 кніг, на яго радзіме «паэзія не надта папулярная», таму для творцы важна было не толькі прадставіць сябе і сваю літаратуру, але і пакамунікаваць з калегамі. Дарэчы, на паэтычны форум прыехалі прадстаўнікі васьмі краін свету: Беларусі, Ірана, Расіі, Сербіі, Турцыі, Узбекістана, Украіны і Фінляндыі. «Паэзія — мова ўсяго чалавецтва. Абараняць паэзію — значыць абараняць справядлівасць ва ўсім свеце. На жаль, сёння паэты раздзеленыя дзяржаўнымі межамі. Але ў гэтай сітуацыі ініцыятыва збору паэтаў даводзіць, што вышэй за слова нічога не можа быць», — падсумаваў сустрэчу ў СПА найбуйнейшы цюрколаг, прафесар Стамбульскага ўніверсітэта Атаол Бехрамаглу.

На наступны дзень госці прадстаўлялі ўласныя вершы падчас паэтычных чытанняў у… (што таксама сімвалічна!) старой кірсе «Капельхаус», куды, нягледзячы на дажджлівае надвор'е, прыйшло вельмі шмат ахвотных паслухаць паэзію. Незвычайнасці імпрэзе дадавала і тое, што кожны яе ўдзельнік чытаў свае творы на роднай мове, а затым кіраўнік і арганізатар фэсту, старшыня Цэнтра мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязяў СПА Салім Бабулааглу прапаноўваў паслухаць, як гэта гучыць у перакладзе на азербайджанскую мову. Да слова, анталогія, якую падрыхтаваў спадар Салім, павінна ў найбліжэйшым часе пабачыць свет. Акрамя вершаў гасцей, у яе ўвойдуць крытычныя артыкулы, прысвечаныя тэме вады ў літаратуры розных краін. Прыемным сюрпрызам для беларускага чытача стане ўключэнне ў зборнік твораў яшчэ двух айчынных аўтараў: Маргарыты Латышкевіч і Віталя Рыжкова.

На трэці дзень фестывалю гасцей пазнаёмілі з гісторыяй ды мастацтвам Азербайджана, далучылі да народных традыцый святкавання Наўруза і правялі па студыях Рэгіянальнага тэлебачання, якое асвятляла падзеі літаратурнага свята. А падчас нефармальнай часткі творцы з прыемнасцю спявалі родныя песні ды абменьваліся кантактамі.

Наступны крок — узаемапераклады…

**Таццяна СІВЕЦ**

# Беларусь, будзь краінай уваскрэсення!

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Нам патрэбны Уваскрослы, каб вучыў нас клопату пра найбольш каштоўны Божы дар жыцця. Нашыя сем'і, асабліва маладыя, павінны быць адкрытымі на пакліканне да адказнага бацькоўства.

Нам патрэбны Хрыстус, каб бараніў дзяцей і моладзь. Няўзброеным вокам бачна, як многа драматычных праблем з'яўляецца ў іх жыцці.

Нам патрэбны Езус у грамадскім жыцці, дзе расце алкагалізм, наркаманія, карупцыя, усё больш праяўляецца эканамічны крызіс, паўстаюць розныя канфлікты, у тым ліку сацыяльная і палітычная напружанасць, працоўная міграцыя, якая ўплывае на крызіс сям'і, страту веры і г. д. Наша грамадства павінна быць насычана нязменнай праўдай Евангелля і Божай ласкай, каб на іх, як на непахісным падмурку, будаваць будучыню.

Нам патрэбны Уваскрослы, каб дапамагаў абудзіць пачуццё адказнасці за нашу Айчыну і салідарнасці паміж яе жыхарамі, каб паміж усімі панаваў дух узаемнай любові і згоды.

Жыхары Беларусі з радасцю і гонарам успрынялі той факт, што Мінск стаўся месцам перамоў і падпісання мірных пагадненняў па Украіне, якія з'яўляюцца новым этапам на шляху да вырашэння гэтага братазабойчага канфлікту ў цэнтры Еўропы, хаця гэты шлях не лёгкі і патрабуе яшчэ многа намаганняў як з боку канфліктуючых бакоў, так і міжнародных арганізацый.

Беларусь, будуючы сваю тоеснасць на прынцыпах Евангелля, таксама павінна быць краінай міру, узаемапавагі і талерантнасці яе грамадзян, людзей розных веравызнанняў і нацыянальнасцей, але ў той самы час сыноў і дачок адной Бацькаўшчыны.

Віншую чытачоў і рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» з радасным і збаўчым святам Хрыстовай Пасхі! Віншую католікаў і іншых хрысціян, якія адзначаюць гэтае свята святаў! Няхай велікодная радасць напоўніць нашыя сэрцы надзеяй і ласкамі ўваскрослага Пана!

Хрыстус Уваскрос! Сапраўды Уваскрос! Алелюя!

**Арцыбіскуп Тадэуш КАНДРУСЕВІЧ,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**


Фота Кастуся Дробава

# У традыцыях карыкатуры

Экспазіцыя пад назвай «Добрая сатыра Міколы Гіргеля» адкрылася ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Арганізатары выстаўкі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Выдавецкі дом «Звязда», часопіс сатыры і гумару «Вожык».

Мікола Гіргель скончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. Сябра Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза журналістаў, удзельнік і прызёр выставак карыкатуры, плаката, шаржа. Яго работы змешчаны ў сатырычных выданнях былога СССР, краін СНД, Балгарыі, Польшчы, Бельгіі, а першая з'явілася ў часопісе «Вожык» у 1973 г. Аформіў некалькі дзясяткаў айчынных кніг. Узнагароджаны прэміяй Беларускага саюза журналістаў і нагрудным знакам «Выдатнік друку Беларусі». Больш як 20 гадоў працуе ў рэдакцыі газеты «Рэспубліка».

Падчас адкрыцця выстаўкі намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Уладзімір Матусевіч зазначыў: работы Міколы Гіргеля, якія ўвасабляюць добры настрой, аптымізм, прагу жыцця, — гэта і высокая журналістыка, і высокае мастацтва. Паводле дырэктара — галоўнага рэдактара Выдавецкага дома «Звязда» Алеся Карлюкевіча, Мікола Гіргель належыць да ліку творцаў, здольных многае сказаць алоўкам і пэндзлем.

Галоўны рэдактар часопіса «Вожык» Юлія Зарэцкая распавяла: на выстаўцы прадстаўлена толькі невялікая частка творчага арсенала карыкатурыста, які, дарэчы, стварыў і мноства шаржаў на знакавых асоб нашай краіны. Падчас імпрэзы слова ўзялі таксама мастак Сяргей Волкаў, былы супрацоўнік рэдакцыі «Вожыка» пісьменнік Іван Стадольнік і адзін з аўтараў часопіса, ураджэнец Малдовы Васіль Семянюк.

Сам Мікола Гіргель падкрэсліў: гумар і сатыра выдатна дапамагаюць пераадольваць жыццёвыя цяжкасці. Пацвярджэннем таму — уся яго творчасць.

**Яна ЯВІЧ**

*Актуальнае*

# Дайджэст літаратурны

Пабачыў свет дайджэст найбольш яскравых і значных кніг, напісаных айчыннымі творцамі — сябрамі Саюза пісьменнікаў Беларусі — і выпушчаных цягам 2013 — 2014 гадоў. Выданне змяшчае інфармацыю пра навінкі айчыннай літаратуры.

У дайджэсце прадстаўлены проза («Аперацыя "Кроў"» Мікалая Чаргінца, «Обаль» Алеся Савіцкага ды інш.), паэзія (зборнік вершаў Саюза пісьменнікаў Расіі і Саюза пісьменнікаў Беларусі «Непадзельнае рэчышча»), дзіцячая літаратура («Незвычайнае падарожжа ў краіну ведзьмаў» Алеся Бадака, «Размова пад зорным небам» Наталлі Ігнаценка ды інш.). Некаторыя рэцэнзіі суправаджаюцца ўрыўкамі з твораў. Дайджэст плануецца выдаваць перыядычна.

**Яна ЯВІЧ**

*Стасункі*

# Прэміі творцам

Падчас святкавання Сусветнага дня паэзіі ў Вялікай канферэнц-зале Урада Масквы былі абвешчаны лаўрэаты нацыянальных літаратурных прэмій «Паэт года 2014» і «Пісьменнік года 2014», заснаваных Саюзам пісьменнікаў Расіі з мэтай пошуку таленавітых аўтараў, здольных паўплываць на сучасны літаратурны працэс.

Лаўрэатаў у намінацыях «Паэт года», «Пісьменнік года», «Дэбют», «Лірыка», «Рамантыка», «Дзіцячая літаратура», «Гумар» вызначыла кампетэнтнае журы, куды ўвайшло больш як два дзясяткі празаікаў, драматургаў, літаратуразнаўцаў і літаратурных крытыкаў.

Дыплом намінанта прэміі «Паэт года 2014» атрымала ўраджэнка Расіі, выдатнік народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь, аўтар сямі паэтычных зборнікаў Галіна Сайко, якая жыве ў Магілёве. Вершы Галіны Іванаўны ўвайшлі ў аднайменны альманах.

**Людміла ВАЛАДЗЬКО**

*За падзеяй*

# Лепшыя на Віцебшчыне

**Напярэдадні Сусветнага дня паэзіі ў Віцебскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Горкага прайшла ўрачыстая цырымонія ўручэння абласной літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі за 2014 год.**

Лаўрэатаў вызначыла кампетэнтнае журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама, упраўлення адукацыі аблвыканкама, Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Пры ацэнцы твораў улічваўся не толькі мастацкі ўзровень, але і актуальнасць, сучаснасць падыходаў да распрацоўкі пэўнай тэмы, сцвярджанне агульначалавечых каштоўнасцей ды ідэй гуманізму, а таксама наяўнасць у сюжэце этнічных вобразаў.

У намінацыі «Паэзія» прэмію атрымаў Мікалай Наменнікаў за зборнік вершаў «Лістапад спавядальны» і «Час яблыкаў», у намінацыі «Проза» — Барыс Беляжэнка за кнігі «Кругі зямныя» і «Дарога Бачэйкава — Бешанковічы», а ў намінацыі «Літаратура для дзяцей» — Святлана Гук (Дзядзінкіна) за кнігі «Бабраня на Бузянцы» і «Юшка Вялеса».

**Дар'я КРАСНОВА**

# Наш партал у Казахстане

Праект «Беларускі партал у Казахстане», заснаваны яшчэ ў 2006 годзе па ініцыятыве Алмацінскага рэгіянальнага нацыянальна-культурнага цэнтра «Беларусь», змяшчае літаратурныя матэрыялы ў электронным фармаце. Кіраўнік партала — Міхаіл Буланаў.

Безумоўна, асноўная нагрузка ў рабоце інфармацыйнай крыніцы — на навіны. Партал *www.belarus.kz* уважлівы да жыцця ў Беларусі, да знешніх стасункаў нашай краіны — як з Казахстанам, так і з усім светам. Пра гэта сведчаць асноўныя разделы інтэрнэт-рэсурсу — «Навіны», «Беларускія цэнтры ў свеце», «Бізнес», «Тавары з Беларусі», «Адукацыя», «Транспарт», «Індустрыяльны парк у Беларусі», «Мытны Саюз». Матэрыялы, дарэчы, на дзвюх мовах — рускай і беларускай. Крыніцамі інфармацыі досыць часта з'яўляюцца паведамленні БелТА і «Звязда» (як парламенцкай і ўрадавай газеты, так і сайта Выдавецкага дома «Звязда»).

Галіновая пляцоўка «Культура» на партале насычаная звесткамі па беларускіх святах, абрадах, кулінарыі, словам, прысвечаная ўсяму, што выяўляе адметнасці народнага жыцця. Шмат матэрыялаў — па гісторыі. Асобна падаецца інфармацыя пра беларусаў, якія ў розныя часы жылі ў Казахстане. Што да «Літаратурнай старонкі», то праз творы і біяграфію пісьменнікаў тут прадстаўляецца некалькі дзесяткаў паэтаў і празаікаў. Ёсць і класікі — Кірыла Тураўскі, Паўлюк Багрым, Янка Купала, Аркадзь Куляшоў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін і сучаснікі (Міхаіл Шыманскі і Вячаслаў Статкевіч).

— Мы пакуль што выразна не думалі пра канцэпцыю «Літаратурнай старонкі», — гаворыць кіраўнік «Беларускага партала ў Казахстане» Міхаіл Буланаў. — Але хацелася б, каб наша літаратурная, мастацкая, гісторыка-асветніцкая частка была досыць насычаная. Спадзяёмся і на падтрымку з беларускага боку. Найперш — ад Саюза пісьменнікаў Беларусі, былі б удзячнымі за прадастаўленыя матэрыялы і літаратурна-мастацкім часопісам «Полымя», «Нёман», «Маладосць», «Вожык».

Варта дадаць, што толькі «Літаратурную старонку» апошнім часам наведала болей як дваццаць тысяч чалавек.

**Павел АЛЬСОВЫ**

# Знаходкі, думкі, формы

Выстаўка мастацкіх работ «Адам Глобус. Беларускі авангард 80-х» адкрытая ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі.

Адам Глобус — паэт, празаік, мастак, заснавальнік Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» (1986 — 1990). Скончыў педагагічнае аддзяленне Мінскага мастацкага вучылішча (1977), Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі ўніверсітэт (1983). Працаваў чарцёжнікам, мастаком-рэстаўратарам, мастаком-афарміцелем. Яго карціны («Аўтапартрэт», 1980; «Галя», 1982; «Гіём Апалінэр», 1982; «Брат», 1983; «Балада. Душы Кальварыі», 1984) увасабляюць філасофскі погляд на традыцыі, гісторыю і сучаснае панэцце прыгажосці.

Загадчык музея Наталля Мізон адзначыла: цешыць, што сёння ёсць магчымасць прадставіць наватарскае мастацтва беларускага авангарду, у прыватнасці — работы Адама Глобуса, у музейнай прасторы, дзе дасюль яшчэ захоўваецца дух савецкай эпохі.

Паводле мастацтвазнаўцы, аўтара інтэрнэт-партала «Беларускі авангард» Вольгі Архіпавай, 1980-я — радыкальны, рэвалюцыйны час для айчыннай культуры, эпоха творцаў, якія кардынальна змянілі беларускае мастацтва і традыцыйны погляд на яго. Створанае імі — фактура, формы, колеры, лініі — выходзіла за межы канонаў тагачаснага сацрэалізму. Адам Глобус — адзін з прадстаўнікоў гэтага пакалення.

Адметна, што вернісаж прайшоў у фармаце кватэрніка, што было папулярна ў тагачасным маладым творчым асяродку.

**Анжэла ПРАЖАН**

# Крыштальная Паўлінка

Узнагароды Беларускага саюза тэатральных дзеячаў былі ўручаны лепшым майстрам сцэны ў Міжнародны дзень тэатра.

Падчас віншавання дзеячаў тэатра ў зале Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў адзначыў: «Высокія прафесіяналы павінны быць ацэнены калегамі і гледачамі».

«Крыштальная Паўлінка» прысуджаная салісту Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета народнаму артысту Беларусі Уладзіміру Пятрову. Прызам «Крыштальны анёл» узнагароджаная актрыса Гродзенскага абласнога тэатра лялек Святлана Баброўская.

«Крыштальная зорка» ўручаецца за вялікі ўклад у развіццё тэатральнага мастацтва — яе атрымала Жанэта Зарэмба, артыстка Магілёўскага абласнога тэатра драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча. «Крыштальную кветку» (за самы яркі дэбют) атрымаў Канстанцін Геронік — артыст балета Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі. Прызам «Натхненне» (за яркія ідэі) узнагароджаная асістэнт рэжысёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Святлана Дашкевіч.

Падчас уручэння заслужаных узнагарод старшыня Беларускага саюза тэатральных дзеячаў Аляксей Дударaў падкрэсліў, што ва ўсе гады адзначаліся людзі, чые імёны сёння ўваходзяць у сузор'е прызнаных майстроў.

Тэатральная прэмія «Крыштальная Паўлінка» заснаваная Беларускім саюзам тэатральных дзеячаў больш як 20 гадоў таму. За гэты час узнагароды былі ўручаны такім вядомым асобам, як Расціслаў Янкоўскі, Генадзь Аўсяннікаў, Барыс Герлаван, Наталля Гайда, Валерый Раеўскі, Барыс Луцэнка. Першай уладальніцай «Крыштальнай Паўлінкі» стала легендарная Стэфанія Станюта.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# «Харавое веча» кліча

На Магілёўшчыне ў межах агульнарэспубліканскай акцыі «Харавое веча» з сакавіка па май праводзіцца абласны агляд-конкурс непрафесійных (аматарскіх) харавых калектываў мастацкай творчасці, прымеркаваны да 70-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Арганізатары творчага спаборніцтва — галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Магілёўскага аблвыканкама і Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветніцкай работы.

Прагляды вакальна-харавых калектываў прайшлі ўжо ў Чэрыкаве, Бабруйску і на базе Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра. 25 красавіка лепшыя калектывы пакажуць сваё майстэрства падчас грандыёзнага прадстаўлення «Харавое веча Магілёўшчыны», якое адбудзецца ў канцэртнай зале «Магілёў».

**Міра ІЎКОВІЧ**

*З нагоды*

# Шчодры дар

Цікавы выставачны праект «Спадчына маці маёй матулі» прадставіла Гомельская абласная бібліятэка імя У. І. Леніна. Аўтар фотаэкспазіцыі — Аляксандр Нікіцін, вучань 11 класа сярэдняй агульнаадукацыйнай школы № 23.

Падчас адкрыцця выстаўкі можна было ўбачыць не толькі фотаздымкі Аляксандра, але і старадаўнія нацыянальныя касцюмы, прыгожыя вышыванкі, квяцістыя ручнікі. Юнак расказаў пра сваё захапленне і цікавыя вандроўкі па родным краі.

Мясцовыя краязнаўцы часта выпраўляюцца ў творчыя вандроўкі па Гомельшчыне. Разам з імі, па магчымасці, падарожнічае і Аляксандр, які нечакана для сябе зразумеў: спадчына Беларусі адметная і захапляючая. Яшчэ і сёння ў вёсках спяваюць старажытныя беларускія песні, могуць распавесці пра народныя звычаі і абрады.

Як прызнаўся Аляксандр, у выбары прафесіі ён ужо вызначыўся: даўно марыць стаць гісторыкам.

**Ганна СЯМЁНАВА**

# Сто гадоў таму

Выстаўка «Пушкінскае гняздо» ў Вільнюсе ў кантэксце культуры канца XIX ст. — пачатку XX ст.» адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.

У экспазіцыі — фотаздымкі, лісты, дакументы з фондаў віленскага Літаратурнага музея А. С. Пушкіна. Наведвальнікі пазнаёмяцца з домам-сядзібай Маркучай — цэнтрам памяці паэта ў Літве. Гледачы змогуць перанесціся на сто год таму назад, убачыць тагачасны лад жыцця. Дапаўняюць выстаўку адпаведныя рэчы, прадстаўленыя Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — прадметы побыту і адзенне.

Экспазіцыя невыпадкова размясцілася ў доме Якуба Коласа. Дырэктар установы Зінаіда Камароўская распавяла, што паэт захапляўся паэзіяй А. Пушкіна, зачытваўся яго творамі. Рускі класік меў вялікі ўплыў на фарміраванне паэтычных поглядаў песняра.

Падчас адкрыцця выстаўкі вершы творцаў прагучалі ў выкананні артыста Алега Вінярскага. Падарункам для ўсіх сталі і спевы салістаў Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

# Пры святле Купалавай зоркі

У літаратурным жыцці Лагойшчыны адбылася адметная падзея — прэзентацыя калектыўнага паэтычнага зборніка «Пад Купалавай зоркай». Выданне ўбачыла свет летась па ініцыятыве мясцовага краязнаўцы Віктара Несцяровіча. Кніга змяшчае выбраныя творы 33 аўтараў — як славутых майстроў слова, так і нашых сучаснікаў.

Арганізатарамі прэзентацыі ў раённым Доме культуры і адпачынку выступілі ўдзельнікі літаратурнага аб'яднання «Рунь» і супрацоўнікі цэнтральнай раённай бібліятэкі горада. Укладальнік зборніка В. Несцяровіч раскрыў гісторыю стварэння выдання ды падкрэсліў, што Лагойская зямля мае шмат непаўторных талентаў.

У мерапрыемстве ўдзельнічалі паэты Мікола Ляшчун, Ніна Кісялёва, Аліна Савіцкая, Вольга Вярбіцкая, Любоў Хадневіч, Віктар Луцкі, Надзея Мядзелец, Лідзія Лук'янава, Валянціна Корзун, Ніна Грахоўская, Роза Камалава, Алена Масцерава, Іван Барысевіч, Аляксандр Рагачоў. Праўда, не ўсе творцы змаглі прыйсці на сустрэчу. На жаль, некаторых аўтараў зборніка ўжо няма з намі. Гэта Эдуард Грахавец, Яўген Ганчарэнка, Алесь Карчашка, Браніслаў Сасноўскі, Мікола Тонкавіч. Але іх вершаваныя радкі жывуць.

**Анастасія СІНЮКОВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**3 красавіка** — *на «круглы стол» «Роля чытання ў выхаванні сучаснага дзіцяці» і прэзентацыю кніжнай серыі «Сонечны зайчык» выдавецтва Беларускага экзархата. Мерапрыемства пройдзе ў Палацы мастацтваў (вул. Казлова, 3). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *на творчую сустрэчу з групай маладых пісьменнікаў. Імпрэза адбудзецца ў публічнай бібліятэцы № 21 (вул. Слабадская, 63). Пачатак у 13.30.*

**7 красавіка** — *на паэтычна-музычны вечар маладой паэтэсы Людмілы Клачко. Імпрэза адбудзецца ў малой зале КЗ «Мінск» (вул. Кастрычніцкая, 5). Уваход па білетах. Пачатак а 19-й гадзіне.*

**8 красавіка** — *у літаратурную гасцёўню «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 (вул. Карбышава, 42) на творчую сустрэчу з паэтэсай і бардам Аленай Свечнікавай. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**8 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтам Міхасём Пазняковым і кампазітарам, выканаўцам песень Аляксандрам Якіменкам. Мерапрыемства пройдзе ў СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13). Пачатак у 10:30.*

**9 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтам Віктарам Шніпам «Мая душа, як птушка…», якая адбудзецца ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (В. Харужай, 16). Пачатак у 13.30.*

**9 красавіка** — *на конкурс-канцэрт юных аматараў паэтычнага слова, прысвечаны 70-годдзю Вялікай Перамогі. Мерапрыемства адбудзецца ў СШ № 23 (вул. П. Панчанкі, 56). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**9 красавіка** — *на творчы вечар пісьменніка і перакладчыка Валерыя Чудава, які пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2). Пачатак а 18-й гадзіне.*

**10 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай і кампазітарам Аленай Прахінай, якая адбудзецца ў Мінскім гарадскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы). Пачатак а 11-й гадзіне.*

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы смуткуе з прычыны смерці Ліліі Раманаўны КОПАЦЬ, аднаго са старэйшых навуковых супрацоўнікаў музея, прыносіць шчырыя спачуванні яе родным і блізкім.

Георгій МАРЧУК



Жыццё, як вядома, пакручастае. Багата што, безумоўна, залежыць ад характару самога чалавека, яго звычак, духоўнага стану, ладу жыцця, адданасці веры. Адчай, разгубленасць ад непрадказальных грамадскіх, палітычных, эканамічных зменаў, на якія чалавек вельмі мала ўплывае, могуць нараджаць дэпрэсіі і хваробы душы і цела. Кажуць, дасылае выпрабаванні чалавеку і, можа, усяму грамадству сам Бог, бо не так, відаць, жывём, мала маем павагі, любові адзін да аднаго, спачування. У складаных жыццёвых сітуацыях надыходзіць час пераасэнсавання пражытага і перажытага. У цяжкія дні ратуе найперш усведамленне таго, што Радзіма не пакіне, яна ёсць, бо гэта — перадусім людзі. Душа просіць песні з падзякай Радзіме, яе люду, яе культуры, танцам, яе штодзённай працы, мацуецца дух успамінамі пра храмы, пра набожных простых людзей, прыгадваюцца мястэчкі, дзе бываў у маладосці, краявіды роднага Палесся. Так і нарадзіліся тэксты новых песень — гэта падзяка гарадам, у якіх калісь далучаўся да гісторыі роднага краю, спасцігаў сэнс жыцця, радасць і адказнасць існавання на гэтай зямлі.

**З павагай, аўтар**

## Тураўскі вальсок

*Добра ў Тураве людзям жыць,*
*Наша Прыпяць да мора бяжыць.*
*Радасць тут пануе ў хатах*
*І гасцей заўсёды багата.*
*Добра ў Тураве працаваць,*
*Працу кожнага тут відаць,*
*Ураджайны зноў выдаўся год,*
*І дай нам, Божа,*
*жыць без нягод.*

Прыпеў: *А над Прыпяццю,*
*над шырокай*
*Буслы ў небе лета вітаюць,*
*Каб не быў ніхто адзінокі —*
*Пад вянец маладых*
*запрашаюць.*

*Нашы вяселлі здалёку відно,*
*Што ў Давыд-Гарадку чутно.*
*Як жадаюць кахання і долі*
*І дзеткі каб не хварэлі ніколі.*
*Помнім словы*
*Святога Кірылы,*
*Надаюць яны людзям сілы.*
*І вядзе нас вера святая*
*Да царквы, што аблокі трымае.*

Прыпеў: *А над Прыпяццю,*
*над шырокай*
*Буслы ў небе лета вітаюць,*
*Каб не быў ніхто адзінокі —*
*Пад вянец маладых*
*запрашаюць.*

*Добра ў Тураве, праўду кажу,*
*Хто не верыць, таму адкажу:*
*На любові трымаецца свет,*
*Усім дабра жадае сусед.*
*Добра ў Тураве песні спяваць,*
*Іх далёка ў свеце чуваць.*
*Ганарацца горадам людзі,*
*Шчасце ёсць і шчасце будзе.*

Прыпеў: *А над Прыпяццю,*
*над шырокай*
*Буслы ў небе лета вітаюць,*
*Каб не быў ніхто адзінокі —*
*Пад вянец маладых*
*запрашаюць.*

## Мой родны Пінск

*Піна і Прыпяць цалуюцца тут,*
*Казка і дзіва палескага краю.*
*Дзякуем Богу за родны наш кут,*
*Гораду Пінску мы песню спяваем.*

Прыпеў: *Вечна красуе жыта на полі,*
*Разам з Радзімай шукаем мы долю.*
*Будзе квітнець наш горад штогод,*
*Пінск як святыню шануе народ.*

*Наш горад любімы ў свеце адзіны,*
*Першым пачаў пераможны парад,*
*Калі ў скрушны час Радзімы*
*Тут Корж утварыў*
*партызанскі*
*атрад.*

Прыпеў: *Вечна красуе жыта на полі,*
*Разам з Радзімай шукаем мы долю.*
*Будзе квітнець наш горад штогод,*
*Пінск як святыню шануе народ.*

*Чуецца гоман на нашым вакзале.*
*Як гэта добра — вяртацца дамоў.*
*Месяц калыша срэбныя хвалі,*
*Зноў з намі вера, надзея, любоў.*

Прыпеў: *Вечна красуе жыта на полі,*
*Разам з Радзімай шукаем мы долю.*
*Будзе квітнець наш*
*горад штогод,*
*Пінск як святыню*
*шануе народ.*

*Тут сінявокі наш люд працавіты,*
*Як промні нябёсаў храмы стаяць,*
*А кожны пінчук — таленавіты,*
*І гонар, і годнасць у нас не адняць.*

Прыпеў: *Вечна красуе жыта на полі,*
*Разам з Радзімай шукаем мы долю.*
*Будзе квітнець наш горад штогод,*
*Пінск як святыню*
*шануе народ.*

## Папараць-кветка

*Неба высока, поле шырока,*
*Лодка плыве за небакрай.*
*Сонейка грэе, маці гукае:*
*«Сена касіць не забывай!»*

Прыпеў: *Папараць-кветка*
*схавана ў тумане,*
*Пойдзем з каханаю шчасця шукаць,*
*Гоіць нам Прыпяць*
*душэўныя раны,*
*А наша доля — жыць і кахаць.*

*У светлым маі салоўка спявае*
*Для закаханых мала і дня.*
*Бацька шукае, маці гукае:*
*«Дзе гэта бачна — гуляць давідна?»*

Прыпеў: *Папараць-кветка*
*схавана ў тумане,*
*Пойдзем з каханаю шчасця шукаць,*
*Гоіць нам Прыпяць*
*душэўныя раны,*
*А наша доля — жыць і кахаць.*

*Траўка шапоча, рэчка пляскоча,*
*Голасам сэрца, чуеш, кахай.*
*Час праляціць —*
*і не ўзгадаеш,*
*Як адцвіце сонечны май.*

Прыпеў: *Папараць-кветка*
*схавана ў тумане,*
*Пойдзем з каханаю шчасця шукаць,*
*Гоіць нам Прыпяць*
*душэўныя раны,*
*А наша доля — жыць і кахаць.*

## Зорка Палесся

Прысвячаю знакамітаму фалькларысту-палешуку Міколу Котаву

*У нашым Тураве сонца багата,*
*У нашым Тураве песні гучаць.*
*А як прыгожа спяваюць дзяўчаты,*
*Трэба ў Тураў прыязджаць.*

Прыпеў: *Час бяжыць, чакае нас хата,*
*Прыпяць заўжды маладая мая,*
*У лодцы сядзіць хлапец канапаты,*
*а мне ўсё здаецца,*
*Што гэта я.*

*Час імчыць, чакае нас ніва,*
*Насустрач дзіцятка бяжыць.*
*Глядзіць на царкву яно як на дзіва,*
*З верай жывём*
*і будзем жыць.*

*Калі не стае вам жыццёвае сілы*
*І хоча нядоля забраць у палон,*
*Вас уратуе святы наш Кірыла,*
*Родны горад ахоўвае ён.*

Прыпеў: *Час бяжыць,*
*чакае нас хата,*
*Прыпяць заўжды маладая мая,*
*У лодцы сядзіць хлапец канапаты,*
*а мне ўсё здаецца,*
*Што гэта я.*

*Будзе свята і будзе там песня,*
*Добры на полі быў умалот.*
*Дык прыязджайце на Палессе,*
*Гасцей частаваць умее народ.*

Прыпеў: *Час бяжыць, чакае нас хата,*
*Прыпяць заўжды маладая мая,*
*У лодцы сядзіць хлапец канапаты,*
*а мне ўсё здаецца,*
*Што гэта я.*

# Вершы замест… рэцэнзіі

Юрась ШАМЕЦЬКА



Не ведаю, як хто, а я звычайна пачынаю чытаць любую рэцэнзію з таго, што цытуецца ў доказ станоўчага або адмоўнага вызначэння. І толькі потым вырашаю: знаёміцца мне з ёй ці не. Паводле цытат лёгка зразумець аб'ектыўнасць і дасведчанасць рэцэнзента. Можна напісаць шмат самых узнёслых, ухвальяльных слоў, якія ніякіх адносін да таго, на што яны спасылаюцца, не маюць. І наадварот: самі прыведзеныя радкі часам абвяргаюць любую крытыку. Сапраўдныя вершы ўмеюць пастаяць за сябе.

Вось чаму замест магчымай рэцэнзіі на кнігі прапаную чытачам «ЛіМа» вершы Юрася Шамецькі. Ён аўтар дзвюх кніг: «Шлях да вяртання» і «Атава», якія пабачылі свет у выдавецтве "Кнігазбор". Назва другога паэтычнага зборніка не проста нагадвае адзін з гарадоў Канады, дзе жыве паэт пасля заканчэння Мінскага радыётэхнічнага інстытута, але і траву, што вырасла ў той жа год на пакошы. Ёсць нешта неўтаймоўна жыццёвае ў гэтым сімвале. Менавіта тое, што дазваляе беларусам заставацца беларусамі і далёка ад Радзімы. Вершы Юрася Шамецькі сапраўды шматасацыятыўна пашыраюць прастору беларускай паэзіі нават геаграфічна. Хай кожны, хто прачытае іх, дадасць тыя словы, якіх, магчыма, пазбег я ў гэтай кароценькай прадмове, і павіншуе аўтара з 50-годдзем.

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

***

*За паваротам — паварот*
*шляхоў няпростых, —*
*мы пераходзім з году ў год*
*пары узнёслай.*
*Упэўненасць тваёй рукі*
*мяне трымае.*
*Пяшчота, быццам плынь ракі,*
*перапаўняе.*
*І разам ідучы далей,*
*сябе мы знойдзем…*
*Што не праходзілі раней,*
*аднойчы пройдзем,*
*бо неабсяжнасці палёт*
*спазнаць нам трэба…*
*За паваротам — паварот,*
*за небам — неба...*

***

*Я стану тым, што ёсць мая душа,*
*пад небам неспакойным не астыну, —*
*на хуткасці не спыніцца шаша,*
*калі свой лёс у вечары пакіну.*

*І палячу ў нязведаны прастор*
*скрозь памяць, скрозь*
*імгненні ратавання,*
*ў бязмежнасці невычарпальных зор*
*знайду адказ на вечныя пытанні.*

*Па небе вельмі лёгка палякаць, —*
*Шагал так разлічыў,*
*а я пацверджу,*
*што вышыня заўсёды толькі смерць,*
*калі шукаем адчування цвердзі.*

***

*Дні, быццам кроплі без вады,*
*дзе боль — рэальным болем,*
*знікаюць ныбы назаўжды,*
*губляюць моц і волю.*
*Сады да самазабыцця*
*цвітуць, і дом чакае…*
*Там лёгкасць даўняга жыцця*
*трывала узнікае…*
*Я дзён шчаслівых не міну,*
*бо памяць — дзіўны сшытак —*
*збірае з кропляў цішыню*
*і тчэ святло без нітак.*

***

*Маўчанне горада натхняе...*
*Шукаю ціхія завулкі,*
*што, без сумненняў і ваганняў, —*
*ужо як вечнасці падмуркі.*
*Мяне няма... І з гэтым — квіта,*
*бо заставацца немагчыма...*
*А снег ідзе, шукае рытмы*
*маёй пакінутай айчыны...*
*Мяне няма, і не хапае,*
*нібыта скрыпкі у аркестры,*
*і я амаль не адчуваю*
*паўночны холад у паветры...*
*Сябе ў сабе знайсці павінен,*
*а дзень яшчэ пачнецца новы,*
*дзе вершы, быццам бы навіны,*
*я запісаць ужо гатовы.*

***

*Чырвоны касцёл і старая Няміга...*
*Мой горад стварае элегію стомы...*
*Я вуліц чытаю адкрытую кнігу,*
*якая напісана*
*роднаю мовай.*

*Дамы бы ўрастаюць*
*у дрэму прасторы…*
*Тут лёгка згубіцца між*
*сценаў-квадратаў...*
*Мой горад, нібыта зіхоткае мора,*
*увесь — як адно незабыўнае свята.*

*Таемным даверам напоўняцца думкі…*
*А мне б на хвіліну да зорак узняцца,*
*каб бачыць старыя жывыя завулкі,*
*што ціха знікаюць,*
*хоць мараць*
*застацца.*

*І сёння, гуляючы ў горадзе светлым,*
*зноў бачу яго у агнях незлічоных*
*і чую свой голас над Свіслаччу ветлай —*
*павольны, ледзь гучны,*
*але нескажоны.*

Мікола АДАМ

# Навелы



## ФАНТАЗІЯ ДЛЯ СОЛА З ЦЫГАРЭТАЙ

Я смалю цыгарэту за цыгарэтай, а вецер гойдае мае валасы, нібы які ветразь. «Няўжо ўсё скончылася, няўжо нейкая тыднёвая радасць і асалода кахання зніклі як дым і больш не вернуцца?» — пытаюся ў маладога каштана старога восеньскага парка. Дрэва толькі шапаціць лісцем, што падае, кружляючы, на халодную веснянкавую зямлю.

Здаецца, яшчэ ж толькі ўчора Ты была такою вясёлай і мы гаварылі адно аднаму прыгожыя, добрыя словы. А сёння кінула мне толькі «бывай» і боль незразумелай аплявухі: я пацалаваў Цябе. Што здарылася?

Няўжо мы павінны руйнаваць нашу будучыню з-за таго, што твая малодшая сястра мне вельмі спадабалася. Але — як сястра. І цалаваў яе — як сястру.

«Як жа, як сястру!.. — чую я твой голас, а можа, гэта шум ветру? — Яна ж была на небе ад шчасця».

«Як яна магла быць на небе, калі...»

«Вось іменна, — ты перапытаў з ёй, — спыняеш Ты мяне, не жадаючы выслухаць. — Ты мне здрадзіў, і з кім?..»

...Цыгарэта патухла. Я палез у кішэню па новую, але пачак аказаўся пусты. Без курыва не магу, як без чытання, таму давялося прайсці ў канец парка да «камка».

Дым зноў мяне перанёс ва ўчарашні дзень — дзень Твайго нараджэння, у дзень, калі, як Ты гаворыш, я пераспаў з тваёй сястрой. Я стаміўся паўтараць, што не было ў нас нічога. Я Тваю сястру не ведаў, нават у вочы не бачыў ніколі да гэтага дня. Проста мы танцавалі, дык і Ты ж танчыла з іншымі хлопцамі. Я ж не кідаюся на Цябе з прэтэнзіямі, як шалёны воўк. У цябе была іншая сітуацыя? Яны — твае аднакласнікі? Вось-вось, у тым і сутнасць! Хлопцаў, з якімі Ты танчыла, ведала адзінаццаць гадоў як мінімум, а я тваю сястру — гадзіну.

Яна сама сказала, што перапала са мной?!.

...Папярхнуўся дымам, закашляўся, заслязіліся вочы. Канечне, гэта ўдар ніжэй пояса, але нічога не было ў нас! Каму Ты больш верыш: мне ці сваёй сястры?

...І, тым не менш, мне Ты не паверыла, палічыла здраднікам і не пажадала высветліць — пайшла з майго жыцця, як запаленая і тут жа згаслая свечка, — назаўсёды.

І я пытаюся ў цябе, Казанова-вецер, дзеля чаго мы сустракаліся, дзеля чаго мчалі на спатканні, ляцелі, на крылах, а вусны спляталіся ў доўгім гарачым пацалунку? Дзеля такой аксіёмы? Няўжо ў нашым жыцці — як у афарызме: «Усё прыходзяць і сыходзяць». Адказаў сабе сам: «Дзеля гэтага».

Падкурыў цыгарэту, кінуў пад ногі, растаптаў. Так атрымалася і з каханнем. А сястра Твая, мабыць, сядзіць і пасміхаецца, што разлучыла нарэшце нас, бо ёй не спадабаліся мае доўгія валасы, барада, мая нацыянальная годнасць і беларуская мова.

Дрыготкімі пальцамі падкурыў яшчэ адну цыгарэту, выпусціў дым, і вецер, падхапіўшы, разнёс, як слёзы па каханні, што так недарэчна скончылася...

Твая сястра ўсміхаецца. Я нават бачу яе зласлівы пагляд у жоўтым начным акне.

А цыгарэта гарыць — мая адзіная сяброўка ў часы адзіноты.

## ПРЫСВЕЧАНАЯ ЁЙ

Мы пазнаёміліся ў... электрычцы. Пустой, халодный, замерзлай электрычцы, дакладней, у тамбуры. Ён курыў, а ў мяне была цяжкая сумка, з якою я ўзабралася на прыступкі толькі з чацвёртай спробы. Ён не прапанаваў дапамогі: проста стаяў і курыў, сочачы за маімі высілкамі як за падзеямі «Маргошы».

— Мне, магчыма, трэба было прапанаваць вам свае паслугі, — сказаў ён пасля, адчыніўшы для мяне дзверы ў вагон, — але вы былі так заняты сваёй справай, што я баяўся перашкодзіць.

Я нічога не адказала. Ускараскаўшы вялізную сумку на сядзенне, села, пераве́ўшы дух. Мой спадарожнік, дакурыўшы, прымасціўся за два сядзенні ад мяне, нагадваючы тэлевізар, толькі без рэгуліроўкі: у вагоне, акрамя мяне і яго, нікога больш не было. Магчыма, для яго я таксама нагадвала тэлевізар, праўда, партатыўны.

Доўга, не варушачыся, не размаўляючы, мы не праседзелі, але не таму, што так ужо хацелася паразмаўляць (я, у прынцыпе, магла і сама з сабою), — вагон, у якім мы ехалі, быў сапраўдны лядоўняй, толькі замест сала і каўбас — мы. Вядома, можна было б прайсціся па іншых вагонах, але і ў астатніх не Афрыка.

Ён сам прапанаваў пагрэцца, і выйшаў у тамбур. Па чарзе мы грэлі рукі. Спачатку ён трымаў запаленую запалку пад маімі далонямі, пасля, наадварот, я. Але ж надоўга запалак не хапіла б... Ён прапанаваў, калі скончацца запалкі, гуляць па вагоне ў даганялкі. Я згадзілася. Што мне заставалася рабіць? Замярзаць не хацелася, а ён быў даволі сімпатычным маладым чалавекам, падобным да Сашы Бялова з «Гардэмарынаў». Я не-не дый пыталася ў сябе, а што калі гэты гардэмарын — той самы каўбой з майго ўчарашняга сну? Не каўбой, а гардэмарын — яшчэ лепш. Я паважала ў думках абодвух, і шалі паказалі на карысць апошняга. Засмяялася. Ад таго, што ў мяне з'явіўся гардэмарын. А я... я... я была Насцяй. Анастасіяй Ягужынскай. Для поўнага шчасця не хапала толькі Брылы. Хаця... ён з'явіцца пазней. Мільгане на адно імгненне, як здань, і растане ў воблаках цыгарэтнага дыму, рэхах гарэлкі і сентыментальных гуках разбітай гітары маіх сяброў...

Мы пачалі сустракацца. Ён чытаў мне вершы... чужыя. Але ўсё роўна было прыемна, таму што чытаў ён не каму-небудзь, а мне. Ён дарыў мне кветкі, праўда, не букеты крывавых ружаў, якія я вельмі любіла, а танныя букецікі ад бабулек у падземным пераходзе. Але ўсё адно было прыемна, таму што, зноў-такі, кветкі гэтыя ён дарыў мне. Ён хадзіў са мной у тэатр... Не, не ў Купалаўскі ці Музкамедыі, а ў аматарска-студэнцкі, які выступаў бясплатна, але ўсё роўна было цікава, таму што хадзіў са мной, а не з кім-небудзь іншым, і, здавалася, акцёры ігралі толькі для мяне. Ён пазнаёміў мяне і са сваёй сям'ёю, з вельмі цудоўнай мамай-мяшчанкай; аднак я ніколі не запрашала яго да сябе, таму што ён спадабаўся б маёй матулі, у чым я не сумнявалася, бо яна лічыла ўсіх маіх кавалераў ці наркаманамі, ці алкаголікамі, ці бандытамі і бясконца даймала б мяне, калі я, урэшце, выйду замуж за такога добрага разумнага чалавека, як ён.

А замуж за яго я якраз-такі і не збіралася. Ён кахаў мяне, і мне спачатку гэта падабалася, асабліва манеры XIX стагоддзя. Але нашы адносіны, сустрэчы, спатканні здаваліся чорна-белымі і нямымі, як першыя кінематаграфічныя стужкі. Мне хацелася феерверку, нейкіх прыгод, хацелася, каб пачуцці вырываліся з сэрца вулканам!.. Ды ён гэтага не дазваляў. Нават не тое, каб не дазваляў — проста не ведаў, што так можа быць. Магчыма, і ведаў, але чаму не прапаноўваў. Ён жа ведаў, што я прыгожая дзяўчына, якой патрэбны рух, святло, усмешкі, позіркі, азарт і пачуццё небяспекі... Я вырасла сярод дваровай шпаны, і мяне не задавальняла ціхая плынь яго паводзін. Не, я не асуджаю яго ніколькі. Ён кахаў мяне, ён заўсёды прасіў прабачэння, калі я крычала на яго проста так, каб хоць неяк разварушыць, але ён, як мядзведзь, быў непрабівальны і адно далдоніў «прабач». Урэшце я назвала яго бабай.

Гэта здарылася пад вечар ля майго пад'езда. Я сказала яму, што так болей не можа працягвацца. Раздражнялі яго спакойная павольная хада, павольныя сказы, маньерызм...

— Ты ледзь не падобны на «чалавека ў футляры», а да мужчыны табе як да неба...

— Я пакрыўдзіў цябе? — не змяняючы павольнага тону, прамовіў ён і дадаў: — Прабач.

Я тысячу разоў ведала, што менавіта так ён і скажа.

— Ты здзекуешся з мяне? — у той момант яго прысутнасць дзейнічала мне на нервы. Мне карцела зрабіць нешта такое, каб закрануць яго годнасць, ледзь не да таго, каб ударыць ніжэй пояса. А ён, не звяртаючы ўвагі на мой узбуджаны тон, працягваў сваё:

— Даруй мне, калі я цябе пакрыўдзіў.

— У тым жа і справа, што ты ні разу мяне не крыўдзіў, ні разу не ўдарыў ні маральна, ні фізічна, але з табою адчуваеш сябе старой Тарцілай. Хочаш, я закрычу на ўвесь голас, што ты не мужчына, хочаш?..

Не чакаючы яго адказу, баючыся перадумаць, я з нагамі ўзабралася на лаўку. Ля суседняга пад'езда сядзела парачка. Я была ўпэўнена, што яны чулі кожнае слова нашай размовы.

— Лю-юдзі-і! — закрычала я. — Лю-юдзі-і! Слухайце ўсе! Гэты чалавек... Ты — не мужчына, ты цяльпук! Ты баба!

З апошнімі словамі я страціла моц і крычаць, і стаяць на нагах. Вочы, бы галіны пупышкамі, набухлі слязьмі і прарвалі, нібы поліэтыленавую стужку, мой сухі крык.

— Зарадзіў бы ты ёй добра, — пачула я голас з суседняга пад'езда. Але ён... ён закурыў і сказаў:

— Ты стамілася, прабач.

І пайшоў. А мне... мне... я не ведала, ці бегчы за ім, ці працягваць хныкаць... Я толькі разумела, што мой гардэмарын мне толькі прытрызніўся, як каўбой у сне, за якім я выбегла на двор, але на двары, акрамя мокрага дажджу і вясёлкавых лужын, нікога і нічога не было.

...А калі Брылы вызірне з-пад аблокаў, быццам сонца, ці вынырне з ракі, быццам месяц, і прамовіць: «Анастасія, чаму вы цалуецеся?» — я заб'ю яго. Спачатку рассмяюся. А пасля заб'ю.

## ПРЫСВЕЧАНАЯ БЫЛОЙ АДНАКУРСНІЦЫ

Ён моўчкі курыў, выпускаючы заўсёды аднолькавыя струмені дыму, абапёршыся на парэнчы старога балкона.

Ветру не было, як не было і дажджу. Як не было снегу і сонца. Чорны шоўк ночы ўцягваў у сябе дым, выцягваючы разам з ім і яго душу.

Дамы навокал спалі, забыўшыся пра варон, што любілі сядзець на «вушах»-антэнах, на снег і дождж, якія балюча пляжылі вочы-вокны. Толькі ў адным доме свяцілася адно-аднюткае акенца, насупраць якога, на балконе, курыў ён. З пакоя даносіліся гукі чарговага шлягера (камерцыйны праект нейкага прадзюсара — дзяўчынка «бім-бом» з наіўнымі аграмаднымі вачыма і мініяцюрнай фігуркай, зусім як у Дзюймовачкі).

Каб шлягер не перашкаджаў думаць, ён прычыніў балконныя дзверы, нібы прыглушыў звонкі дзявочы голас рукою, і голас гэты пачаў нагадваць цяпер паўшэпт.

Яна, у адрозненне ад яго, умела маляваць музыку і ствараць такія карціны, што не сніліся ні Шагалу, ні Пікаса, ні Шэмякіну, ні Рэрыху, ні Сальвадору Далі, ні ўсім разам узятым. Толькі ён гэтага не разумеў. Уся музыка, акрамя эстраднай, якую безгустоўна афарбоўвала тэлебачанне, здавалася яму проста бясконцай, і ён не ведаў, як можна яе маляваць. Тым не менш яна малявала, але, у сваю чаргу, не ўмела маляваць паэзію, як умеў ён.

Такое непадабенства ў густах, аднак, не перашкаджала развіваццa раману паміж імі падчас вучобы ва ўніверсітэце. Далёка ад бацькоў, адчуваючы сябе вольнымі птушкамі і не маючы праблем са свабодай, як пушкінскі вязень, яны бесклапотна спальвалі дні, зусім як цыгарэты, што яна курыла часцей і больш за яго. Гэта цяпер ён раскурыўся.

Яна ніколі не называла яго па імені (хоць імя бацькі яму прыдумалі прыгожае), заўсёды звярталася да яго як тургенеўскія паненкі, па прозвішчы. Мабыць, прозвішча яго яна лічыла прыгажэйшым за імя. Яе ж імя ён паўтараў бы малітву, бо яно было верай у тое, што яны адчувалі адно да аднаго і што паміж імі адбывалася.

Памяць варушылася павольна, як чарапаха, аднак ён не падштурхоўваў яе. Ён сам не хацеў спяшацца ў сваіх развагах, бо праз тры гады пасля заканчэння ўніверсітэта яны выпадкова сустрэліся ў нядзельным парку.

Яна каціла каляску з дачкой. Ён нёс на руках сына.

І ішлі насустрач.

Ніякай размовы тады не атрымалася. Яна апусціла вочы, баючыся сустрэцца з яго позіркам, бо побач лёгкай спружыністай хадою крочыў муж. Ён адвёў вочы таму, што за яго руку трымалася маладая прыгожая жонка, не прыгажэйшая за яе, але, тым не менш, лаўрэатка: на другім курсе вучобы заняла на конкурсе «Міс наргас» першае месца.

Каго яны ўдвух абралі сабе ў спадарожнікі па жыцці?

А іх жа ў часы вучобы лічылі закаханай парай. Дакладней, яны самі абвясцілі пра свае заручыны дэканшы факультэта і пра вяселле, якое павінна неўзабаве адбыцца.

Ніхто не падумаў, што яны жартавалі. А ідэя была ягонай, каб не выключылі абаіх за непаспяховасць.

Дэканша паспачувала. Яна ўжо ведала, што ён друкуецца ў перыёдыцы і падае надзеі на будучыню.

Камедыя атрымалася. Яны з поспехам здалі летнюю сесію, і іх віншавалі з хуткім вяселлем.

Ніколькі не саромеючыся, яны падтрымлівалі сваю легенду і паўсюль заўсёды з'яўляліся разам.

Калі глядзець збоку, яны пасавалі адно аднаму. Абое цёмнаваласыя і смуглаватыя, ён крыху вышэй ростам — так і патрэбна быць.

Здаецца, у Сташэўскага ёсць радкі: «...поженились в шутку, развелись всерьез».

Амаль так было і ў іх.

Толькі ўспамінаць пра гэта не вельмі хацелася б.

Заканчваліся цыгарэты. Спаць ён не хацеў. Ды і не заснуў бы. Заўтра вяселле яго сына з яе дачкой.

Дзіўна, але дзеці вельмі нагадваюць маладых бацькоў. Толькі сын яго, узненавідзеўшы літаратурную багему, падаўся ў лётчыкі. Яе дачка, як ні супрацьўлялася матчыным захапленням, пісала музыку, якую маляваў яго сын.

Так, час ляціць шпарка. Як коні ў Высоцкага. «Чуть помедленнее, кони, чуть помедленнее...» Цытаванне калі-небудзь пагубіць яго. Але ці не дзеля цытавання часта забіваюць паэтаў?..

# Проза жыцця, паэзія кахання

Пачынаецца «Полымя» № 3 празаічна — з апавяданняў Міколы Гіля «Суседкі» і «Вечаровыя мроі». Напісаныя яны так, быццам бы гэтыя гісторыі аўтару распавялі самі героі: лаканічна ён перадае іх пачуцці, развагі пра жыццё, збольшага — побытавы яго бок. На гэты эфект сапраўднасці, нават дакументальнасці працуе і сама мова. Адметнасць ёй надаюць тры кампаненты: інверсія (і ўвогуле такая пабудова сказа, пры якой ужо напісаны аповед ператвараецца ў жывую гутарку), народныя показкі, якія арыгінальна спалучаюцца з цытаваннем літаратурнай класікі («няма таго, што раньш было») і сама лексіка — даволі рэдкая, характэрная якраз для вёскі: уабмеж, дзевачак, сіроціць, бытта, шчытненька, анягож (у творы чамусьці пішацца «а нягож») і інш. Але тут ёсць адна значная акалічнасць, на якую аўтару трэба звярнуць увагу: такі стыль — безумоўна, абаяльны, бо да ўсяго спрацоўвае эфект пазнавальнасці — прыдатны не да ўсякай тэмы. У апавяданні «Суседкі» такое спалучэнне формы і зместу выглядае арганічна; тым больш што гаворка ідзе пра жанчын, а стыль якраз і выглядае «жаночым». Калі той жа стыль пераходзіць у апавяданне «Вечаровыя мроі», абсалютны давер да інтанацый змяняецца насцярожанасцю.

Калі меркаваць па палымянскай падборцы, Мікола Мятліцкі, пакінуўшы тлумную рэдакцыйную




працу, прысвячае час дзвюм справам: думаць пра вялікае і радавацца адпачынку. Радзей узгадваецца колішняе каханне. Ёсць і рэфлексія з нагоды ўласнай паэтычнай творчасці. Што цікава, Мікола Мятліцкі ўводзіць у паэзію вобразы храма і душы, разважае пра барацьбу дабра і зла, але пры гэтым сама паэзія грунтуецца на паганскім светабачанні: галоўныя сімвалы — кроў і агонь, з імі — птушкі (сокал, коршун), маланкі і гром, сонца як сімвал жыцця і надзеі, плоцевае каханне, зоры, ноч, пашана да прыроды і апісанне яе як крыніцы энергіі.

Доўгае драматургічнае маўчанне ў часопісе перарывае Георгій Марчук. Дзея ў п'есе «Альгерд» разгортваецца ў часы зразумела якога князя. Асноўныя лініі барацьбы — хрысціянства і язычніцтва, служэнне радзіме і ўласная выгада. Традыцыйная ў п'есах Марчука любоўная лінія. І, як у папярэдніх п'есах аўтара, мова герояў вельмі «кароткая», жарты зазвычай адпускаюцца неадназначныя ці адназначныя настолькі, што становіцца ніякавата, асабліва калі ўявіць, як яны прагучаць са сцэны. Пры гэтым мова герояў аднолькавая, незалежна ад таго, прамаўляе княгіня Марыя ці сам князь, купец ці святар.

Вершы Алеся Пісарыка — суцэльная ода жанчыне, гэткай Алесі Купрына, неад'емнай ад ляснога царства (сучасных пісьменнікаў сталага веку відавочна не вабяць бізнес-вумен). Магчыма, у такім пакланенні жанчыне-прыродзе хаваецца стомленасць гарадам і пастаянным самакантролем, якому падпарадкоўваецца сучасны чалавек. Такія вершы — своеасаблівая сублімацыя, мара, выказаная ў рыфму. Самы яркі верш у нізцы — «Чараўніца»; ён вылучаецца кароткім радком і выразнасцю, з якой малююцца пейзаж і героі ў ім. Яшчэ адзін яркі штрых у падборцы — поўня як цыганка, што выпрошвае залаты пярсцёнак.

Аповесць Зінаіды Дудзюк «Ніка» распавядае пра дзявочае сяброўства, затым ставіць пад сумніў самую яго наяўнасць, урэшце дзяўчаты «ўваходзяць у дарослае жыццё», словам, перад чытачом разгортваецца гісторыя юнацтва некалькіх гераінь, і не апошняе месца тут займаюць сардэчныя справы. Галоўная ж гераіня-апавядальніца, якая атаясамліваецца з аўтаркай, ставіцца крытычна да кожнага свайго кроку і спрабуе зразумець, што правільна, а што не. Аднак нельга назваць гэты твор аповесцю сталення ці выхавання. Хутчэй гэта нататкі без намеру некага павучаць.

Сама за сябе гаворыць назва паэтычнай нізкі Віктара Сабалеўскага «Дазволь з табой да зорак узляцець», а твор, з якога ўзяты радок, пачынаецца са слоў «Дазволь з табой паслухаць цішыню», што прыводзіць на памяць верш Валярыны Куставай «Дазвольце з Вамі слухаць цішыню». Будзем лічыць гэта супадзеннем.

Па іншы бок барыкадаў з жаночым поглядам на каханне — паэтка Таццяна Сівец. Адметна, што лірычная гераіня яе вершаў намнога мацнейшая за лірычных герояў творцаў-мужчын.

Пазней мы больш падрабязна разгледзім падборку апавяданняў маладых аўтараў, чые імёны дасведчанаму чытачу вядомыя: Таццяна Будовіч-Барадуля, Сяргей Белаяр, Югася Каляда, Валерыя Саротнік. Аб'ядноўвае творы жанр фантастыкі.

**Адам БЕЛЬЧЫК**

# Смерць пад гукі мандаліны

У сакавіцкім нумары часопіса вас чакае свет прыемнай і лёгкай жаночай літаратуры, якая нібы вяртае ў нядаўнія святочныя дні. Калі яшчэ атрымаецца паверыць, што «Увесь свет — дабрыня, увесь свет — каханне», калі яшчэ давядзецца са спагадай прачытаць пра італьянскага скульптара Луіджы і мінскую Ладу-папялушку?.. «От весны до осени — лишь слово / Что шептали губы в тишине» — гэтыя радкі Наталлі Цвірко былі б выдатным эпіграфам да многіх вершаў новага «Нёмана». Але не без выключэнняў! Насуперак назве сваёй падборкі Кацярына Палянская — не з шэрагу тых, хто «Спявае толькі каханне». У яе энергічнай, часам агрэсіўнай паэзіі знаходзіцца месца і прозе жыцця, амаль эпічнаму расповеду пра сіроцтва і розныя лёсы колішніх сяброў.

Вершы Таццяны Мушынскай прывабліваюць зграбнасцю і выкшталцонасцю, а творы Уладзіміра Мазго добра спалучаюцца з іншымі паэтычнымі нізкамі чуйнасцю і рамантычным настроем. Успаміны пра колішнюю вясну і запаветную сустрэчу, якую так хочацца ўзнавіць, значныя і для гэтага аўтара.

Між цікавых празаічных твораў — апавяданне Алены Кісель «Адзін дзень чалавека ў чорным (споведзь бацюшкі-трэбніка)». Кожнаму хрысціяніну няпроста спалучаць рэалістычнае ўспрыманне жыцця з натхнёнай верай — а для асобы духоўнай гэта тым больш складана, што адступіцца ад абранага шляху амаль немагчыма. Трэба вучыцца знаходзіцца заўсёды побач з грахом, побач са смерцю, але прыносіць ва ўласны дом любоў замест «чорнага болю» і заставацца верным Боскім запаветам. Зрэшты, на псіхалагічным узроўні кожны па-свойму прыстасоўваецца да працы, да абставін жыцця...

На агульным фоне вылучаецца апавяданне Станіслава Дзеркача «Леў», прысвечанае праблеме наркотыкаў. ЛСД, насенне датуры, клей 88 — усё гэта дакладна забяспечыць жахлівыя трызненні з забойствам былой дзяўчыны і ўласнай смерцю. Наведваюць студэнта Льва і ўспаміны з «нарkаманскага марафону даўжынёй у жыццё» — а побач з абвугленым дрэвам пасярод пустэльні сядзіць змучаны цар звяроў і чагосьці чакае...

Фрагменты рамана італьянскага пісьменніка Джузэпэ Кулік'я «Амбараба» нібы вяртаюць у трагічны дзень 11 красавіка. Тунэль метро, станцыя, не знаёмыя між сабой людзі і нечаканае, беспадстаўнае злачынства. Чаму сучасны чалавек пазбаўляе жыцця выпадковага незнаёмага суайчынніка? Хіба справа ў нянавісці да самазасяроджаных «апатычных, бледных, маўклівых» пасажыраў, у абурэнні «абыякавасцю, адчужанасцю, цвярозасцю», якія пануюць паміж людзьмі? Фрагмент твора непазбежна давядзецца перачытаць, а з самім раманам хацелася б пазнаёміцца цалкам.

Проза Дж. Кулік'я перагукаецца з нарысам Эмануіла Іофе «Забойства Міхоэлса». Гэта гісторыя зусім іншага, падрабязна спланаванага злачынства, але для самой ахвяры смерць таксама непазбежны вынік.

Змрочны настрой змякчаюць акорды мандаліны з Collegium musicum Святланы Берасцень. Нават чалавеку не вельмі дасведчанаму ў музыцы будзе цікава даведацца пра «ідэйна шкодную» ў суровы савецкі час італьянку-мандаліну і музычныя традыцыі Беларусі. Пра любімыя многімі інструменты распавядаюць




лідары Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандаліністаў Галіна Асмалоўская і Мікалай Марэцкі.

Трагічнае і мройна-рамантычнае як адвечныя супярэчнасці жыцця — побач на старонках новага «Нёмана».

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**




# Вясна. Вершы. Rock'n'Roll

Сёння амаль кожны ведае, якім быў першы палёт чалавека на Месяц: Армстранг і Олдрын, «маленькі крок для чалавека і вялізны — для чалавецтва». А каб даведацца, як разважаў славуты мастак Язэп Драздовіч пра паходжанне і будову нябесных цел, міжпланетныя палёты, зносіны зямлян з жыхарамі іншых планет, трэба пачытаць яго рукапіс «Дзе мы і хто мы». Схематычны малюнак падарожжа чалавека на Месяц з гэтай кнігі можна пабачыць у № 3 часопіса «Маладосць».

«Увесь свет — тэатр, а людзі ў ім — акцёры». З гэтай вядомай цытаты Уільяма Шэкспіра пачынаецца эсэ Ягора Конева, але яна ніколькі не зніжае вартасць і арыгінальнасць самога тэксту. Шчыра кажучы, даўно ўжо не траплялася падобнага матэрыялу, у якім пераплятаюцца гісторыі журналіста, драматурга, сцэнарыста, выкладчыка — і гэта ўсё пра аднаго чалавека.

Паэзія Стасі Кацюргіной ужо можа быць вядомая чытачу: у маладой паэткі з Гомеля — два зборнікі вершаў — «Пад ветразем ранку» і «Парасон». Нават дзіўна, што на старонках «Маладосці» яе творы друкуюцца ўпершыню. Няма сумневаў, што яе жаноцкія, вытанчаныя радкі нікога не пакінуць абыякавымі. Празаічны ж дэбют у часопісе адбыўся ў Юльцэся Галоўчыца з лірычным апавяданнем «Квіток да бацькоў» і ў Вадзіма Крука, які прадставіў чытачу твор з інтрыгуючай назвай «Рыцар, віскі, Rock'n'Roll». Тэксты хлопцаў абсалютна розныя па тэматыцы, настрої, але іх аб'ядноўвае адчуванне юнацкага запалу, які вірує між радкоў, — найлепшы варыянт твораў для часопіса з назвай «Маладосць».

Калі вяртацца да паэзіі, то прапаную даць нырца ў «Сонечную раку» Касі Глухоўскай, у глыбіні якой можна адшукаць сапраўдныя перліны, паназіраць, як даспявае радок Марыі Кобец і прачытаць новыя вершы Віктара Шніпа, які нядаўна адсвяткаваў свой юбілей і прэзентаваў новы зборнік пад назвай «Заўтра была адліга».

Магілёўскі пісьменнік Данііл Жугжда аднойчы прачытаў Кіплінга «Сланяня», апошнія радкі якой: «Дрэнная казка, згадзіся!.. Маленькія мілыя хабаценькія слананяткі не заслугоўваюць такой жудаснай гісторыі... Таму, можа, прыдумаеш слананятак лепшую? Буду дужа рада!» — натхнілі напісаць сваю, добрую казку пад назвай «Чаму ў слананяці доўгі нос?». А ці атрымалася ў яго, прачытайце і вырашыце самі!

Увогуле з трэцяга нумара «Маладосці» атрымаўся б добры зборнік малой прозы, у які, безумоўна, увайшло б апавяданне Артура Камароўскага «Прывід мінулага». Твор вельмі паэтычны, бачна, што з-пад пяра аўтара выходзілі і вершы. Малады пісьменнік настальгічна распавядае пра сваю малую радзіму — гарадскі пасёлак Мір — так пераканаўча, што ўсе персанажы здаюцца блізкімі і знаёмымі. У апавяданні таксама ёсць крыху містыкі, што робіць яго яшчэ больш прывабным.

Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта прадставіла два шыкоўныя апавяданні, перакладзеныя з нямецкай і англійскай моў. Арцём Кавалеўскі дзеліцца ўражаннямі ад прагляду неверагодных работ фотамастака Уладзіміра Суцягіна. Алесь Дуброўскі распавядае пра ролю рыфмы ў паэтычным творы, а з інтэрв'ю з Яўгенам Барышнікавым можна даведацца, як зрабіць з глюка фішку.

І самы апошні матэрыял, як кажуць, «на салодкае» — рэцэнзія Маргарыты Дзяхцяр на нашумелы фільм «Бёрдмэн», які атрымаў Оскар, два Залатыя глобусы, перамог у некалькіх намінацыях Канскага фестывалю.

Такім чынам, першы вясновы нумар «Маладосці» атрымаўся вельмі разнастайным, больш празаічным (не страціўшы пры тым лірычнасці), крыху крытычным і перакладніцкім, поўным цікавых гісторый і знаёмстваў з таленавітымі асобамі.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Усе дарогі вядуць у Рым

**Калі пачаць з галоўнага, казка Антона Францішка Брыля «Ян Ялмужна» — шэдэўр сучаснай прозы, няхай і «казачнай», няхай і невялікі. Кароткая і «лакальная» гісторыя (дзея развіваецца ў Геранёнскім замку пана Ольбрахта Гаштаўта ды навакольных лясах) гучыць гэтак жа эпічна, як вялікая старажытная сага, і часам можна пачуць нават голас Гамера («чорнабароды, срэбнадаспешны»).**

Варта папярэдзіць будучага чытача: калі вы спадзеяцеся пасядзець за кнігай А. Ф. Брыля ў вольную хвіліну і адкласці, каб узяцца са справы больш значныя, не займайцеся самападманам: пільныя справы апынуцца ў другім шэрагу.

Чытаць гэты тэкст хутка немагчыма, у чым «вінаваты» стыль: кожнае слова — адзіна магчымае, чытач адчувае яго ўзважанасць і значнасць; тэмп апавядання — размераны і паважны, як і належыць старажытнаму казанню. Багата часу патрабуецца на асэнсаванне алегорый і разгорнутых метафар, якія нанізваюцца адна на адну, не пакідаючы ў творы месца для пустаты. Да ўсяго, стыль гэты вельмі ўчэпісты. Прачытаўшы некалькі старонак, ты і сам пачынаеш думаць ці прамаўляць, як героі твора: павольна, узважана і трошачку «ўстаражытнена». Мне думаецца, такое перайманне сведчыць пра жыццяздольнасць твора і яго несумненную прыналежнасць да мастацтва. Магчыма, вы памятаеце, як адзін з герояў «Цяжару жарсцей чалавечых» казаў: людзі схіляюць галовы перад мастаком, бо той змушае глядзець на свет яго вачыма, і калі мастак сказаў, што дрэвы сінія — так і ёсць.

Пасля «Яна Ялмужны» свет бачыцца ўпарадкаваным, і нават калі існуе ў ім нейкая несправядлівасць, то знаходзіцца яна на належным месцы. Гэта таксама сведчанне жанравай прыналежнасці. Строгая структура казкі прадвызначае трыумф справядлівасці, дабро тут заўжды трывала стаіць на нагах, а калі зло і ўяўляецца калосам, дык толькі на гліняных нагах. Пра прадвызначанасць усяго, пра ўпарадкаваны рух жыцця сведчаць і словы дзядзюхны, прамоўленыя Яну: «Пра тое не трывожся. Кола ўжо зламалася на ліпавым суку» (як тут не згадаць, што «Ганначка разліла алей»).

Герой казкі, кухмістр Ян, тыповы для свайго жанру: кемлівы, працавіты, умелы, словам — выбітны; у Брыля ён пазначаны яшчэ і сакральнай лічбай сем і ахрышчаны навальніцай. Антыгероя ў казцы няма. Сапраўды, не лічыць жа злом Якуба, бацьку Зафійкі, якую наш герой пакахаў?.. Але супрацьпастаўленне ёсць: гэта сутыкненне двух светаў — рэальнага, з сапраўдным замкам і гістарычнымі персанажамі, і таемнага, ляснога, дасяжнага толькі абраным. Лясны люд чыніць шкоду насельнікам ваколіц і можа нават загубіць чалавека, які заблукае ў іх уладаннях, але, зноў жа, гэта не зло: для вечнасці, у якой жыве лясны народ, іх шкадлівасць ды хітрасць не маюць аніякага значэння. Тым больш што спалучаюцца яны з вялікай мудрасцю.

З трывала выбудаванай структуры твора вылучаюцца быццам бы жартаўлівыя развагі Яна Ялмужны, прыкладам, пра тое, чаму кухары роўныя князям ці духоўным асобам. Нацешыўшыся з сафістыкі юнага кухмістра, мы разумеем: ён мае рацыю. Так, праз жарты, слоўную гульню аўтар дабіраецца да сутнасці рэчаў — як і праз дыялогі пана Ольбрахта і яго госця, біскупа Паўла. Сачыць за ходам іх думак — вялікае задавальненне, і не меншая асалода — у гукапісе А. Ф. Брыля. Часам гукапіс знарочысты, відавочны — «замак ценяў, замак зманаў — травенькі лес», «радуе роўна зрок і розум», часцей — прыхаваны ў празаічнасці выказвання: «Бацька ейны — баярын, з панавых улюбёнцаў. Ён на мяне і глядзець не стане...»; «кленчаць у чаканні паблізу».

Адна з цэнтральных алегорый «Яна Ялмужны» — танец патаемнага народу: калі звычайны




> *Антыгероя ў казцы няма. Але супрацьпастаўленне ёсць: гэта сутыкненне двух светаў — рэальнага, з сапраўдным замкам і гістарычнымі персанажамі, — і таемнага, ляснога, дасяжнага толькі абраным.*

> *Чытаць гэты тэкст хутка немагчыма, у чым «вінаваты» стыль: кожнае слова — адзіна магчымае, чытач адчувае яго ўзважанасць і значнасць; тэмп апавядання — размераны і паважны, як і належыць старажытнаму казанню.*

чалавек трапіць у гэты карагод, назад яму не вярнуцца, і шанц на ўратаванне ёсць хіба ў варажбіта, якім з'яўляецца заззвычай сёмы сын, народжаны ў навальніцу. Казка Брыля сама па сабе такі лясны танец, па сканчэнні якога разумееш: перад табой толькі што пранесліся стагоддзі, эпохі, і сам час быццам бы стаў адчувальны.

Вельмі верагодна, што пазней вы захочаце вярнуцца да кнігі, каб дабраць упушчанае, а ўхапіць усё зараз немагчыма: тэкст вельмі шчыльны, у ім няма ніводнага прахаднога сказа і ніводнага «агульнага месца». Нават традыцыйныя для беларускай народнай казкі структурныя элементы — магія лічбаў (некалькі разоў згадваецца сямёрка), тры загадкі як выпрабаванне, шматлікія рэфрэны, сімволіка вады і агню — усё гэта набывае новае гучанне дзякуючы «гістарычнасці», навуковай сапраўднасці фактаў і дэкарацый, а яшчэ — прыўзнёсенага духу пазачасавасці. Так, у народных казках час няпэўны, ёсць толькі спасылка на тое, што дзея адбывалася даўным-даўно, далёка-далёка. Тут жа — уяўная пэўнасць месца і часу, калі насамрэч няма ні таго, ні іншага. Ёсць толькі Час як бясконцасць і лясны народ як яго дзеці.

Пры гэтым усё казачнае не з'яўляецца тагасветным. Так, не кожны можа выклікаць на размову ляснога дзядзюхну, і, тым не менш, гэта магчыма. Для адных таемнае не выходзіць за межы кухонных плётак (пробашч Мацей), для іншых яно частка жыцця (Ян Ялмужна і пан Ольбрахт).

Што адметна, ніякай дзеі ў казцы быццам бы і не адбываецца. Усю значную інфармацыю чытач атрымлівае з дыялогаў (нездарма замест раздзелаў мы маем «размовы») і шматлікіх флэшбэкаў, часта замаскіраваных пад казкі (такая вось рэкурсія), якія потым дублююцца ў жыцці герояў.

Такім чынам, галоўная інтрыга твора палягае ў пытанні: а ў чым жа, уласна кажучы, інтрыга? У фантастычным знаёмстве Яна Ялмужны? У цёмным мінулым пана Ольбрахта? У захапляльных размовах князя і біскупа? Ці ўвогуле ў любоўнай лініі?..

«Лес вялікі, лёс няпэўны», а ўсе дарогі вядуць у Рым. Толькі пад заслону праясняецца сэнс пралога, і мы разумеем, што нездарма кругам пакой у замку пана Ольбрахта размаляваны сцэнамі з гісторыі пра міфічнага Палямона, і нездарма Ольбрахт гэты пакой так любіць. Такі сабе старажытна-эпічны дэтэктыў па матывах сусветнага фальклору ды міфалогіі.

> *Цераз жарты, слоўную гульню аўтар дабіраецца да сутнасці рэчаў — як і праз дыялогі пана Ольбрахта і яго госця, біскупа Паўла. Сачыць за ходам іх думак — вялікае задавальненне.*

Як і належыць казцы, завяршаецца яна вяселлем. І гэтым закальцоўваецца: пачалося ўсё з навіны пра смерць князя Аляксандра, скончылася — навіной «аб сумоўленым шлюбе». Але што самае цікавае, кульмінацыя наступае не ў самой казцы, а ў эпілогу, дзе аўтар літаральна спявае: пра тое, што «лес раўніва глядзіць на ўсё, чаго яшчэ не было танец таму»; пра тое, што вецер «гуляецца з тым, чаго праз танец не будзе»; пра тое, што «рака збірае абрысы ды робіць вадою, рухі — вадою, твары — вадою»; і пра тое, што ўрэшце «зорка сядае за лес, і вякі замыкаюцца ў кола». Асноўны тэкст — толькі спроба выказаць час, жыццё і яго непарушныя законы. І чаму б не назваць гэты твор паэмай?..

**Адам БЕЛЬЧЫК**

*Кніга прадастаўленая «Кнігарняй пісьменніка» (вул. Казлова, 2).*

# Сірэна малюе джаз

**Кажуць, нельга судзіць кнігу па вокладцы: нярэдка яна падманлівая і зусім не адпавядае змесіту. Калі ўспрымаць гэтае меркаванне літаральна, то насамрэч сёння якасць кніжных вокладак альбо не дацягвае да самога твора, альбо, наадварот, хавае яго, як ракавіна перліну. Але шэра-сінія хвалі глыбокага мора на дэбютным зборніку Таццяны Нядбай з неверагоднай дакладнасцю адлюстроўваюць не толькі змест, але настрой і глыбіню.**

Кніга «Сірэны спяваюць джаз» мае марскі водар: вершы ў ёй нібы сплеценыя з пругкіх хваляў, атмасфера — то прыемны брыз, то грозны і палкі шторм, а метафары ззяюць, як адшліфаваныя салёнай вадою каменьчыкі. Каб мы не згубіліся ў бязмежжы і не патанулі ў глыбінях гэтага лірычнага мора-акіяна, паэтка дае арыенціры, але ўсё бессэнсоўна: «зірні направа — гэта сірэны спяваюць джаз / зірні налева — карабель тоне».

Пра першую кнігу Таццяны Нядбай, здаецца, нельга сказаць больш дакладна і лаканічна, чым напісана ў анатацыі да «Сірэнаў...». Сапраўды, вершы ў зборніку вельмі інтымныя, кранальныя, але пры чытанні няма ўражання, што ты употайкі зазіраеш у чужы дзённік ці падглядаеш у шчыліну. Як гаворыцца ў анатацыі, творы ў зборніку складваюцца ў цэльную гісторыю: чакання, кахання, расстання — але, самае галоўнае, гісторыю акрыяння і спакою. Тым жа часам кожны верш — асобная гісторыя, каляровае шкельца ў калейдаскопе, якое прыгожае само па сабе, але разам з іншымі шкельцамі складае непаўторны ўзор, які змяняецца і раскрываецца новымі фарбамі: шклянка, гарбата, лыжачка / мапы на розных мовах / пра розныя кантыненты / і нават — зорнага неба / перадусім запомніць назвы сузор'яў / хто ведае / дзе прачынацца заўтра.

Не толькі вокладка, але і назва зборніка — «Сірэны спяваюць джаз» — выбрана вельмі трапна. Магчыма, аднайменны верш і не самы яркі ў кнізе, але ён перадае сутнасць: вершы Таццяны прываблівыюць, зачароўваюць, паглынаюць у бяздань паэзіі, аднак загубіць не могуць — наадварот, яны акрыляюць сваёй мілагучнасцю, рытмічнасцю, напеўнасцю: гэта як засынаць, гледзячы тэлевізар / жыццё працягваецца, а ты саступіў на ўзбочыну / дзе ніхто не пытаецца ні квіткоў, ні візаў / але і няма каму зазірнуць у вочы.

Дачытаўшы кнігу, разумееш таксама, што кожны верш — штрых да аўтапартэта, які Таццяна Нядбай намалявала акварэльнай лірыкай, часам лёгкай і празрыстай, а часам — згушчаючы фарбы:

*рызыка, а не рыза —*
*мая другая натура*
*візавая свабода забірае ў палон*
*мне — заставацца*
*з племем качэўнікаў*
*і трубадураў*
*і ў бітве з клаўстрафобіяй*
*ставіць усё на кон*

*і бяздомным сабакам злізваю*
*хмары з лужаў*
*смела бяру цукеркі*
*ў незнаёмых мужчын*




*і надзяваю шкарпэткі,*
*калі за вакном сцюжа*
*і не вылажу з ложка без*
*дастатковых прычын*

Карціна атрымалася, можа, не зусім праўдзівай і адпаведнай рэчаіснасці, але вельмі шчырай. І няхай: яна — мастак, яна так бачыць.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Любімы паэт? Мой сябар

**Ці можа ў жыцці быць так, каб лепшы сябар быў яшчэ і любімым паэтам? Антон Антонавіч Ус, мастацтвазнаўца, літаратуразнаўца і выкладчык, упэўнена адказаў бы: «Так!».**

## ВЕРШ НА ПАМЯЦЬ

Гісторыя сяброўства Антона Уса і Якуба Коласа вельмі цікавая. Яно было крыніцай энергіі для абодвух, нараджалася паступова будавалася крок за крокам. Напэўна, таму і было шчырым, моцным, пранесеным праз усё жыццё.

А жыццё Антон Ус пражыў нялёгкае. Нарадзіўся ў 1894 годзе ў в. Мішуковічы былой Віленскай губерні, цяпер Іўеўскі раён Гродзенская вобласці. Рана застаўся без бацькоў, зведаў горкую долю пастушка і батрака. Падчас імперыялістычнай вайны быў прызваны на службу. Пазней ён пісаў у аўтабіяграфіі: «Менавіта ў акопах ва ўзросце 20-ці гадоў навучыўся пісаць і чытаць. У Ломжы (польскім гарадку) я забег у кнігарню і купіў сабе «Русский язык» Барадзіна і «Арифметику» Кісялёва. Гэтыя кнігі сталі для мяне альфай і амегай».

Пасля заканчэння вайны Антон едзе ў Омск, дзе становіцца рабфакаўцам. Цікавіцца літаратурай, шмат чытае. Менавіта ў гэты час трапляе яму ў рукі кніжка на рускай мове, дзе адзіным беларускамоўным творам быў верш Якуба Коласа «На рэчцы». Верш усхваляваў Антона, бо дагэтуль ён ніколі не чытаў на роднай мове, да таго ж думкі паэта былі вельмі блізкія яму. Антон адразу вывучыў верш на памяць і пры выпадку расказваў яго сваім сябрам па вучобе.

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

Стаўшы студэнтам літаратурна-лінгвістычнага аддзела педфакультэта МДУ, Антон Ус рэгулярна чытаў беларускія выданні, цікавіўся роднай літаратурай і сам пачаў пісаць. Аднойчы ў часопісе «Маладняк» ён прачытаў казку «Што яны страцілі», падпісаную псеўданімам Тарас Гушча. Студэнт ужо ведаў, чый гэта псеўданім. Уражаны казкай, ён адважваецца даслаць ужо любімаму пісьменніку Якубу Коласу сваё апавяданне пра селяніна-бедняка (на жаль, лёс твора невядомы). Не за доўгім часам малады пісьменнік атрымлівае ліст ад Коласа з папраўленым ягонаю рукою апавяданнем. Гэта не засмучае Антона, наадварот, падбадзёрвае. Ды і сам Якуб Колас раіў пачаткоўцу шмат чытаць, назіраць за жыццём і, вядома, пісаць.

Зімою 1927 года адбылася доўгачаканая першая сустрэча з народным паэтам. У Маскве на Арбацкай вуліцы, у Беларускім зямляцтве, праходзіў вечар, прысвечаны творчасці Якуба Коласа. Пазней ва ўспамінах Антон Ус напіша: «На вялікую радасць усіх прысутных, з Мінску прыехаў сам паэт. Мы ўжо ведалі адзін аднаго па пісьмах, і гэта памагло нам яшчэ больш зблізіцца». Сустрэча стала пачаткам сяброўства.

Пасля заканчэння ўніверсітэта Антон Ус кіруе сектарам масавай прадукцыі ў адным з цэнтральных выдавецтваў краіны (ІЗОГИЗ), сустракаецца з вядомымі мастакамі. Артыкулы і рэцэнзіі маладога вучонага друкуюцца на старонках маскоўскіх часопісаў «Литература и искусство», «За пролетарское искусство».

## МАЛЕНЬКІ САКРЭТ «ДРЫГВЫ»

У лістападзе 1932 года А. Уса накіроўваюць на працу ў ЦК КП(б) Беларусі ўзначальваць сектар літаратуры і мастацтва. У вольны ад працы час Антон Антонавіч часта гасцюе ў Якуба Коласа, які тады жыў па Вайсковым завулку № 3. Пісьменнік уважліва слухаў успаміны сябра пра імперыялістычную і грамадзянскую войны. І адзін з аповедаў — пра тое, як быў раззброены белагвардзейскі канвой, — Коласу прыйшоўся даспадобы. Ён вырашае выкарыстаць успамін у раздзеле аповесці «Дрыгва», дзе



Малюнак Алесі Ісы

Мартын Рыль расказвае дзеду Талашу пра ўцёкі ад белапалякаў.

Летам 1933 года Ус і Колас разам адпачываюць на лецішчы ў в. Цербуты недалёка ад Мінска. Праз два гады Антона Уса накіроўваюць на працу ў Ленінград — дырэктарам Інстытута выяўленчых мастацтваў пры Акадэміі мастацтвазнаўства і адначасова, па сумяшчальніцтве, загадваць аддзелам мастацтва другой паловы XIX стагоддзя ў Дзяржаўным Рускім музеі. Паміж Коласам і Усам зноў пачынаецца перапіска. Антон Антонавіч друкуе ў газеце «Ленинградская правда» рэцэнзію на паэму «Новая зямля», выдадзеную ў скарочаным перакладзе С. Гарадзецкага (1934). А. Ус пісаў, што Колас у роднай літаратуры займае такое месца, якое займаў у рускай Пушкін, а ў польскай — Міцкевіч; адзначаў глыбокае і ўсебаковае адлюстраванне сацыяльных супярэчнасцей беларускай вёскі канца XIX — пач. XX ст. Пісаў таксама, што паэма праўдзіва паказвае паднявольнае жыццё селяніна таго часу, а сцэны народнага побыту ўзбагачаюцца асаблівымі па сваёй мастацкай сіле і вартасці карцінамі роднай прыроды. Цёплыя словы вельмі ўзрадавалі Коласа.

Вядома, ён не мог не наведаць А. Уса падчас прыезду ў Ленінград у 1935 годзе. Яны шмат часу бавяць разам: прыгадваюць першую сустрэчу, лета, праведзенае ў Цербутах, размаўляюць пра літаратуру і мастацтва. За тры дні Колас наведаў Эрмітаж і Рускі музей, пабываў у найцікавейшых мясцінах горада.

А пасля ад'езду Коласа, нечакана для ўсіх, Уса арыштоўваюць як «ворага народа» — на пяць гадоў. Цяжкія лагерныя ўмовы выбілі з каляіны Антона Антонавіча, але не пераставалі мучыць пытанні «Чаму?» і «За што?».

## «ЧАМУ НЕ ПІСАЎ РАНЕЙ?..»

У канцы 1940 года з моцна падарваным здароўем А. Ус вяртаецца з лагера. Пасля доўгіх хістанняў і развагаў — каб жа толькі не кінуць цень на пісьменніка — дасылае Коласу ліст. Той дзякаваў сябру, што напісаў, і пытаўся: «...Чаму не пісаў раней з самага пачатку сваёй жахлівай гісторыі?..»

Лёс закідвае А. Уса ў Молатава, дзе ён знаходзіць працу і жыллё. Але, на жаль, і тут спакою не знайшоў: набліжалася вайна. На фронт гэтым разам А. Ус не трапляе — слабое здароўе. У ліпені 1941 года Антону Антонавічу прыходзіць тэлеграма ад Коласа: «Могу ли я устроиться с семьёй в Молотове? Сообщи телеграммой. Якуб Колос. Клязьма» (чэрвень 1941 г.). Але ўмовы склаліся так, што Колас разам з сям'ёю і супрацоўнікамі Акадэміі навук накіроўваецца ў Ташкент, дзе і застаецца да заканчэння вайны. Але перапіска між сябрамі не прыпынялася. У лісце ад 06.08.1941 года Колас пісаў Антону Антонавічу пра тое, як сумуе па сябру, Радзіме, успамінаў цербуцкае лета з паходамі ў грыбы і праклінаў Гітлера. У сваіх пісьмах Ус шле песняру віншаванні з 60-цігоддзем, хвалюецца за здароўе пісьменніка, раіць менш працаваць і заўсёды перадае прывітанне сям'і Коласа. Распавеў ён і пра сваю п'есу «Коричневая чума» (пісьмо ад 06.12.1943 года), пра кінасцэнар, прысвечаны Рэпіну, хваліць паэмы Коласа «Суд у лесе», «Рыбаковая хата».

Пасля вызвалення Мінска А. Ус працуе выкладчыкам Мінскага педінстытута, потым — старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР. У часопісе «Беларусь», у «Літаратуры і мастацтве» друкуюцца такія сур'ёзныя яго артыкулы, як «Мастакі Беларусі мінулага», «Рэнесанс і барока на Беларусі», «Да вытокаў беларускага выяўленчага мастацтва». Ён уважліва сочыць за развіццём роднай літаратуры, асабліва — за творчасцю Я. Коласа, і адзін з першых піша рэцэнзію на яго паэму «Адплата».

## «ЛЮБЫ МОЙ ДРУЖА!»

У 1952 годзе Антон Ус апынуўся ў Брэсце. Жыў па адрасе: вул. Горкага, д. 15, кв. 20. Працаваў выкладчыкам літаратуры у Брэсцкім педінстытуце. У дні юбілею Коласа Антон Антонавіч выступае ў інстытуце з дакладам «Вобразы Я. Коласа ў выяўленчым мастацтве». Пазней ён напіша сябру (1956): «Доклад был нов и по теме, и по раскрытию содержания и многим очень понравился. Даже в сообщении по местному радио отмечался мой доклад, как самый лучший. Работал я над докладом с увлечением и читал с большим подъёмом… В докладе я показал огромное значение твоего творчества для белорусской литературы… Я показал, что ты в своём творчестве выражал и выражаешь живую связь трудового человека с природой, развиваешь и совершенствуешь…» Напрыканцы ліста А. Ус дзякуе: «Большое тебе спасибо за то, что ты принял такое тёплое участие в моей судьбе. Не знаю, как и чем отблагодарить мне тебя за такое хорошее, человеческое ко мне отношение.

*Любы мой дружа!*  
*З табою я ў шчасці,*  
*з табою і ў жалі,*  
*Ты ўсюды мне зззяеш*  
*блісканнем дзяніцы…*  
*Целую крепко, крепко. Антось».*

Апошняя сустрэча Якуба Коласа і А. Уса адбылася ў красавіку 1956 года ў бальніцы, дзе пісьменнік знаходзіўся на лячэнні. І зноў шмат размаўлялі пра літаратуру, мастацтва і пра палітыку… Праз нейкі час пасля смерці Коласа Антон Ус перадае ўсе лісты, фотаздымкі, кнігі з аўтографамі пісьменніка ў музей песняра.

Да канца сваіх дзён (студзень 1980 года) А. Ус працаваў над успамінамі пра Якуба Коласа, перачытваў яго творы, шмат расказваў пра яго сваім студэнтам. І самае галоўнае — лічыў сябе шчаслівым, што ведаў Якуба Коласа, і называў яго «…любімым паэтам і лепшым сябрам».

**Наталля ШЛЯЖКА**

*Імпрэза*

# Завітаў да Броўкі Вій

Літаратурны музей Петруся Броўкі на тры вечары, з 25 па 27 сакавіка, ператварыўся ў тэатральную пляцоўку. Імправізаваную сцэну ў кватэры беларускага класіка занялі яркія і неардынарныя эксперыментатары — тэатральная майстэрня «Студыёзы». Два прэм'ерныя спектаклі, якія яны прапанавалі гледачам, былі прымеркаваныя да Міжнароднага дня тэатра: «Вадэвільчыкі» (па творах Тэфі, А. Аверчанкі, І. Ільфа і Я. Пятрова) і «Вій» (паводле аповесці М. В. Гогаля).

«Студыёзам» няблага ўдалося змясціць шырыню гогалеўскага містыцызму ў абмежаванай прасторы аднаго пакойчыка. Дэкарацыямі служылі сцены, зацянутыя чорная тканінай, і столь, на якой адбівалася гульня святла і ценяў.

Пачалася пастаноўка «Вія» зусім не ў класічных традыцыях: малады людзі з ноўтбукамі высвятлялі з дапамогай гугла, хто ж такі Вій. Аднак постмадэрнізм на гэтым скончыўся. Тэкст класіка не пацярпеў пераробак. Затое з гукамі рабілася нешта неверагоднае! І жахлівае… Акцёры не толькі размаўлялі, але і стваралі галасамі ўвесь «музычны» фон твора — скуголенне ваўкоў, гоман натоўпу, шоргаты начнога лесу і злавесная вядзьмарчына бурчанне.

«Страшна будзе, праўда!» — паабяцалі са сцэны. Як жа было на самай справе? На гэтае пытанне кожны адкажа па-свойму, але атмасфера спектакля сапраўды была жудаснай. Святло ў «зале» перыядычна знікала, а з абсалютнай цемры раптам з'яўляліся твары, падсветленыя ліхтарыкамі.

Каларыт пастаноўцы дадавала пластыка рухаў акцёраў, яскрава перадаючы гісторыю барацьбы філосафа Хамы Брута і ведзьмы-паненкі. А вось крыкаў і скуголенняў, здаецца, было зашмат. Тым не менш тэатральная майстэрня здолела даволі гарманічна сінтэзаваць традыцыйнасць і сучасныя павевы ў тэатральных формах. Вольных месцаў у музеі не было.

«Студыёзы» з'явіліся ў 2008 годзе. Кіраўніком калектыву стаў кандыдат культуралогіі, дацэнт Вячаслаў Сашчэка. Удзельнікі майстэрні — студэнты і выпускнікі кафедры тэатральнай творчасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

**Марыя ВОЙЦІК**

Паралелі

# Чужая родная мова

**Сёння імя Ірэны Брэжны, швейцарскай пісьменніцы славацкага паходжання, вядомае ў многіх краінах свету. Яна выдатны журналіст, аўтар дзевяці мастацкіх і публіцыстычных кніг, лаўрэат шматлікіх літаратурных узнагарод. А калісьці, у 1968 годзе, 18-гадовая Ірэна была адной з эмігрантак з Чэхаславакіі, якая ў пошуках новага жыцця разам з сям'ёй пераехала ў Швейцарыю.**




*Ірэна Брэжна прэзентуе беларускі пераклад сваёй кнігі «Найлепшы з усіх светаў».*

Пра вызначэнне свайго пісьменніцкага голасу, пераадоленне міжэтнічных бар'ераў, а таксама пра тое, што адчувае аўтар, які толькі ў 30 гадоў піша свой першы тэкст на чужой мове, спадарыня Ірэна распавяла на сустрэчы, што прайшла ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску. Нагодай для гутаркі стаў выхад беларускамоўнага перакладу яе кнігі «Найлепшы з усіх светаў». З нямецкай мовы кнігу перастварыла Лізавета Касмач, у якасці рэдактара выступіў Сяргей Сматрычэнка.

Невялічкі раман «Найлепшы з усіх светаў» упершыню пабачыў свет у Берліне ў 2008 годзе. Па словах аўтаркі, кніга была вельмі добра ўспрынятая як чытачамі, так і крытыкамі.

— У Германіі літаратурныя крытыкі штомесяц вызначаюць спіс самых лепшых кніг, і мой раман таксама туды трапіў, — распавяла спадарыня Ірэна. — У Славакіі я атрымала прэмію «Лепшая кніга года», хоць пры абмеркаванні вынікаў у камісіі ўзнікла вельмі сур'ёзная спрэчка. Былі тыя, хто казаў: «Кніга напісаная па-нямецку, а значыць, гэта не славацкая літаратура». Але былі галасы і на маю карысць: я нарадзілася ў Славакіі, пішу пра сваю радзіму і нават дагэтуль маю славацкі пашпарт, больш за тое, раман вельмі хутка выйшаў у перакладзе на славацкую мову. А вось з перакладам на французскую надарылася авантура. На мінулым тыдні я была ў Францыі, дзе мусіў прэзентавацца раман, але, на жаль, да імпрэзы кніга так і не «даехала», выданне з'явілася на дзень пазней. Добра, што з беларускім перакладам такога не адбылося.

Дарэчы, праз знаёмства з перакладам свайго рамана на беларускую спадарыня Ірэна пазнаёмілася з нашай мовай:

— Хоць я славіст па адукацыі, але па-беларуску чытала ўпершыню, — расказвае пісьменніца. — Гэта вельмі добры пераклад. А паколькі перада мной быў уласны тэкст, я ўсё разумела. Беларуская мова — вельмі прыгожая, мяккая. Дарэчы, перакладчыку вельмі страшна, калі аўтар разумее мову, на якую пераствараецца яго твор. Так было ў выпадку з перакладам на чэшскую. Перакладчыца была вельмі няшчасная, бо я ўступалася за некаторыя моманты.

> *У маёй гераіні любоў да навязанай мовы — як дысідэнцтва, і яна толькі ў таямніцы ад усіх, сама з сабой можа на ёй размаўляць. У мяне таксама так было, і гэта працягвалася, калі мы пераехалі ў Швейцарыю. Бацькі былі ў шоку, што толькі руская мова, чужая і навязаная, адкрыла для мяне свет, вельмі дапамагла ў жыцці.*

«Найлепшы з усіх светаў» — не самая папулярная кніга пісьменніцы. Найбольшую прыхільнасць чытачоў здабыў твор «Няўдзячная чужаземка» (выйшаў летась у перакладзе на рускую мову ў выдавецтве «Эксмо») — працяг гэтага ж расповеду. І калі ў першай кнізе аўтарка вядзе гаворку пра жыццё 11-гадовай Яны ў сацыялістычнай Чэхаславакіі, то ў другой звяртае ўвагу найперш на адметнасці працэсу сацыялізацыі эмігрантаў. Абедзве кнігі маюць аўтабіяграфічную аснову і фактычна распавядаюць пра дзяцінства і юнацтва самой аўтаркі. Ірэна Брэжна зазначае:

— Калі мне было 18, мы з сям'ёй пераехалі ў Швейцарыю, не ведаючы пра яе нічога, акрамя сыру і шакаладу. Аказалася, што гэтая краіна зусім іншая, ды і жыць там было не так лёгка. Мая кніга прысвечаная гісторыі эміграцыі не толькі ў часы халоднай вайны, але і сённяшніх прыезджых. Было вельмі важна паказаць унутраны свет чалавека, які вырашае пачаць новае жыццё ў паспяховай краіне. Уяўленне пра тое, што эмігрант можа цалкам знайсці сябе ў новым грамадстве — зусім няправільнае. Сёння ўсё часцей кажуць, што прыезджы мае права быць чужым, але ён абавязаны вучыць мову краіны пражывання і выконваць яе законы.

Нягледзячы на ўсе цяжкасці адаптацыі ў чужой краіне, спадарыня Ірэна здолела знайсці сябе ў прафесіі журналіста, а таксама займела ўласны пісьменніцкі голас — ужо на нямецкай мове. Яна распавяла:

— Нельга думаць, што я нічога іншага ў Швейцарыі не рабіла, як пісала пра сваё дзяцінства, эміграцыю. Я працавала журналістам і перайшла на нямецкую мову. Калі я прыехала ў новую краіну, мне было 18, я не размаўляла па-нямецку. У той час жалезная заслона была настолькі моцнай, што я думала: для каго мне пісаць па-славацку? Што пісаць? Я ўсю сваю энергію скіравала на вывучэнне мовы, толькі праз 12 гадоў змагла на ёй пісаць. Пасля перабудовы для мяне адкрыўся агромністы рэгіён, у тым ліку дзякуючы рускай мове, якую я таксама ў той час ужо ведала. Я магла паехаць на рэпартажы ў Расію, Малдову, Польшчу, у 1996 годзе была ў Чачні ваенным карэспандэнтам. Вайна ў мяне забрала ўвесь гумар — самую паважаную якасць у Чэхаславакіі. Было пачуццё страты свайго «Я». Менавіта тады пачала пісаць пра сваё дзяцінства, ды і не працую так часта журналістам, каб неяк узнавіць сваю ідэнтычнасць і прынесці ў нямецкую мову сярэднееўрапейскі гумар. Нямецкая мова мне выратавала жыццё, бо менавіта ў ёй я знайшла свой голас.

Нягледзячы на тое, што кніга «Найлепшы з усіх светаў» аўтабіяграфічная, сама Ірэна Брэжна называе яе хутчэй мастацкім, чым дакументальным творам:

— Адметнасць рамана яшчэ і ў тым, што пра сваё славацкае дзяцінства я распавядаю па-нямецку. Зусім іншая мова стварае дыстанцыю, я нібыта расказваю чужую гісторыю. У той жа час для мяне важны асабісты вопыт, атмасфера эпохі. Пасля вяртання з Чачні было складана пісаць на лёгкія тэмы, і я падумала: а можа, маё дзяцінства і не было такое лёгкае? Менавіта тады я зразумела, што тыя гады сапраўды нельга назваць цалкам светлымі. Мая гераіня Яна — разумніца. Натуральна, у той час я зусім па-іншаму разважала, дзяўчынка не можа так думаць, але старалася перадаць свае дзіцячыя ўспаміны, адчуванні. У кнізе многа дэталяў былой эпохі. Школа прапагандуе сацыялізм, бабуля — каталіцызм, бацька — спорт, маці — прыгажосць, дзядуля — паважлівае стаўленне да прыроды… Мне хацелася паказаць, як маленькая дзяўчынка спраўляецца з гэтымі ўплывамі, як выкрышталёўваецца яе ўласнае стаўленне да свету.

> *Уяўленне пра тое, што эмігрант можа цалкам знайсці сябе ў новым грамадстве — зусім няправільнае. Сёння ўсё часцей кажуць, што прыезджы мае права быць чужым, але ён абавязаны вучыць мову краіны пражывання і выконваць яе законы.*

У кнізе фігуруе шмат нацый, шмат моў, кожная з гэтых дэталяў вызначае характэрныя рысачкі жыцця ў сацыялістычнай Чэхаславакіі. Аўтарка падкрэслівае, што ёй вельмі падабаўся сацыялістычны пафас, творы Максіма Горкага, расповеды пра Цімура і яго каманду. Але тут яна хутчэй не апісвае сябе, а спецыяльна падбірае моманты, характэрныя для эпохі. Знаёмства з рознымі мовамі ў жыцці маленькай Ірэны стала лёсавырашальным момантам:

— Мы тады чыталі сусветную літаратуру па-чэшску, яна не была перакладзеная на славацкую мову. Гэта была і чужая, і блізкая мова, ад сустрэчы з якой я адчувала радасць. У чацвёртым класе прыйшла руская мова, якую я таксама вельмі палюбіла, хоць гэта было не прынята ў грамадстве, бо лічылася, што мова навязвалася славакам. У маёй гераіні любоў да навязанай мовы — як дысідэнцтва, і яна толькі ў таямніцы ад усіх, сама з сабой можа на ёй размаўляць. У мяне таксама так было, і гэта працягвалася, калі мы пераехалі ў Швейцарыю. Бацькі былі ў шоку, што толькі руская мова, чужая і навязаная, адкрыла для мяне свет, вельмі дапамагла ў жыцці.

Па меркаванні аўтаркі, раман «Найлепшы з усіх светаў» — гэта перадусім сямейная гісторыя, бо падыход да свету ў гераіні ўніверсальны і ён можа дапамагчы сучасным дзецям зразумець рэчаіснасць. У той жа час гэта і расповед пра шчаслівае дзяцінства, па словах Ірэны Брэжны, яно было насамрэч найлепшым з усіх светаў.

Што да планаў на будучыню, пісьменніца адзначае, што зараз піша сатырычныя тэксты пра трэнды, якія мы назіраем у грамадстве. І з усмешкай дадае:

— Я не такі пісьменнік, які можа прыдумаць грунтоўны сюжэт з некалькімі персанажамі, прадумаць наперад іх лёсы. Мой выдавец вельмі хацеў бы, каб атрымаўся раман, але я не думаю, што ён напішацца.

**Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара**

# Стэпавы прастор

Кнігу перакладаў паэзіі легендарнага Абая на беларускую мову Мікола Мятліцкі назваў «Стэпавы прастор». Адметная характарыстыка, адметны архетып, які спадарожнічае казахам праз усе вякі. Часцінка гэтага стэпавага прастору — і ў публікацыях «ЛіМа», якія па-беларуску прадстаўляюць прозу Дзільдар Мамырбаевай, паэзію Нурлана Аразаліна, Адзільбека Ыбырайымулы, Галыма Жайлыбая. Над пераўвасабленнем іх твораў на мову Купалы і Коласа рупіліся Ірына Качаткова, Навум Гальпяровіч, Таццяна Сівец, Адам Шостак.

Сёння казахская літаратура на ўздыме. Яе галоўныя памкненні скіраваны на тое, каб ісці наперад разам са сваім народам ва ўсталяванні суверэнітэту, у яго памкненнях да мірнага суіснавання з усім светам, ды разам з тым не забыцца на традыцыі, гістарычны вопыт, які сучасныя мастакі слова найперш звязваюць з Абаем, Мухтарам Аўэзавым ды іншымі сапраўднымі лідарамі не толькі ў літаратуры.

**Максім БЕРЛЕЖ**

## Адзільбек ЫБЫРАЙЫМУЛЫ



***

*Гэты снежаньскі дзень,*
*гэты холад аблокаў,*
*Стыне чорны быльнёг —*
*на марозе няўтульна яму.*
*Ды цудоўная песня*
*праносіцца раптам*
*здалёку,*
*Працінаючы сумам*
*нарынскую нашу зіму.*
*І на сіверы гэтым*
*раптоўна заплакаў*
*вярблюд,*
*Нават воўк сівагрывы стаіўся ў чаканні ў пясках.*
*Толькі плача вярблюд, бо з маленства ён тут*
*Зведаў холад, і сцюжу, і свой несціхаючы страх.*
*І праносіцца ноч, і марозны праносіцца дзень,*
*Ды пасецца вярблюд. Сорак дзён ён ваду толькі п'е.*
*І няймецца яму. І гарбаты калышацца цень.*
*І сляды на пяску зноў вярблюд пакідае свае.*
*Сіні снег і вярблюд — ён пакіне ў ім свой валасок.*
*Што за радасць брысці па зыбучых пясках і снягах?*
*Толькі раптам зірне на людзей падарожных здалёк,*
*І не дай Бог вам плётку трымаць у той час у руках.*
*Ён гарачы і страшны, калі разгуляецца шал,*
*Нават вырваць гатовы ў няшчаснай*
*вярблюдзіцы горб…*
*І крычыць ён у неба — ажно замірае душа, —*
*І даносіцца крык праз пяскі да заснежаных гор.*
*Стыне чорны быльнёг на сухім і марозным вятры.*
*Ды на чорны быльнёг не звяртае ўвагі вярблюд.*
*І праходзіць зіма, і ўзыходзіць вясна на зары,*
*І аблокаў на небе прадоўжыцца стоены цуд.*

***

*Я чую конскі тупат за Сулою*
*І ведаю, хто коней гаспадар,*
*Калі плыве над ціхаю ракою*
*Магутны і чырвоны сонца шар.*
*Бо гэта родны Стэп — мая краіна,*
*Дзе травы падміналі капыты,*
*Якая свеціць мне святлом няспынным,*
*І мроіцца заўжды агнём святым.*
*Кіпчацкая арба, твая былая слава*
*Па тых шляхах, якіх не бачым мы*
*Нібыта той табун, удалеч паскакала*
*І знікла ў сівізне заснежанай зімы.*
*І цеціва-струна, што той стралок далёкі*
*Гатовы быў пусціць, напругай не звініць,*
*І толькі ціш травы і вечныя аблокі*
*Пра даўні вояў час нам могуць гаварыць.*
*Ды толькі продкаў дух гуляе ў тонкіх жылах,*
*Магутны ўладар, не дай нам новых бед!*
*І вернасць і любоў у сэрцы не астыла,*
*І помніцца заўжды нам продкаў запавет.*
*А раптам нехта зноў захоча стрэліць з лука,*
*Кальчугу нацягну і смела рушу ў бой.*
*Хай і памру ў баі, няхай загіну ў муках,*
*Ды воінам заўжды я буду, Стэп, з табой!*
*Калышацца трава, мой Стэп, цябе люблю я,*
*Ты за Сулой-ракой раскінуўся наўсцяж.*
*З табой зямны свой шлях дарэшты давякую,*
*Бо ты мой светлы дзень і мой свяшчэнны сцяг!*

**З казахскай. Пераклад Навума ГАЛЬПЯРОВІЧА**

***

*Пяшчотная дзяўчына ў сукні тонкай.*
*Ды харство схаваць няпроста.*
*Толькі*
*Загледзеўся — і падалося мне,*
*Што грудзі ейныя — гранаты на галінцы,*
*А на гранаце — ці жучок, ці лісцік,*
*Я пацягнуўся скінуць, бы ўва сне.*

*Адскочыла! А вочы, бы ў казулі.*
*Пабегла, бы вятры яе садзьмулі,*
*Вясновай навальніцаю — няма!*
*Задыханы, навыперадкі з хваляй,*
*Уздоўж ракі я бег — ды далей, далей*
*Спалоханую постаць бачыў я.*
*Ды ўсё адно, цераз абрывы, плёсы*
*Імчаў за ёю, быццам гнаны лёсам,*
*Туды, дзе п'е заранка з ручая.*

*Я бег за ёй, рака шаптала: «Марна»,*
*Я не дагнаў!*
*Схавалі поўню хмары,*
*Дык, можа, і не лёс, скажы, вярба?*
*Або дапамажы мне ў паляванні!*
*І вось, нібы адказ маім жаданням,*
*Дзяўчына спатыкнулася.*
*Хіба*

*Цяпер я ўспомню яе слёзы, словы,*
*Як зноўку бегла ад мяне, і ловы*
*Прадоўжыліся. Сэрца, бы агонь,*
*Вяло мяне па сцежках пакручастых,*
*(Мая ўцякачка дыхала так часта!)*
*І я згарэў у полымі яго.*

*Няма больш бесклапотнасці цнатлівай.*
*Я ўшчэнт раструшчыў свет свой палахлівы.*
*Я мару апаганіў назаўжды.*
*Праклён табе, мой поспех бессаромны!*
*Навошта я лічыў сябе героем?*
*Навошта чысціню пусціў на дым?*

### Кавярня «Сіцылія»

*Ён не лічыць гадзінаў. Ягоныя плёны —*
*Здратаваныя лёсы. Жыве як ідзе.*
*Ды калі ён сюды завітае, стамлёны,*
*То й тады пісталет у кішэню кладзе.*

*Гэта ты, горад мой, Алматы! Прыгажосцю,*
*Бы радзімкай на целе каханай завеш!*
*Але толькі ты стаў гэтым вулкам не госцем,*
*Разумееш, што ў жорсткай пустыні жывеш.*

*Калі ўлада рукою махне, то джыгіты*
*Не зважаючы, пойдуць галовы касіць.*
*Іншамаркі. Гасцініцы. Курвы. Бандыты.*
*Ноч палюе на тых, хто не ўмее прасіць.*

*Ты цярплівы, мой браце казах, ты з пакорай*
*Штосвітання брыдзеш на пакуты свае.*
*Але іншыя ёсць, хто твой вырак паскорыць,*
*Гэта ноч ім да рання правы аддае.*

*Не схавацца ад здрайцаў — ні ўзімку, ні летам.*
*Хто адкажа, хто горшы, хто скажа, хто лепшы.*
*Знікне злодзей — на змену прыходзіць другі.*
*Горад мой памяняўся? Мой горад скалечаны!*
*Горад мой не вяртае пазыкі-даўгі.*

*Так спакусна шапочуць шалёныя грошы.*
*Я ў «Сіцыліі» вершы свае прадаваў.*
*Ды дзяўчаты смяяліся: «Многа ж ты просіш!»*
*Я ім сыпаў капейкамі-словамі ўроссып,*
*Апранаў свае рыфмы я ў шоўк і ядваб.*

*А пасля галаву пацалункі кружылі,*
*Толькі пільна сачыў гаспадар. Ліў і ліў*
*Ён мне ў келіх каньяк, каб дзяўчаты чужыя*
*Мне ў яго рэстаране сваімі былі.*

*О, казахі мае! Вы без добрае справы*
*Рады ўсім за капейку чужынцам служыць.*
*А яны па кавярнях найлепшыя стравы*
*Будуць есці за вас — вы ж не маеце права*
*У сваёй жа краіне ні есці, ні жыць!*

*Яны рэжуць ягнят і віно наша смокчуць.*
*У бязроднага смецця народ мой — слуга.*
*Я выходжу на вуліцу, крочу я моўчкі,*
*Бо душу назаўжды паланіла туга…*

*Я свае развярэдзіў глыбокія раны,*
*І, каб смутак пякельны да рання аціх,*
*Я красуню адну забяру з рэстарана —*
*Тую дзеўчыну, што цалаваў больш за ўсіх…*

**З казахскай. Пераклад Таццяны СІВЕЦ**

## Галым ЖАЙЛЫБАЙ



### Чорная хустка

*Паэма-рэквіем*

Урывак з раздзела
«Карагандзінскі лагер»

*Спыніцца трэба нам,*
*сваю хаду спыніць,*
*жалобных каб падзеяў*
*нітку падхапіць.*
*Зямля Алаша,*
*няўжо ты назаўжды?*
*Пакуты, боль, якія нам*
*не пераждыць?*
*Але спяшаемся:*
*жыцця віхуры, тлум.*
*Здаецца, лагер быў,*
*Карлаг? Ці проста шум?*

*Ні фанабэрыстай паненцы,*
*ні табе, лайдача,*
*тоне род твой быццам у вадзе,*
*Не адпіхнуцца ад мінулага.*
*Паўсюль*
*крывавы след гаворыць*
*пра сябе.*
*Не, не заўжды*
*квітнелі краскі Сары-Аркі[1] —*
*Тут кроў цякла па венах*
*рэчышча ракі.*

*І човен роспачы ў пустэчу*
*адплываў.*
*Дваццатае стагоддзе,*
*кат ім кіраваў.*
*Пад караганнікам тваім,*
*зямля Карлага,*
*Шкілет, вантроба*
*ненажэрная дзяржаў.*
*Ладдзя сляпая і пагэтуль*
*тут плыве,*
*І мы таксама*
*блукаем у імгле.*

*Няхай міне і зло,*
*а слёзы*
*ўсё цякуць.*
*І вось прыйшоў ужо нібыта*
*Божы Суд.*
*Зямля ўся плача*
*у жалобе з Казахстанам.*
*І я смуткую,*
*толькі цень Карлагу тут!*
*Са мною кожнае імгненне,*
*кожны крок.*
*Архіпелаг*
*дваццатага стагоддзя —*
*змрок.*

*Драпежны, чорны цмок,*
*мая Караганды!*
*Зямля спявае калыханку*
*праз вякі.*
*Тут дзеці Сталіна*
*палеглі назаўжды,*
*Тут сэрцы заміралі*
*і сціскалі кулакі.*
*Палеглі людзі,*
*на таку галовы клалі,*
*Душу ад цела веялі,*
*касцямі засявалі.*

*Мой аргамак,*
*мой вольны конь*
*у стэпах рос,*
*Гаворыш:*
*стомлены пустэчай завірухі?*
*Пустэльняй*
*мёртвых костак,*
*вадаспадам слёз?*
*Загінуў блізкі чалавек:*
*такім быў лёс.*
*Ты не знайшоў яго магілы,*
*аргамак.*
*Адзін палын наўкол,*
*адзін сухі ціпчак.*

*Карлаг — музей.*
*Стаіць там Сталіна вагон.*
*Да гэтае пары*
*ў крывавых плямах ён.*
*Як костку, што абгрызлі,*
*не спіць маё сумленне.*
*Пытанне цяжкае:*
*мінулае — не сон.*
*Але што ведаем мы*
*пра мінулы час?*
*Карлаг журботны —*
*эпасумны, боль і страх.*
*Рака Ішым,*
*рака Нура галосяць зычна,*
*Блізняты вы мае…*
*Твар у слязах.*

*Ільецца мая кроў*
*з адкрытых болем вен,*
*І ветру стэпаў*
*падпявае жэтыген[2].*
*Асірацелы вецер*
*плача над «Алжырам»[3]*
*«Жаланашколь»*
*тут уздымае*
*чорны тлен.*
*Крычыць ў «Кенгіры»,*
*вязням ставіць мат.*
*І расплятае ў скрусе валасы*
*«Стэплаг»[4].*

*І расплятае ў скрусе валасы*
*«Алжыр»,*
*І расплятае ў скрусе валасы*
*«Кенгір»,*
*І расплятае косы,*
*лямантуе боль —*
*І распускае косы*
*мой «Жаланашколь».*
*Лебядзінай песняй*
*прыгажуні смех*
*Адрынуўся і стаў*
*Карлагам шэрым,*
*Смяротнай карай,*
*быццам шчасце —*
*гэта грэх.*

*Рагоча д'ябал,*
*рассыпае костак мех.*
*Жаўцее млосна Сарысу[5].*
*І Кактэнколь[6]*
*Раскінуў рукі*
*ў скрусе да нябёс.*
*Ад слёз людзей*
*ўзыходзіць стэпавая соль.*
*Спявае, плача жэцеген,*
*бы ветру боль.*
*У д'ябла злосны твар —*
*смярдзючы гной.*

*Ляцяць аблокі навальніцы*
*над Карлагам.*
*Ты — пляма чорная,*
*стагоддзя ты шэрлаг.*
*Жахлівымі вачамі*
*ты глядзіш, мярцвяк.*
*Даруйце, маці!*
*Браце мой, даруй наш дом!*
*Магілы блізкіх*
*нібы ў горле камяком.*
*У селішчы пустым.*
*Дваццатае стагоддзе,*
*на галаве тваёй,*
*бы цемень пусткі,*
*Карлаг чарнее —*
*удовінаю хусткай.*

**З казахскай. Пераклад Адама ШОСТАКА**

1. Сары-Арка — каз. «жоўты хрыбет» — стэп у Цэнтральным Казахстане.
2. Жэтыген — казахскі старажытны сяміструнны музычны інструмент, што нагадвае гуслі ці арфу, якая ляжыць.
3. «Алжыр» — лагер жонак «здраднікаў радзімы», «Жаланашколь» — адна з частак «Алжыра».
4. «Стэплаг» — адзін з лагерных пунктаў Карлага.
5. Сарысу — рака ў Цэнтральным Казахстане.
6. Кактэнколь — вёска ў Карагандзінскай вобласці.

# Вечныя пытанні. Сучасныя адказы



**Нядаўна «ЛіМ» надрукаваў вершаваную падборку Нуралана Аразаліна. Вядомы казахскі грамадскі і палітычны дзеяч, ён даўно засведчыў сябе ў літаратуры і доўгія гады ўзначальвае творчую супольнасць пісьменнікаў Казахстана. Дэпутат Сената Парламента Рэспублікі Казахстан і аўтар дзясяткаў вершаваных кніг. П'есы Нурлана Аразаліна ідуць у многіх тэатрах Казахстана і свету. У пярэдадзень чарговай кніжнай выстаўкі ў Алматы «Па Вялікім Шоўкавым Шляху» карэспандэнт «ЛіМа» пагутарыў з пісьменнікам і палітыкам.**

**— Што сёння характарызуе казахскую літаратуру? Наколькі змяніліся тэматычныя прыхільнасці пісьменнікаў?**

— Сучасная літаратура Казахстана перажывае тыя ж працэсы, што і ўся сусветная культура… Вялікая місія літаратуры, якая ва ўсе часы фарміравала маральныя крытэрыі, служыла гармоніі і прыгажосці, дыскрэдытуецца пад націскам масавай культуры, і націск гэты аказаўся шматкрат страшнейшы за славутую савецкую цэнзуру. Чынгіз Айтматаў папярэджваў пра пагрозу глабалізацыі: «Пытанне стаіць так: ці мы застанемся ўніфікаванымі рабамі масавай культуры, ці зможам захаваць сваю нацыянальную актуальнасць і самадастатковасць!».

Камерцыйная культура, што хлынула ў адкрытыя шлюзы глабалізацыі, забірае з сабою тых, хто не ўмее ці не жадае ёй супрацьстаяць. Але нацыянальны мастак разумее, што гэтай плыні не затапіць вышынныя дасягненні чалавечай культуры і літаратуры. На гэтыя вышыні і трэба арыентавацца. Якраз такое супрацьстаянне складваецца ў казахскай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў. У такіх варунках не маюць асаблівага значэння тэматычныя прыхільнасці. Хаця, канечне ж, дамінантным застаецца асэнсаванне нашай незалежнасці, усе тыя тэмы, якія знаходзіліся пад гнётам і не маглі знайсці ўвасабленне.

**— Развіццё літаратуры немагчымае без захавання традыцый. Як маладыя пісьменнікі ставяцца да тых вышыняў, што былі засвоены папярэднікамі? Ці служыць для іх прыкладам вопыт Мухтара Аўэзава, Ануара Алімжанава і іншых класікаў?**

— Традыцыі — гэта тая глеба, якая сілкуе мастацкую мову, склад мыслення, усю сістэму ўяўленняў пра духоўны і матэрыяльны свет. І чым глыбей адкрываецца яна сучаснаму пісьменніку, тым больш адметнай будзе яго ўласная творчасць. Бачым на прыкладзе Мухтара Аўэзава. Яго вялікі раман «Шлях Абая» вынікаў з глыбіннага пранікнення ў скарбніцу народнай творчасці. Акадэмік Аўэзаў пакінуў непераўзыдзеныя працы пра казахскі фальклор, эпас народных сказаў, ён адкрыў свету кіргізскі эпас «Манас». Так і для нас вялікая спадчына, гераічныя і лірычныя эпасы — не толькі каштоўныя помнікі культуры, але, па словах Аўэзава, «бессмяротны дух народа», які павінен жыць у сучаснай літаратуры.

*Знаёмства з літаратурамі постсавецкіх краін сёння адбываецца альбо праз інтэрнэт, альбо на пісьменніцкіх форумах. Так праходзяць сустрэчы з калегамі з Расіі, Беларусі, Кітая, Турцыі. Развіваюцца сувязі ў галіне перакладу з Францыяй, Германіяй, Вялікабрытаніяй.*

Сёлета адзначаецца 550-годдзе Казахскага ханства. Мы звяртаемся да гэтай даты ў перыяд фарміравання ідэалагічных асноў нашай маладой дзяржавы, калі народ набыў форму дзяржаўнага развіцця, калі адбываецца станаўленне нацыянальнага мыслення. Эпоха адной з першых форм дзяржаўнасці на старажытнай зямлі казахаў дала свету не толькі знакамітых дзяржаўных дзеячаў, але і шэраг вялікіх мысляроў: Жалаіры, Дулаці, Баласагуні, Кашгары, Асан Кайгы, Акхтан Берды, Шалгііз. Вось на такіх папярэдніках павінна засноўвацца літаратура новага стагоддзя — як і на вялікіх, што займаліся стваральніцтвам у розныя часы, — Анархпарсісе, Заратустры, Майкы біі, Кульцігіне, Таныкоку, Аль-Фарабі, Махамбеце, Абаі. У Абаі сышліся і высокая мастацкасць, і глыбіня думкі, якія да гэтага часу спасцігаюцца з цяжкасцю.

Вобраз Абая, які нам пакінуў Аўэзаў, вобраз Махамбета Ануара Алімжанава набліжаюць да нас эпоху, што сышла. І ў гэтым сэнсе іх вопыт надзвычай каштоўны. Прыклад Аўэзава ці Мусрэпава можа служыць высокім узорам для сучаснага мастака ў рабоце над словам, стылем. Але разам з тым у творчасці нічый вопыт не заменіць свой уласны. Казахская літаратура: Магжан Жумабаеў, Ільяс Джансугураў, Сакен Сейфулін, Султанмахмуд Торайнгыраў, Сабіт Муканаў, Габіт Мусрэпаў, Габідэн Мустафін, Іван Шухаў, Баўыржан Мамышулы, Дзмітрый Снегін. Носьбіты высокай літаратуры Абдужаміл Нурпеісаў, Бердыбек Сакпакбаеў, Шархан Муртазы, Азільхан Нуршаіхаў, Мукагалі Макатаеў, Абіш Кекілбаеў, Ануар Алімжанаў, Алжас Сулейменаў, Туманбай Малдагаліеў, Кадыр Мырзаліеў, Фарыза Унгарсынава, Жкмтай Жакіпбаеў, Кеншылік Мырзабаеў, Жарасхан Абдрашаў... Хаця сёння само разуменне прафесійнай літаратуры становіцца спрэчным.

**— Калі меркаваць пра тое, адлюстроўвае сучасная літаратура сённяшнюю рэчаіснасць ці не, то якія віды літаратуры ў лідарах: проза ці паэзія?**

— Імкнучыся спасцігнуць ісціны жыцця, падвесці да іх свайго чытача, пісьменнік становіцца вешчуном, праваднікам і першаадкрывальнікам гэтых ісцін. І чым болей мы такіх адкрыццяў бачым у творчасці пісьменніка, тым больш каштоўная яна для сучаснікаў. Таму і гаворым: Шэкспір і яго эпоха, Нізамі і яго эпоха, Талстой і яго эпоха.

Эпоха перамен — не самы лепшы час для мастакоў слова, калі ўладарамі дум становіцца тэлебачанне. Пісьменніку патрэбны час для асэнсавання падзей. Талстой напісаў «Вайну і мір» болей як праз паўвека пасля напалеонаўскіх войнаў. Таксама і «Шлях Абая» знаходзіцца на пэўнай адлегласці ад таго часу, які апісвае. Але ў абодвух выпадках яшчэ былі жывыя сведкі часу, што адыграла немалаважную ролю. Зараз мы бачым, як ранейшая разгубленасць пісьменнікаў перад зменай грамадскіх фармацый, набыццём незалежнасці, пабудовай маладой суверэннай дзяржавы саступіла месца спакойнаму асэнсаванню таго, што адбываецца, імкненню гаварыць пра новую эпоху ўзважана і глыбока, прагай сказаць сваё слова ў новай літаратуры Казахстана. Паэзія аказалася больш мабільнай і дзейснай у абароне духоўных каштоўнасцей, нацыянальных традыцый. Паэзія эпохі незалежнасці імкнецца да ўсебаковага, шматжанравага асэнсавання перамен. Не менш выразна на выклік сучаснасці адгукнулася казахская драматургія... Проза ж на сучасным этапе, на мой погляд, яшчэ толькі вызначае свой твар.

*Паэзія эпохі незалежнасці імкнецца да ўсебаковага, шматжанравага асэнсавання перамен. Не менш выразна на выклік сучаснасці адгукнулася казахская драматургія... Проза ж на сучасным этапе яшчэ толькі вызначае свой твар.*

**— Што ў такім разе адбываецца ў драматургіі, у стасунках нацыянальнага казахскага тэатра з мастацкай літаратурай?**

— Казахская драматургія заўсёды востра адгукалася на ўсе грамадскія працэсы. Менавіта са сцэны ў творах Калтая Мухамеджанава, Сакегна Жунусава, Акіма Таразі, Сафуана Шаймердэнава, Каліха Ыскака, Івана Шчэгіхіна, Аскара Сулейменава, Аралхана Букеева, Бакажы Мукай, Дулата Ісабекава, Адзільбека Таусарава, Іранбека Аразбаева, Султаналі Балгабаева гучала неўміручае, напоўненае народным духам, трапнае слова. Сучасная драматургія таксама вострыць не толькі на гістарычных сюжэтах, якімі заўсёды быў моцны казахскі тэатр, але і на сучасных. Хоць размяжоўваць сучаснасць і гісторыю непрадуктыўна: менавіта ў тых драматычных творах, якія, насыціўшыся гісторыяй, звяртаюць яе да сучаснасці, і адбываецца найбольш поўнае асэнсаванне рэчаіснасці, шукаюцца адказы на злабадзённыя пытанні. Класіка таму і называецца класікай, што здольная кожны раз па-новаму адказаць на «вечныя пытанні». Сучасны казахскі тэатр немагчыма ўявіць без класічных твораў Мухтара Аўэзава, Габіта Мусрэпава, Сабіта Муканава.

**— Ці кантактуеце з калегамі з былых савецкіх рэспублік? Якое месца ў коле інтарэсаў пісьменнікаў Казахстана займае мастацкі пераклад?**

— Знаёмства з літаратурамі постсавецкіх краін сёння адбываецца альбо праз інтэрнэт, альбо на пісьменніцкіх форумах. Так праходзяць сустрэчы з калегамі з Расіі, Беларусі, Кітая, Турцыі. Развіваюцца сувязі ў галіне перакладу з Францыяй, Германіяй, Вялікабрытаніяй, дзе выходзяць кнігі нашых класікаў і сучасных аўтараў. Але сувязі на постсавецкай прасторы яшчэ не на належным узроўні. Спадзяёмся, іх паглыбленню паспрые сустрэча вядучых расійскіх і казахскіх пісьменнікаў, што прайшла зусім нядаўна ў Маскве і была арганізаваная Пасольствам Казахстана ў Расіі. Прынята рашэнне аб выпуску сумеснага альманаха, сістэматычнага казахскага дадатку ў «Литературной газете», аб правядзенні конкурсу перакладчыкаў і майстар-класаў для развіцця мастацкага перакладу. Радуе нас і паглыбленне ўзаемасувязяў з беларускімі калегамі. Гэтаму істотна спрыяюць ініцыятывы старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца і Выдавецкага дома «Звязда». І тут безумоўным дасягненнем з'яўляецца выданне на беларускай мове кнігі лірыкі Абая «Стэпавы прастор» (перакладчык Мікола Мятліцкі). У гэтым годзе — юбілейным для Абая — мы вылучылі беларускага паэта на Міжнародную прэмію «Алаш». У Мінску прайшоў «круглы стол», дзе абмяркоўвалі новы пераклад на рускую мову рамана «Шлях Абая» Мухтара Аўэзава, ажыццёўлены па ініцыятыве Міжнароднага фонду імя М. Аўэзава на чале з Муратам Мухтаравічам Аўэзавым. Як ахарактарызаваў раман «Шлях Абая» яго перакладчык Анатоль Кім, які паставіў твор у шэраг вялікіх шэдэўраў, кшталту «Дона Кіхота» Сервантэса, «Вайны і міру» Талстога і нават «Іліяды» Гамера, гэта «апошні і адзіны раман пра качэўніцкую цывілізацыю, якая тысячагоддзі доўжылася на зямлі…». Вось так новы час можа па-новаму адкрыць пісьменніка. А паглядзіце, што гаворыць пра свае пераклады кнігі Абая «Стэпавы прастор» Мікола Мятліцкі: «Перакладаць паэта — значыць палюбіць паэта. А палюбіць паэта — значыць палюбіць яго народ. Я ўпэўнены: на якой мове свету ні загучаў бы вялікі Абай, ён закране сэрца кожнага сапраўднага чалавека. Ён даў той надзейны духоўны фундамент, на якім казахскі народ з гонарам стаіць сёння і выстаіць заўтра. Нашы палітыкі рассунулі мытныя межы нашых краін, а мы, паэты і дзеячы культуры, у стане рассунуць межы чалавечага духу. І гэта прыгожая і важная місія». Вось так гаворыць пра сучасную місію літаратуры і перакладчыкаў беларускі паэт. Гэтак жа мысляць казахскія паэты і перакладчыкі.

**— Дазвольце некалькі бліцпытанняў… Самы знакавы твор казахскай літаратуры апошніх дзесяцігоддзяў?**

— Адзін такі твор назваць цяжка. Гэта кнігі Нурпеісава, Кекілбаева, Магауіна, Макатаева, Сулейменава, Унгарсынавай, Сейсенбаева, Елеўбаева, Іран Гаіпа.

**— Культавы пісьменнік сучаснай казахскай літаратуры?**

— Мухтар Аўэзаў. Ён быў і застаецца кумірам не толькі для майго пакалення.

**— Самы тыражны пісьменнік на сёння ці твор Казахстана?**

— Сапраўдная літаратура сёння тыражамі пахваліцца не можа. Тыражы ў твораў камерцыйных, а гэта зусім іншы від літаратуры…

**— Каго з казахскіх пісьменнікаў-класікаў часцей за ўсіх перавыдаюць?**

— Абая, Махамбета, Мухтара Аўэзава, Ільяса Есенберліна, Мукагалі Макатаева, Кадыра Мырзаліева, Туманбая Малдагаліева, Фарызу Унгарсынаву. Штогод па ўсім Казахстане святкуецца дзень нараджэння Мукагалі Макатаева. Час вызначае новых класікаў і нацыянальнай, і сусветнай літаратуры. Макатаеў адносіцца да ліку такіх паэтаў.

**— Каго з беларускіх аўтараў сёння перачытваеце?**

— Для казахскіх чытачоў беларускія пісьменнікі заўсёды былі цікавыя. Ужо на пачатку трыццатых гадоў Ільяс Джансугураў, які пабываў у Мінску на пленуме СП Беларусі, друкуе ў часопісе «Жулдыз» пераклады вершаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэтыя сувязі не страціліся і ў наш век. Пацвярджэнне — сумесная кніга беларускіх і казахскіх пісьменнікаў «Не ведаючы межаў», праз якую я з цікавасцю пазнаёміўся з сучаснымі пісьменнікамі Беларусі. Рыхтуецца ў Беларусі анталогія казахскай паэзіі. Мяркую, што са свайго боку пазнаёміў казахскага чытача з анталогіяй сучаснай беларускай паэзіі на казахскай мове.

**Гутарыў Мікола БЕРЛЕЖ,**
***Алматы — Мінск***

*Гістарыёграф*

# У пошуках часу



**Мікалай ПЛАВІНСКІ**

Час — надзвычай складаная катэгорыя жыцця. Час можна марнаваць, згубіць, апынуцца не ў сваім часе… Але ён быў да таго, як мы з'явіліся на свет, і будзе тады, калі нас не стане. Напэўна, таму мы ўспрымаем час як катэгорыю абсалютную, якая заўжды вымяралася аднолькава. Але гэта далёка не так.

У розныя эпохі ў розных народаў існавалі разнастайныя метады вылічэння часу і мноства розных календароў. На тэрыторыі Беларусі, што размяшчаецца, як гэта банальна ні гучала б, на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў і на культурна-цывілізацыйным памежжы, таксама выкарыстоўваліся розныя метады летазлічэння. Пра іх асаблівасці і змены можна прачытаць у новай кнізе вядомай гарадзенскай даследчыцы Святланы Куль-Сяльверставай «Беларускі час. Летазлічэнне ў Беларусі ад старажытнасці да сучаснасці» (Гродна: ЮрСаПрынт, 2014).

Кніга Святланы Куль-Сяльверставай — першая ў айчыннай навуцы манаграфічная праца па гістарычнай храналогіі. Варта адразу адзначыць, што разлічана яна ў першую чаргу на спецыялістаў — гісторыкаў і архівістаў, але будзе цікавай і для шматлікіх аматараў вывучэння мінуўшчыны. Аўтар паслядоўна выкладае гісторыю летазлічэння на беларускіх землях ад дахрысціянскіх часоў, разглядае такія паняцці, як эра, індыкт, сезон і месяц, тыдзень, каляндар, рухомыя і нерухомыя рэлігійныя святы. Шмат увагі даследчыца звяртае на гісторыю стварэння юльянскага календара, які прыйшоў да нас разам з хрысціянствам, пазначае паводле яго складанасці вызначэння дат. Падрабязна выкладзены прычыны ўзнікнення, гісторыя распрацоўкі і ўвядзення грыгарыянскага календара. Цікава, што ў Вялікім Княстве Літоўскім новы грыгарыянскі каляндар уведзены адразу пасля абвяшчэння каляндарнай рэформы рымскім папам Грыгорыем XIII у 1582 годзе. Але яшчэ доўгі час пасля гэтага на нашых землях грыгарыянскі каляндар суіснаваў з юльянскім, а калі да гэтага дадаць, што адлік гадоў вёўся як ад стварэння свету, так і ад нараджэння Хрыста, можна ўявіць сабе, наколькі своеасаблівым было летазлічэнне ва ўяўленні нашых продкаў у новы час.

Развагі пра летазлічэнне спадарыня Куль-Сяльверстава падмацоўвае шматлікімі прыкладамі з гістарычных крыніц — летапісаў, хронік, актавых матэрыялаў, тастаментаў, лістоў. Прыклады суправаджаюцца падрабязнымі каментарамі з тлумачэннем асаблівасцей вызначэння дат і памылак у іх.

Цікава даведацца, што быў час, калі ў тыдні было ўсяго пяць дзён. Такую рэформу правадзілі ўлады СССР у канцы 1920 — пачатку 1930-х гадоў у мэтах інтэнсіфікацыі вытворчасці.

Тэкст «Беларускага часу» суправаджаецца дадаткам — метадычнымі рэкамендацыямі па працы з вызначэннем дат у гістарычных крыніцах розных перыядаў. Гэты дадатак будзе асабліва карысны для гісторыкаў і архівістаў, а таксама для студэнтаў, якія вывучаюць гістарычную храналогію.

Відавочна, што новая кніга Святланы Куль-Сяльверставай — значная падзея ў айчыннай гістарычнай навуцы. Яе выхад у свет надзвычай важны не толькі для навукоўцаў. Хочацца спадзявацца, што больш дакладнае разуменне таго, як працякаў час нашых папярэднікаў, дазволіць і нам лепш асэнсаваць сучаснасць і знайсці сябе ў будучыні.

Адзінае, што засмучае, — гэта «надта бюджэтная» якасць яе выдання (кніга надрукаваная на рызографе) і ўсяго 100 асобнікаў накладу. Відавочна, нельга абвінавачваць у гэтым невялічкае прыватнае гарадзенскае выдавецтва. Наадварот, варта толькі падзякаваць яму за ініцыятыву найхутчэйшага выдання кнігі. Аднак такія працы павінны выходзіць у іншай якасці ды іншымі накладамі, каб чытачы маглі знайсці іх на паліцах усіх кнігарняў Беларусі.

# Зачараванасць замкамі

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

Я ўпэўненая, што гэтая кніга дасць нам магчымасць яшчэ больш наблізіцца да гісторыі, усвядоміць яе даўніну, каб яшчэ мацней любіць Беларусь.

Навукоўцы сцвярджаюць, што сёння немагчыма сказаць дакладна, колькі беларускіх замкаў было ўзведзена ў XIV — XVIII стагоддзях. Па выніках археалагічных і натуральна-гістарычных даследаванняў апошніх 50 гадоў зафіксавана каля 300 такіх помнікаў — атрымліваецца, што замкі на нашых землях размяшчаліся практычна кожныя 50 — 70 кіламетраў. Акадэмік-сакратар Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя падчас імпрэзы зазначыў:

— Калі ў пачатку XX стагоддзя ішоў працэс разбурэння замкаў, то сёння мы з вамі займаемся справай аднаўлення, рэстаўрацыі нашай гісторыка-культурнай спадчыны. І ў гэтым кірунку робіцца шмат. Вялікі фаліянт, які мы прадстаўляем сёння, — сведчанне ўзроўню развіцця гуманітарнай навукі, нашых магчымасцей выдавецкай справы, культуры фатаграфіі. Нам не сорамна паказаць сябе свету. У краіне адноўленыя замкі, якія могуць прывабліваць турыстаў і дапамагаць зарабляць грошы для далейшага іх развіцця. Так, ёсць звесткі, што замкавы комплекс «Мір» за мінулы год атрымаў каля 20 мільярдаў рублёў прыбытку. Гэта значыць, ужо ёсць магчымасць і для далейшага развіцця духоўна-культурнай спадчыны краіны.

Адметна, што ў выданні «Беларусь замкавая» ўпершыню зробленая спроба сістэматызаваць звесткі пра замкі, што знаходзяцца на тэрыторыі нашай краіны, у адпаведнасці з сённяшнім станам захаванасці гэтых аб'ектаў. У аснове кнігі — спіс помнікаў, уключаных у дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі», прынятую на 2012 — 2018 гады. Замкавая спадчына прадстаўленая ў выглядзе трох паясоў — «залатога», «срэбнага» і «крынічнага» — своеасаблівых маршрутаў для вывучэння культурнай спадчыны краіны. Так, першы з іх дэманструе замкі, што дайшлі да нашых дзён у найбольш рэпрэзентатыўным выглядзе, другі — аб'ядноўвае разбураныя помнікі архітэктуры, якія сёння ў руінах, трэці — паказвае замкі, якія былі адкрытыя падчас археалагічных і гістарычных даследаванняў.

Дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Даніловіч распавёў:

— Агульнавядома, што Беларусь была «краінай замкаў». Гэта вельмі важна і сёння, бо сведчыць пра высокі ўзровень развіцця культуры нашых продкаў, слаўную, багатую гісторыю, якой мы маем усе падставы ганарыцца, якая не можа не выклікаць захаплення і цікавасці. Зразумела і тое, што гісторыя замкаў — гэта своеасаблівае адлюстраванне мінуўшчыны нашай радзімы ў цэлым. Будаўніцтва замкаў, умацаваных паселішчаў было неабходнасцю ў жыцці продкаў, бо ў XV ст. на войны прыпала 23 гады, у XVI — 42, у XVII — 71, у XVIII — 64. Вучоныя Інстытута гісторыі НАН Беларусі фактычна па крупінках аднавілі гісторыю замкаў, выявілі артэфакты. Натуральна, праца будзе працягвацца. Кніга, якую мы прэзентуем сёння, аб'яднала людзей, якія шмат гадоў свайго жыцця аддалі справе вывучэння архіваў, археалогіі, архітэктуры замкаў.

Доктар мастацтвазнаўства, прафесар кафедры мастацтваў БДУ Вольга Бажэнава звярнула ўвагу на адметнасці мастацкага рашэння новай кнігі:

— Гэты фаліянт праз некалькі гадоў, дзесяцігоддзяў будуць вывучаць як узор новага кніжнага дызайну. Ініцыятар праекта, выдавец Таццяна Бялова, зрабіла кнігу ўнікальнай: тут выкарыстоўваецца не традыцыйны для кніжнага афармлення прынцып станковай графікі, а кінематаграфічны. Вельмі лёгка адчуць прастору, убачыць дэталь, заўважыць сябе ў працэсе наближэння ці аддалення ад замкаў. Пры гэтым калектыў аўтараў успрымае замкі як карэнную сістэму Беларусі, якая была арыенцірам для падарожнікаў і выяўляла адметнасці нашага светапогляду. Замкі для нас — не проста прыклад арыстакратычнай культуры, але глыбокая беларуская традыцыя.

Нашы замкі жывыя і сёння. Думаецца, кніга «Беларусь замкавая» натхніць многіх беларусаў на падарожжа па незабыўных мясцінах роднай краіны, каб пабачыць веліч і чароўнасць старажытных збудаванняў.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Прэзентацыя*

# Эстэтыка ручніка




У Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі прэзентавалі альбом-каталог ручнікоў канца XIX — XX ст., якія даследавалі супрацоўнікі музея ў Бельску Падляшскім.

Падляшскі музей у Беластоку, філіялам якога з'яўляецца музей у Бельску Падляшскім, мае вялікую калекцыю народных ручнікоў. Выключнасць яе ў тым, што ручнікі цесна звязаныя з усё яшчэ жывой абраднасцю. Падчас экспедыцый супрацоўнікі музея наведалі 21 вёску ў гмінах Бельск Падляшскі, Орля, Чыжы, Гайнаўка і выявілі больш як 200 ручнікоў, частка якіх папоўніла музейныя зборы.

Альбом «Народны ручнік ваколіц Бельска Падляшскага. Вышыўка і карункі» мае два раздзелы. У першым прадстаўлены фотаздымкі 215 ручнікоў з прыватных калекцый, у другім — 190 ручнікоў са збораў музея ў Бельску Падляшскім. Акрамя таго, у межах праекта былі падрыхтаваныя два ўзорнікі для вышыўкі крыжыкам і гладдзю.

«Мінула некалькі гадоў з таго моманту, як мы пачалі займацца гэтай тэмай, але і надалей захапляемся эстэтычнымі варыяцыямі ручнікоў, якія штохвіліну адкрываюць нам багацце шматколерных вышывак і карункаў. З досведу ведаем: няма нічога больш прыемнага за магчымасць дзяліцца тым, што дае нам вялікую радасць. Наша радасць — адкрыццё прыгажосці народных ручнікоў», — кажуць прадстаўнікі музея ў Бельску Падляшскім. У сваю чаргу гродзенскі музей экспанаваў частку ручнікоў Гродзеншчыны, якія захоўваюцца ў яго фондах.

**Вольга КАЦЬКО, фота аўтара**

# На ўсходняй мяжы

На пачатку сакавіка споўнілася б 40 гадоў выдатнаму гісторыку Віктару Цемушаву. На жаль, яго жыццёвы шлях скончыўся чатыры гады таму, але напрыканцы 2014-га выйшла манаграфія даследчыка «На ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага».

Калі чытаеш яе, узгадваецца выказванне вялікага Рычардсана: «Беражыце час. Гэта — тканіна, з якой складаецца ваша жыццё». Пра гэта ніколі не забываў нястомны працаўнік навукі Віктар Цемушаў, які ўсю душу, сэрца, усе свае сілы аддаў на тое, каб упершыню ажыццявіць сістэмную рэканструкцыю гісторыі ўсходняй мяжы Вялікага Княства Літоўскага на працягу XIV — першай палове XVI ст. Сістэмная рэканструкцыя патрабавала ад даследчыка быць гісторыкам, картографам, спецыялістам па геапалітыцы, праве, вайсковым экспертам. І, думаецца, навуковец выдатна справіўся з пастаўленай мэтай. Рэканструкцыя прынесла вельмі значныя навуковыя вынікі. Так, аўтар спасціг феномен літоўска-маскоўскага памежжа, звышдэталёва прасачыў працэс фарміравання і змены літоўска-маскоўскай мяжы ў сярэдзіне XIV — першай трэці XVI ст. Пры гэтым чытачам прапануецца трыццаць адна аўтарская гістарычная карта. Даследчык сфармуляваў арыгінальную і пераканаўчую канцэпцыю тлумачэння першых тэрытарыяльных кантактаў і канфліктаў паміж Масквой і Вільняй у другой палове XIV — пачатку XV ст., упершыню даследаваў перыяд устойлівай літоўска-маскоўскай мяжы і здзейсніў геапалітычнае вымярэнне Гомельскай вобласці прымяняльна да рэалій першай трэці XVI ст.

У беларускім грамадстве назіраецца вялікая цікавасць да гэтай кнігі. Вось што, напрыклад, піша доктар гістарычных навук Валянцін Голубеў: «Літоўска-маскоўская мяжа ўжо з пачатку XVI ст. выяўляла дзяржаўныя межы сучаснай Рэспублікі Беларусь. Гэта сапраўды дзіўна, бо вядома, што межы Беларусі складваліся не ў адпаведнасці з натуральным тэрытарыяльным развіццём або арэалам рассялення беларускага этнасу, а паводле палітычных рашэнняў. Як бы там ні было, але да сённяшняга дня працягваюць сваё існаванне межы, закладзеныя яшчэ ў пачатку XVI, а можа, і ў XV ст.».

**Міхаіл СТРАЛЕЦ, доктар гістарычных навук**

# Музыка жыве



Рыгор Шырма.

Сапраўдны захавальнік і прапагандыст каштоўнасцей народнай музыкі, твораў сучасных кампазітараў, шэдэўраў сусветнай класікі — Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Раманавіча Шырмы 7 красавіка 2015 года адзначыць 75-гадовы юбілей.

Прызнаны сёння калектыў стаў капэлай далёка не адразу. Спачатку, у 1940 годзе, быў арганізаваны Беларускі ансамбль песні і танца — першы ў ХХ стагоддзі прафесійны музычны калектыў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Да вакальнай групы — удзельнікаў віленскага беларускага хору, створанага Рыгорам Шырмам яшчэ ў 1929 годзе, далучыліся танцоры пад кіраўніцтвам І. Хворастра. Чарговай прыступкай стала пераўтварэнне ансамбля ў Дзяржаўны хор Беларусі ў 1950 годзе ў Гродне. Наступны этап — пераезд у Мінск у 1952-м, паспяховы ўдзел у другой дэкадзе Беларускага нацыянальнага мастацтва ў Маскве і пераўтварэнне хору ў Дзяржаўную харавую капэлу Беларусі. Нарэшце ў 1957 годзе капэле было прысвоена званне акадэмічнай, а пасля смерці свайго арганізатара і першага кіраўніка Рыгора Шырмы ў 1978 годзе яна стала насіць яго імя. У 2006 годзе капэле прысвоена ганаровае званне «Заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь».

З 1987 года калектывам кіруе Людміла Яфімава — прадстаўнік Санкт-Пецярбургскай харавой школы. Дзякуючы яе адухоўленасці, тонкаму адчуванню формы і стылю, бескампраміснаму служэнню музыцы, у канцэртных праграмах капэлы з'явіліся яркія, нетрадыцыйныя творы, раскрыліся індывідуальныя магчымасці кожнага спевака. Людміла Яфімава неаднаразова адзначалася высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі. У 2000 годзе ёй прысвоена ганаровае званне «Народная артыстка Рэспублікі Беларусь».

Шырокі рэпертуар і высокая выканальніцкая культура даюць калектыву магчымасць паспяхова канцэртаваць з рознымі сімфанічнымі аркестрамі. Сярод іх — аркестры Маскоўскай, Санкт-Пецярбургскай, Белгародскай, Харкаўскай, Валгаградскай, Данецкай, Кіеўскай, Віленскай, Іркуцкай філармоній, а таксама аркестры Германіі, Польшчы, Аўстрыі ды інш.

Капэла заслужыла найвышэйшую ацэнку як крытыкаў, так і гледачоў. «Мяккасць і прыгажосць гучання галасоў, чысціня інтанацыі і адухоўленасць у трактоўцы музычнага матэрыялу праяўляюцца вельмі ярка», — пісаў у свой час мастацкі кіраўнік Санкт-Пецярбургскай філармоніі В. Фамін. «Хор парадаваў бездакорным ладам, гнуткасцю і разнастайнасцю дынамікі, яснай выразнай дыкцыяй», — адзначаў мастацкі кіраўнік Пецярбургскай капэлы імя М. Глінкі В. Чарнушэнка.

Пра папулярнасць калектыву сведчыць і геаграфія гастрольных маршрутаў: гэта музычныя фестывалі ў Германіі, Іспаніі, Італіі, Літве, Польшчы, Эстоніі, Аўстрыі, Галандыі, Даніі, Францыі, Бельгіі, Люксембургу, удзел у культурнай праграме Алімпійскіх Гульняў 1992 года ў Барселоне. У 1993-м капэла стала лаўрэатам Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ў г. Гайнаўка (Польшча), а ў 2004-м — уладальнікам Гран-пры гэтага фэсту.

Капэла беражліва захоўвае ў рэпертуары нацыянальны фальклор, у тым ліку сабраны і апрацаваны Р. Шырмам. Штогод рыхтуецца некалькі паўнавартасных канцэртных праграм.

Падчас святочнага канцэрта ў Вялікай канцэртнай зале Белдзяржфілармоніі Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь выканае творы М. Агінскага, Г. Гендэля, Ш. Гуно, Ф. Шуберта, Д. Шастаковіча ды інш., апрацоўкі народных песень.

**Ганна ШЫМУК**

# Вясна Маэстра



Святаслаў Рыхтэр.

«Мінская вясна» прыйшла ў Беларускую дзяржаўную філармонію ўжо 31-ы раз. Сёлета яна прымеркавана да 100-годдзя з дня нараджэння Святаслава Рыхтэра, аднаго з найбуйнейшых піяністаў ХХ стагоддзя. Яго віртуозная тэхніка спалучалася з велізарным рэпертуарам і глыбінёй інтэрпрэтацый. Народны артыст СССР, лаўрэат шматлікіх прэмій, першы ў Савецкім Саюзе уладальнік прэміі «Грэмі», маэстра заснаваў шэраг музычных фестываляў, уключаючы «Снежаньскія вечары» ў Дзяржаўным музеі выяўленчых мастацтваў імя А. С. Пушкіна ў Маскве.

— Імя гэтай легендарнай асобы вядома не толькі на тэрыторыі краін былога СССР, але і ва ўсім свеце, — адзначыў мастацкі кіраўнік Белдзяржфілармоніі заслужаны артыст Беларусі Юрый Гільдзюк. — Маэстра заўсёды знаходзіў у сваім гастрольным графіку месца для канцэрта ў Мінску. Таму асабліва прыемна адзначаць юбілей вялікага артыста на беларускай сцэне.

Міжнародны моладзевы музычны форум «Мінская вясна — 2015» адкрыўся 20 сакавіка канцэртам Дзяржаўнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам Яўгена Бушкова. У 1983 годзе нечакана для маскоўскай публікі Святаслаў Рыхтэр абраў Дзяржаўны камерны аркестр Рэспублікі Беларусь для акампанементу на фестывалі «Снежаньскія вечары». У той час калектывам кіраваў дырыжор Юрый Цырук. Цяперашні галоўны дырыжор камернага аркестра Яўген Бушкоў быў знаёмы з С. Рыхтэрам і ўдзельнічаў у пастаноўках опер, якія рэжысіраваў маэстра. У дзень адкрыцця форуму на сцэне Вялікай канцэртнай залы філармоніі ў выкананні лаўрэатаў міжнародных конкурсаў Васілісы Бяржанскай (сапрана) і Мікалая Мядзведзева (фартэпіяна) прагучалі творы, якія камерны аркестр у 1983 годзе выконваў са знакамітым піяністам.

У праграме «Мінскай вясны — 2015» — 10 канцэртаў. Творчы вечар прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Уладзіміра Няхаенкі, на якім выступяць лаўрэаты міжнародных конкурсаў і стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, адбудзецца 7 красавіка. Папулярную музыку для аднаго і двух фартэпіяна выканаюць народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў і лаўрэат міжнародных конкурсаў Марына Клімовіч-Кулаў (9 красавіка). У суправаджэнні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Аляксандра Анісімава на фартэпіяна будзе саліраваць заслужаная артыстка Расіі Наталля Трулі (16 красавіка), у суправаджэнні сімфанічнага аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Андрэя Іванова — Уладзімір Дулаў і Аляксандр Данілаў (21 красавіка). У межах форуму адбудуцца выступленні вучняў класа прафесара Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Юрыя Гільдзюка (25 красавіка), а таксама заслужаных артыстаў Расіі Андрэя Дзіева і Міхаіла Петухова. «Мінскі струнны квартэт» 27 мая прадставіць праграму разам з кларнетыстам з Бельгіі Хедвігам Шwімбергам і піяністам, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь Юрыем Гільдзюком.

«Мінская вясна — 2015» будзе крыху даўжэйшая за каляндарную і завершыцца 10 чэрвеня канцэртам лаўрэата шматлікіх міжнародных конкурсаў Аляксея Чарнова.

**Таццяна ШЧЭРБА**



*Паваротная падзея*

# Бегчы як найхутчэй



**Жанна ЛАШКЕВІЧ**

Трэці мінскі міжнародны дзіцячы тэатральны форум «Крокі» прайшоў у Новым тэатры з 25 па 28 сакавіка.

Насампершая неспадзеўка форуму стаілася ў афішы: Мінская тэатральная школа № 1, завадатар і творчы лідар форуму, за нядаўнім часам зрабілася тэатральным аддзяленнем «Дзіцячай харэаграфічнай школы мастацтваў № 2», — адзіная тэатральная школа ў сталічным горадзе!..

Тэатральнае аддзяленне, распачынаючы праграму, рушыла праз «Алісу ў Залюстроўі»: шахматныя фігуры, чорныя каты і зялёны лес наследавалі Льюісу Кэралу праз педагогаў Віргінію Тарнаўскайтэ, Наталлю Падвіцкую і Аляксандру Некрыш, дапраставаўшы да Гран-пры фестывалю. Адметнасці перамогі вызначыла яднанне літаратурнай і сцэнічнай прастораў: выканаўцы не чапляліся за рэплікі, але, паводле Алісы ў выкананні Валерыі Гіжэўскай, «...беглі як найхутчэй» — пільнавалі дзеянне і логіку паводзін персанажаў, так што абсурдная краіна Залюстроўя паўставала казачна знаёмай...

Рэй у лепшых спектаклях тэатральнага форуму вяла паэзія: Іманта Зіедоніса ў «Казцы пра фарбы» дзіцячага тэатра «Кніфіньш» (Тукумс, Латвія) і Шэкспіра ў феерыі «What is a Youth?..» тэатра-студыі «Лятаючая карова (Талін, Эстонія). Стварэнне абодвух спектакляў рэжысёры-педагогі пачыналі з той адзінай і непаўторнай драматургіі, якая шчыра цікавіла выканаўцаў, а таксама з вобразаў, якія дзеці ды падлеткі здатныя былі натуральна ўвасобіць і развіць. Прыкладам, у «Казцы пра фарбы» з'яўлялася фарба белая — дзяўчаткі ў белых сукеначках на чорным сцэнічным тле. Чытальнік на авансцэне распавядаў пра рэчы і з'явы, афарбаваныя белым, а масоўка ператваралася ў стажкі ды заснежаныя дрэвы пры дарозе, дымы з вясковых комінаў, кветкі і птушак, унікаючы навязлівай ілюстрацыі наўпрост. Глядзельня ўразліва адгукалася на кожнае сцэнічнае дзеянне — так, што «Кніфіньш» атрымаў дыплом за інтэрактыўнасць і адметную работу з залай, а чытальнік Чэслаў Волкаў — дыплом за выкананне лепшай мужчынскай ролі.

Сёлета лепшых выканаўцаў было столькі, што журы запатрабавала дадатковых дыпломаў! У спектаклі «What is a Youth?..» вылучыліся тры (!) артысты — Дзяніс Гаўрушын (Рамэа), Ева Ракава (Алівія) і Ганна-Вікторыя Цімеева (Віёла; пры гэтым спектакль меў лепшае мастацкае афармленне: адметна густоўныя касцюмы і маскі, зробленыя студыйцамі абсалютна самастойна), а ў музычнай камедыі «Аршын мал алан» У. Гаджыбекава дзіцячага тэатра-студыі «Гюнай» (Баку, Азейрбайджан) — акцёрскі дуэт Эльдара Ліцвера і Лэйлы Юсубавай (яны сыгралі каларытныя ролі служак) разам з Лалай Рзаевай у амплуа травесці (дзяўчына пераўвасобілася ў натурыстага ўдаўца сталага веку).

Музычны спектакль бакінцаў, добра аздоблены і касцюмаваны, ішоў пад фанаграмныя спевы саміх выканаўцаў. Юнакі і дзяўчаты сумленна падпявалі (сабе!), але састарэлы прыём надаў дзеянню эстэтычнай неахайнасці і выклікаў справядлівыя заўвагі. Становішча ўратавала выключная творчая самаадданасць студыйцаў, і яе справядліва адзначылі дыпломам форуму.

Журы пачувалася зацесна ў межах вызначаных прызоў і дыпломаў, бо тыя мусілі адпавядаць рэчаіснасці, дзе аніяк не знаходзілася лепшай сцэнаграфіі альбо лепшага музычнага афармлення. Затое ўражвалі эпізадычныя ролі — трох Мухамораў са спектакля «Тук. Тук! Хто там?» М. Барценева тэатральнай студыі «ЭсТэР» (Масква) альбо Мышкі Анастасіі Дубко — у калажы «Гуляем у тэатр» дзіцячага музычнага тэатра «Сюрпрыз» (Мінск). Калектываў на форуме пабольшала, часу на паказы і прагляды таксама спатрэбілася болей — прыкра, але за кошт майстар-класаў, сустрэч, зносін, — той славутай творчай радасці, якая сілкуе мастацтва, створанае дзецьмі. Бурлівы форумны вір нібы прыцішыў «Крокі»...

Але «каб стаяць — трэба бегчы, а каб рухацца наперад — трэба бегчы як найхутчэй...».

Дзільдар МАМЫРБАЕВА

# Настаўніца Дзіна, дзеці і я

Мае дзіцячыя свавольствы, на якія я здатны, аднойчы давялі да хуліганства. Чамусьці мае добрыя намеры заўсёды ператвараюцца ў непрыемнасці.

І сёння здарылася нешта падобнае. Не ведаю, што не дае мне спакою, — жаданне пакаштаваць гарачага баўырсака ці на свае вочы ўбачыць, як смажаць тосцік* на гарачым вугollі, — але мне заўсёды ўдаецца апынуцца на месцы раней за маці. Можа, я і сапраўды раблю надзвычай добрае ўражанне на людзей, бо старэйшыя матчыны нявесткі заўсёды піхаюць мне ў кішэні нейкія ласункі. Часам мае жэнге**, паляпваючы мяне па спіне, прыгаворваюць: «Ён жа наш пястун, якога дзядуля сваёй барадой спавіваў». У добрым настроі — перад гэтым як след пад'еў і папіў — крытычна азіраюся па баках. У хатняй прыбудове я заўважыў пчаліны вулей. Каля дупла з мёдам з нязспынным гудзеннем сноўдалі пчолы, то залятаючы туды, то вылятаючы адтуль. Яны такія ж мітуслівыя, як мая жэнге, якая то падмятае, то шаруе падлогу, то мые бялізну. Гэтаксама як і яна, пчолы ні на хвіліну не спыняюцца. І вулей іхні акуратны, чысцюткі — ад гэтых мініяцюрных шасцівугольных гняздзечкаў проста вачэй не адвесці. А як падумаю, што там, усярэдзіне, відаць, поўна мёду, дык рот адразу ж запаўняецца слінай. Нават выплюнуць шкада, каб не знік салодкі смак. Раптам вялікі рой пакінуў вулей, а на варце засталася самая буйная пчала, мажная, як свякроўка маёй жэнешэ***. Калі сцягнуць гэты вулей, можна ўволю паласавацца мёдам. Тады вакол мяне, безумоўна, збяруцца хлапчукі, якія таксама запрошаны на той. Я не буду мітусіцца, буду трымацца годна, пакуль яны не страцяць цярплівасці. Тады з самага краечка сотаў адламлю маленькі кавалачак аднагодку, якога ўпадабаў. Усе астатнія хай глядзяць, глытаючы слінкі. Так ім і трэба! Я схапіў доўгую лазіну і крануў пчалу-вартаўніцу. Зачапіў я яе ці не, не ведаю, але раптам так кальнула правае вейка, быццам бы пырнулі шылам. Я ў той жа момант загарлапаніў: «Вой, вока! Маё вока!» — і, скурчваючыся, сеў на зямлю. Вакол мяне адразу ж стоўпіліся жанчыны, што завіхаліся ля казана.

— А-а-а, яго пчала ўкусіла! Нічога страшнага. Кажуць, яе ўкус — гаючы, — сказала адна з іх. — Калі памажаш вейка той глінаю, што каля крыніцы, вока не апухне.

— Чым бегчы да той крыніцы, вунь за два крокі адгэтуль ляжыць сырая гліна, яшчэ тапырыца, — параіла тоўсценькая жанчына і, не доўга думаючы, накіравалася ў тое месца, дзе толькі-толькі мачыўся Асхат.

Неўзабаве яна вярнулася з кавалкам гліны і, нягледзячы на маё адчайнае адбрыкванне, пляснула шматок мне на вока і размазала. Тут высветлілася, што вакол мяне ўжо тоўпіліся ўсе дзеці, якія з'явіліся на той. Яны смяяліся з мяне і блазнавалі, гледзячы на мой перапэцканы твар. Асхат стаяў, як герой, нібыта ад яго мачы ўжо загаілася маё вока.

— Вы ўсё роўна не зможаце залезці ў вулей, — маркоціўся я. — Мне было б няцяжка, але хіба ж вы не бачыце, што цяпер мне перашкаджае маё вока?

Дзеці загаманілі. Асхат пагардліва зірнуў на мяне, потым схапіў доўгую палку і з усяе сілы пачаў стукаць па сценках вулея. Вулей зваліўся ў пыльную траву і разламіўся напалам. Пакуль мы сачылі за палётам пчалінага гнязда, пачуўся страшэнны лямант: пчолы абляпілі твар Асхата і пачалі бязлітасна джаліць яго. У хлопчыка адразу ж пазаплывалі вочы. Жэўжык пазамазваў нос, лоб, шчокі той самай ліпкай граззю і зрабіўся падобным да малпы ў мясцы. Цяпер яму было не да смеху. «Шох! Шох!» — задаволены, зларадніcаў я. Нейкім чынам тут апынулася наша класная кіраўніца, настаўніца Дзіна. Яна ўбачыла мяне і вельмі ўгнявілася, нібыта гэта я загадаў пчолам: «Уджальце Асхата!»

— Я ж казала табе, каб ты не важдаўся з гэтым хуліганам з курынымі мазгамі! — лямантавала яна, пырскаючы слінай і лупцуючы свайго Асхата дубцом. — Не важдайся з ім! Ён калі-небудзь даканае цябе. — Класная кіраўніца Дзіна зноў кінула на мяне знішчальны позірк, а тады тузанула сына за руку і пацягнула следам за сабой.

Адчуваючы, што заўтра ў школе мне давядзецца адказваць за ўсё, я пачаў грунтоўна рыхтавацца да ўрокаў, зададзеных напярэдадні. Спрабую варушыць мазгамі, але нічога талковага не прыходзіць у галаву. Яна ж замардуе мяне пытаннямі: «Хто такая Мона Ліза? Якія работы ёсць у Мікеланджэла? Чым займаўся Шэрлак Холмс?» А як жа, сонца не ўзыдзе, калі я не буду гэтага ведаць… Вось так сама настаўніца падбухторвае вучня супраць сябе. Не памерлі ж усе тыя, хто ніколі не чуў пра гэта. Ходзяць жа яны цяпер па зямлі ў добрым здароўі. Ці яна думае, што я ўвогуле нічога не ведаю? Напрыклад, Мона Ліза — гэта ж чыясьці жонка, Мікеланджэла — служка царквы, Шэрлак Холмс — вучань рускай школы. Проста я не заўсёды выхваляюся сваімі глыбокімі ведамі, у адрозненне ад іншых. Стаю перад настаўнікам як знямелы. І мне гэта плюсаў не дадае, зразумела.

Вось, стукаючы абцасамі, у клас увайшла класная кіраўніца Дзіна. Ад таго, што акуляры ў яе трохі ссунуліся, мне здалося, што адно брыво ў яе ніжэй. Калі яна гаворыць, адна яе шчака нерухомая і палова рота ледзь раскрываецца, але гэта незаўважна. Аднойчы яна растлумачыла нам свой стан: «Гэта ад таго, што вы сапсавалі маю нервовую сістэму». Праўда, гэтыя заганы асабліва заўважныя, варта толькі ёй засмяяцца. Магчыма, таму яна заўсёды злосная. І сёння настаўніца адразу буркнула:

— Дзільдабэк, раскажы пра піраміду Хуфу!

Я пакорліва ўстаў з месца. Са здзіўленнем зірнуў на настаўніцу, бо пра піраміду чуў упершыню. Але ж трэба нешта адказваць, бо інакш яна мяне жыўцом праглыне.

— Вышыня піраміды Фуфу...

— Што?!

— Яе вышыня...

— Чыя?

— Фу-фу...

— Ха-ха!

—Хі-хі-хі!

Я зніякавеў, задыхаючыся ў нясцерпным рогаце.

Дзяўчаты ад прыступаў смеху стараліся прыкрыць далонямі рот, кашляючы. Ажар, здаецца, саромеючыся маёй бязглуздасці, чырванеў і апускаў вочы.

— Ну добра, калі не ведаеш Хеопса, дык раскажы пра статую Пасейдона, што стаіць на мармуровым п'едэстале Фароса.

Колькі ні варушыў звілінамі, нічога добрага не знайшоў. Не мог адвесці вачэй ад падлогі, нібыта там валялася іголка. Ад маёй самаўпэўненасці следу не засталося. У гэты момант я зрабіўся бездапаможным, як нованароджанае цяля.

— Што можна ўбачыць у лясных нетрах Коста-Рыкі?

Я выпрастаў плячо.

— Дрэвы! — выгукнуў я на ўсё горла. Я быў перакананы, што адказваю правільна. Што яшчэ можа быць у лесе, акрамя дрэў?

— Там знаходзяцца гладкакруглыя камяні, такія, як твая неразумная галава, — стомлена прамовіла настаўніца.

Не разумею, як гэта заўсёды занятая класная кіраўніца Дзіна паспявае прачытаць столькі, што ведае амаль усё. І ўвесь час намагаецца гэтыя свае веды данесці да нас.

— Эх вы, лайдакі! Мы захапляемся незвычайнымі камянямі, вісячымі садамі, якія знаходзяцца на краі свету. А ў той жа час не кожны ведае, што непадалёк ад нашага Акыртаса існуе помнік археалогіі — тут з даўніх часоў захоўваюцца ўзоры найстаражытнейшай культуры. І гэты будынак, які знешнім выглядам нагадвае раскошны палац, яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Чаму вас не цікавіць, дзе знайсці тунэль, што вядзе да гэтага палаца? Мяне вельмі засмучае ваша абыякавасць. Вы ж павінны быць цікаўнымі, як следапыты, што шукаюць клад. Няўжо вы чакаеце моманту, калі хтосьці з'явіцца з нябёсаў і прынясе вам усё на спадочку з блакітнай аблямоўвачкай? — горача прамаўляла настаўніца.

Такі настрой класнай кіраўніцы міжволі бударажыць нашу маладую кроў. Тут нават яе ўласная наравістасць знікае. Пераадольваючы нашу дзіцячую капрызлівасць, настаўніца сама хвалюецца і нас прымушае натапырыць вушы, каб пачуць хоць адзін голас з глыбіні стагоддзяў — ва ўсякім разе, распрабаваць. У такі момант яна робіцца мілай і абаяльнай.

Акыртас месціцца проста ля падножжа нашага Кайынды. Яго добра відаць з гары, якая, як гультаяватая маладзіца, разлеглася на сонцы і песціцца. Формай ён нагадвае яслі, у якіх захоўваецца корм для жывёлы. А колькі казак і легенд пра яго створана — не пералічыць! Можа, і сапраўды я — тупагаловы, бо да сёння не думаў пра тое, што пад вялікім грудам хаваецца цудоўны і таямнічы горад, пакуль пра гэта не нагадала настаўніца Дзіна. Цяпер, як мне падалося, яна сарвала покрыва з твару гісторыі, якая ляжыць сабе ціха і чакае, калі яе знойдуць.

Наступнай раніцай мы ўтрох з Бапаем і Ікрамам рушылі ў паход да Акыртаса, прыхапіўшы клунак з прадуктамі. Як толькі пакінулі аул, адразу ж аблюбавалі ўтульную мясцінку на поплаве, дзе багата перапёлак ды конікаў і вецер пагойдвае зялёную траву. Сарамліва пабліскваe вачыма чыстая гаманлівая крыніца, якая цурчыць і нібыта смяецца. Навокал пануе цішыня. Заўсёды ціхмяны і сціплы Бапай чамусьці нервуецца, хапае запалкі, падпальвае адну за адной і кідае па баках. Чыркне запалкай — і кідае яе ў засохлую траву. Сухая траўка адразу ж загараецца. Гэта раздражняе мяне — хіба ж ён не ведае, што можа ўспыхнуць неўтаймоўны агонь?

— Кінь, можа пачацца пажар, — не вытрымаў я.

— Што да мяне, дык хай яно ўсё гарыць сінім полымем! — агрызаецца ён, шпурляючы ў траву чарговую запалку.

Я бягу да крыніцы, набіраю ваду ў шапку і выплюхваю на толькі што падпаленае месца. Бапай зноў кідае запалку, нібыта хворы які. У траве зноў успыхвае агонь. Я зноў бягу да крыніцы з шапкай.

— Вельмі шкадую, што вырушыў у паход з гэткім дзіўнам****, як ты, — злосна сказаў я.

— Хі-хі! Ты загаварыў як дзяўчынка. Гермафрадыт ці што?

Бапай, раздзімаючы ноздры, з захапленнем працягваў займацца сваёй справай. Я нагой штурхануў яго ў сцягно, і толькі тады ён зразумеў, што не на жарт раззлаваў мяне.

— Вой, мой нецярплівы захавальнік цішыні! Уставайма нарэшце, хадзем далей, пакуль відно...

Блакітныя аблокі павoлі плывуць над бязмежным маўклівым стэпам, над велічным прасторам, што, нібыта адмысловы арнамент славутага майстра, зачароўвае размаітымі колерамі траў: палын, кавыль, эбелек — вачэй не адвесці. Мы рухаемся па схіле і са здзіўленнем разглядаем кустоўе, што выгнулася над стромай: на нас з цікавасцю пазіраюць глог і шыпшына — здаецца, яны ведаюць усе загадкі Акыртаса, але як вады ў рот набралі і ўпарта маўчаць. Мы ўтрох таксама не прамовілі ніводнага слова.

Перад маімі вачыма паўстае прывід прыгожага і незвычайнага падземнага палаца, дзе вандроўніка чакаюць тысячы пакояў. Адшукаць бы згублены ключ і адамкнуць фантастычныя вароты… Вось мне адказвае гулкае рэха… Вось я трапляю ў старажытныя залы… Вось нашы продкі са здзіўленнем устаюць з месцаў…Тады ўвесь аул, уся вобласць, нават увесь Казахстан гаварылі б разам, што тайну Акыртаса, які дагэтуль быў загадкай, адкрыў Дзільдабэк! Настаўніца Дзіна няспынна сыпала б словы пахвалы: «Дзільдабэк — мой найлепшы вучань! Ён выдатна ведае гісторыю! Заўсёды цікавіўся, як бы гэта разгадаць загадку вісячых садоў Семіраміды! Менавіта гэта імкненне і падштурхнула яго да сённяшняга адкрыцця!..», давала б інтэрв'ю розным газетам і часопісам… Я б у гэты момант пачуваўся выбітнай асобай… Ад такіх думак тахкала сэрца, бурліла кроў…

— А хто ўсё ж такі пабудаваў гэты Акыртас? — ляпнуў Бапай, калі мы апынуліся ля яго падножжа.

Уражанне было такое, што ён толькі што зваліўся з нябёсаў. Мяне ажно закалаціла ад нястрымнай злосці.

— Ты што, самлеў, як валкадаў гарачай парой?

Я зараз жа адштурхнуў яго з усяе сілы. Ён пахіснуўся, але ўтрымаўся на нагах.

Тут я звярнуў увагу на прадмет, аб які ледзь не спатыкнуўся. Напярэдзе ляжаў роўны ланцуг камянёў — яны былі падобныя да людзей, што наважыліся скокнуць. Мне падалося, нехта наўмысна паставіў іх у адзін рад. Ды і формай апошні камень, што апынуўся на ўзвышшы, адрозніваўся ад іншых — на ім захаваліся сляды ручной апрацоўкі: добра заточаны востры канец зрабілі вельмі падобным да стрэлкі компаса. Камень нібы хацеў папярэдзіць нас: «Тут, тут знаходзіцца клад, які вы шукаеце, спадчына эпохі, след гісторыі».

Я рвануўся наперад, мае грудзі, здаецца, апякло гарачае полымя, але камяні Акыртаса заставаліся нерухомымі. Вялікія і малыя ямы сведчылі пра тое, што тут ужо былі археолагі, праводзілі раскопкі. І пачуццё не падманула мяне: ля адной ямiны мы ўбачылі шчыльна закладзены камянямі ўваход, які нагадваў сучасныя дзверы.

— На гэтым месцы быў караван-сарай, — выказаў здагадку Ікрам. — Тут праходзіў Вялікі Шаўковы шлях… У гарах Какдонена, што ляжаць на адной даўгаце з Акыртасам, дзеці, якія пасвілі жывёлу, знайшлі манеты, датаваныя адзінаццатым стагоддзем…

— Калі б мы маглі спусціцца пад зямлю, тады ў нашых руках апынуліся б усе таямніцы Акыртаса, — выгукнуў я і канчаткова разгубіўся, нічога не разумеючы, блытаючыся ў здагадках.

— Ікрам разважае слушна. Горад Касрыбас на Вялікім Шаўковым шляху, пра які нам гаварылі ў школе, не інакш як гэты Акыртас, — агучыў сваю версію Бапай, гледзячы на складзеныя побач з ямінай камяні.

Ён, відаць, адчуў сябе вялікім знаўцам, які здатны, гледзячы на паслядоўны рад камянёў, разгадаць вялікую тайну Акыртаса, што для чалавецтва дагэтуль з'яўляецца загадкай, схаванай пад тоўстымі пластамі глебы.

— Не, — запярэчыў я. — Гэта не толькі археалагічны помнік, але і архітэктурная пабудова. На гэта варта паглядзець з новай пазіцыі, з новага, шырэйшага, пункту гледжання. Можа, тут знаходзіўся касмадром, задоўга да будаўніцтва Байканура, а можа, была крэпасць? Мы ўсе трое ні сёння, ні заўтра не знойдзем адказаў на пытанні!

калі быў пабудаваны Акыртас, хто пабудаваў, з якой мэтай? Аднак мы павінны прынесці адзін аднаму клятву, што ў будучыні адкрыем яго тайну абавязкова.

І хоць мае словы паходзілі на словы настаўніцы Дзіны, якія тая паўтарала пасля ўрокаў, але я ўсім сэрцам адчуў, што мой душэўны стан палепшыўся, у сэрцы загарэлася сапраўдная прага незвычайных адкрыццяў.

— Дамо клятву!

— Цяжар клятвы вельмі нялёгкі. Калі мы яе не стрымаем, дык можам звар'яцець, — сказаў я, адначасова адчуваючы і адказнасць, і трывогу.

— І Каколь, які ляжыць на раўніне Каракыстак, таксама мае свае тайны. Дамо клятву, што калі пасталеем, узброімся ведамі — разгадаем цудоўную загадку роднай зямлі, — урачыста вызначыў Ікрам будучую мэту.

— Нашы продкі давалі клятву, цалуючы лязо мяча. Але ж мы не маем алмазнай зброі, — разгубіўся я. — З другога боку, калі мы зараз не замацуем клятву, дык заўтра нашы намеры давядзецца забыць. І я пакутую, баючыся, што добрая справа не зможа ажыццявіцца.

— Дамо клятву на хлебе! — знайшоў выйсце з сітуацыі Бапай.

Выпрастаўшыся на поўны рост і трымаючы ў руках хлеб, мы ўсе трое прынеслі ўрачыстую клятву.

— Хай нас пакарае дух святога хлеба, калі мы не стрымаем свайго слова! — падсумаваў Бапай.

Клятва далася нам лёгка і нязмушана, мы адчулі прыліў энергіі, сілы, гонару. У аул вярталіся ў добрым настроі, ахопленыя ўзвышанымі пачуццямі.

* * *

Відаць, я недалюбліваю Асхата з-за яго маці — настаўніцы Дзіны, нават мянушку для яго прыдумаў — Такылдак*****. Але, як высветлілася, я памыляўся. Ён добразычлівы і чулы хлопчык. Зараз той самы Асхат, імкнучыся зрабіць з мяне добрага стралка, хадзіў кругам і навокал, пакуль не навучыў больш-менш абыходзіцца з лукам са стралой. Калі ён пераканаўся, што я засвоіў навуку, дык сагнуў дугу з бярозавага прутка, замацаваў яе бляшанай стужачкай. Абодва канцы лука зацягнуў тонкай скуранай цецівой і са словамі: «Гэта і ёсць саржа-садак»****** урачыста ўручыў мне. Няўмельства палохае, спачатку ўсё здаецца цяжкім, але пасля, калі мае рукі прызвычаіліся да прылады, стрэлы, са свістам працінаючы паветра, падалі то тут, то там, узнімаючы пыл слупамі. Калі я, нацягваючы лук з усяе сілы, выпускаў стралу, яна сваім бляшаным канцом на дзесяць сантыметраў утыкалася ў зямлю. Зноў выцягваеш стралу, зноў нацягваеш лук. Пачуваешся сарбазам, апранутым у кальчугу. Трэба сказаць, што Асхат —сапраўдны снайпер. Ён вокамгненна працінае стралой шапку, якую я падкідаю ўверх. І мяне падбадзёрвае. Але рукі дрыжаць, і страла ляціць у «малако». Асхат, надзяваючы калматую шапку, становіцца проста перада мною. «Пацэлься і страляй!» — загадвае ён. Я з апаскай выпускаю стралу аслабелымі рукамі — чуецца нейкі злавесны свіст, ногі мае падгінаюцца, дрыжыкі бягуць па спіне. Асхат стаіць, закрываючы далонямі твар. Страла, як высвятляецца, трапіла яму ў вока. Ад гэтага страшэннага відовішча мне робіцца млосна. Баючыся нават зірнуць на Асхата, я, як шалёны, бягу куды вочы глядзяць і хачу толькі аднаго — памерці. Калі трапіцца скала — саскочу з яе, глыбокая рэчка — утаплюся. Толькі б загінуць.

— Дзільдабэк, вярніся! Вярніся, прашу цябе! — Асхат, прыкрываючы вока далонню, бяжыць следам.

— Не-не, я хачу памерці! Усё роўна мяне заб'юць.

Я бягу, нічога не цямячы, і не магу адужаць біду, якая гэтак раптоўна напаткала мяне.

— Пачакай, спыніся! Не трэба паміраць! Я пра цябе нікому не скажу. — Асхат даганяе мяне і хапае за руку.

— Не, адпусці мяне! Я не змагу спакойна жыць, гледзячы ў вочы тваёй маці, не змагу глядзець на цябе!

— Твая смерць не верне мне вока. Я ж нікому не скажу. Сам вінаваты. Скажу, паваліўся, а ў вока ўваткнулася нейкая палка. — Асхат з перапэцканым крывёю тварам мітусіцца, заклінае мяне. — Ніводнага слова ні адной жывой душы не скажу. Клянуся! Толькі ты не памірай...

Душа мая плача ад гора, я да крыві кусаю вусны. Пакутую, усведамляючы сваю віну. Што ж мне цяпер рабіць, калі мой аднагодак бязвінна пацярпеў праз мяне? Памерці зараз жа ці пазней? Забіць сябе імгненна ці трохі пачакаць? З кім параіцца? Каму што тут сказаць? Каго запытаць? У галаве — блытаніна, думкі то праясняюцца, то зноў губляюць сэнс. Як падумаю пра Асхатава вока, дык хоць завый — зямлі пад сабой не чую, хістаецца і знікае з-пад ног: праз мяне яскравы полудзень наўзасёды ператварыўся для яго ў пякельны змрок. Хочацца пачуць хоць якое слова надзеі…

Мільганула думка пра возера Каколь, прыгадалася старая легенда: «На возеры жыве аднагорбы вярблюд з доўгай шыяй і змяінай галавой. Гаючую сілу вада мае праз гэтага вярблюда, але калі ты страціш пільнасць, плаваючы ў возеры, пачвара абавязкова глыне цябе…» Вырашана, пайду да яго на з'ядзенне! Я спяшаюся, як вар'ят, у бок Карагырскіх гор, у аул Каракыстак. Толькі б найхутчэй дабегчы туды. У такі момант здаецца, што і час цягнецца вельмі марудна, і шлях робіцца невыносна доўгім. Я не хачу нікому трапляць на вочы — толькі б знікнуць з гэтага свету назаўсёды!

Вось і Каколь. Возера вартае сваёй назвы. Прыгажосць блакітнай вады зачароўвае, птушкі вольна плаваюць па азёрным люстры, здабываючы корм. Паўсюль пануюць спакой і цішыня. Але хіба ж мне да таго, каб захапляцца навакольнымі краявідамі? Мне здаецца, што возера няўхільна набліжаецца да мяне. Птушкі раптам узмахнулі крыламі, узняліся ў вышыню, зрабілі круг і зноў апусціліся на ваду. Як быццам нічога не здарылася, але яны напалохаліся. Чаму? Не паспеў я пра гэта падумаць, як завіравала вада і ўзняліся хвалі. З-пад вады з'явілася страшыдла даўжынёю каля пятнаццаці метраў і паплыло. Галава і хвост яго пры гэтым былі нерухомымі, а цела то сціскалася, то расцягвалася. І гэтыя сутаргавыя расцягванні і сцісканні, гэтыя жахлівыя рухі зводзілі мяне з розуму. Вакол пачвары кіпелі хвалі, утвараліся кругі. Я быў упэўнены, што гэта жудаснае стварэнне паверне галаву і абавязкова глыне мяне. Я ўжо чуў вярблюджы роў, тады да майго слыху даляцеў страшэнны посвіст. Не ведаю, можа, ад страху, але і я закрычаў на ўвесь голас, калоцячыся ад гэтага звярынага выцця. Здаецца, палопаліся барабанныя перапонкі. Страх і трывога звялі на нішто маю рашучасць. Адвагі неставала, каб добраахвотна скокнуць у пашчу. Аднак жа і страшыдла не надта спяшалася з'есці мяне. А можа, гэта мой немы крык прымусіў яго асцерагацца?..

Раптам пайшоў дождж. Паверхня возера неяк па-асабліваму змянілася, рознакаляровае ззянне супакойвала маю спакутаваную душу. Пад вадой з'явіліся жоўта-чырвоныя агеньчыкі, пасля загарэлася магутнае святло, ды такое, што засланіла ўсё нававаколле, і я міжволі заплюшчыў вочы. Каколь, нібыта вартавы паміж жыццём і смерцю, не прымаў мяне, рашуча адштурхнуў, ударыў у грудзі.

З паніклай галавой я пацягнуўся ў аул. Вестка пра тое, што сын настаўніцы Дзіны спатыкнуўся, параніў вока і цяпер ляжыць у бальніцы, сцякаючы крывёй, заспела мяне ў маім двары.

— Вось швэндаецеся, бадзяецеся з раніцы і да вечара немаведама дзе, а потым напорваецеся на розныя непрыемнасці, — гэта ўжо мая маці пачала «пудрыць» мазгі.

Я нікога не хацеў бачыць. Скруціўся ў клубок, як кот, і ўладкаваўся ў далёкім кутку спальнага пакоя. Здаецца, што ўсярэдзіне ўсё баліць і гніе, паступова і няўхільна паміраю. Не зразумець: ці то хворы, ці то здаровы. У такім стане хочацца ператварыцца ў чалавека-«невідзімку». Але што трэба зрабіць для гэтага? І тут я ўзгадаў нейкі абрад, пра які гаварылі старыя жанчыны ў нашым ауле. Трэба цёмнай ноччу, калі зусім нічога не відаць, пайсці ў лес і ўзяць з сабой такога чорнага ката, якога толькі зможаш знайсці — як кажуць, «ад вушэй да хваста». У лесе належыць забіць яго і намаляваць яго крывёю кола. Труп жывёлінкі трэба варыць у вядры, пакуль мяса не адстане ад костак, тады сабраць разам усе косткі і ў цемры вяртацца дамоў. Цябе суправаджае невымоўнай моцы шум, чуюцца розныя жахлівыя гукі, да тваіх вушэй далятаюць выццё ваўка і рыканне мядзведзя. Але баяцца не трэба. Пасля пачуецца людская гамана і чалавечыя крокі за спінай, хтосьці будзе бегчы следам. Зноў-такі не варта азірацца… Дома трэба адразу сесці перад люстрам і паспрабаваць на зуб кожную костку. І толькі адна з іх чароўная: як толькі яна апынецца ў тваіх зубах, адразу ж знікне твой адбітак у люстры. Гэта костка і будзе ператварыць цябе ў чалавека-невідзімку. Калі хочаш знікнуць — пакладзі костку ў кішэню, калі хочаш зноў зрабіцца бачным — схавай костку куды падалей…

Я, безумоўна, прагнуў такога ператварэння, але адчуваў, што зрабіць гэта мне не па сілах. Для гэтага я слабы, хоць і сорамна прызнавацца. Як высвятляецца, я — баязлівец! Нестае адвагі нават на тое, каб папрасіць прабачэння. Ну чаму я такі нікчэмны?.. Ужо некалькі дзён прапускаю заняткі, спасылаючыся на «слабасць і галавакружэнне». Нельга ўвесь час знаходзіцца ў прыгнечаным стане. Або пан, або прапаў! Я павінен пайсці да Асхата з прабачэннямі і прызнацца ў сваёй віне. Асабіста павінен прасвятліць сітуацыю перад усімі ў адпаведнасці з ісцінай і атрымаць пакаранне, якое заслужыў. У адваротным выпадку я зраблюся аб'ектам плётак і абгавораў. Такія думкі ў некаторай ступені супакоілі і натхнілі мяне, я пачаў дзейнічаць…


Паўночна-заходняя вежа палаца Акыртас.

У абласным цэнтры я адразу накіраваўся ў інстытут хвароб вока. З заміраннем сэрца і трывогай на душы, хвалюючыся і баючыся, я ўсё ж такі адважыўся ўвайсці ў палату, дзе ляжаў Асхат. Мы моцна абняліся. Асхат сустрэў мяне добразычліва, нават не адчуваецца, што ў яго такая бяда. На твары ніякага следу траўмы. І вока, і брыво на месцы. І хоць мне было яшчэ няёмка, але я вельмі ўзрадаваўся, што ўсё больш-менш добра скончылася — за спінай нібыта крылы павырасталі. Я адразу забыўся на свае трывогі і хваляванні, на змрочныя дні і пакутлівыя гадзіны.

— Не яблык вока, а надвочную мышцу пашкодзіла страла, — пачаў тлумачыць Асхат. — Дактары сказалі, што і шрама не застанецца, усё абыдзецца.

На душы стала светла і радасна ад такой навіны, а яшчэ ад таго, што мой сябар добра пачуваўся і быў у выдатным настроі.

— Ну вось, бачыш, усё добра, — падсумаваў Асхат. — Таму і спынімся на тым, што спатыкнуўся і пашкодзіў вока палкай. Іншага варыянта не трэба. Дамовіліся?

Я згадзіўся, і Асхат з палёгкай працягваў:

— Я надта ж непакоіўся за цябе. Думаў, што проста так ты з таямнічага возера Каколь не вернешся — абавязкова натрапіш на непрыемнасці, у тых мясцінах з табой здарыцца нешта непапраўнае і жахлівае. Але ты малайчына, кемлівы, адважны!

І хоць Асхат быў маладзейшы за мяне ажно на год, аднак жа паляпаў мяне па спіне, як дарослы чалавек. Мне ён падабаўся ўсё больш і больш. Які ён усё ж такі сціплы! А ці мог бы я паводзіць сябе ў падобнай сітуацыі гэтак жа, як ён?..

Я радаваўся, што ўсё скончылася добра, што ўжо ў мінулым засталіся ўсе хваляванні і мітусня.

Пазбыўшыся душэўнай трывогі, я вярнуўся ў школу і зноў зрабіўся звычайным вучнем. Але тут высветлілася, што яшчэ не ўсе непрыемнасці закончыліся. У настаўніцкай нас чакала маці нашай аднакласніцы Куляйхан. Ёкнула сэрца — падобна да таго, што адбудзецца сур'ёзная і непрыемная размова. Куляйхан кульгае ад нараджэння. У ауле кажуць, што дактары вывіхнулі сцягно ў час нараджэння дзяўчынкі, але ўтаілі гэты факт. Вось гэту Куляйхан асабліва дапякае Ікрам. Як толькі яна ўваходзіць у клас, ён адразу ж сядае на яе вярхом і, здзекуючыся, падганяе: «Шушу, айт шу, мой ішак!», махаючы рукой, як камчой. Збоку глядзець на гэта прыкра. Аднак і я, што там гаварыць, праз дурноту сваю бегаў следам, падганяючы яе прутком. Куляйхан плакала і прасіла адпусціць яе. «Ішакі не рыдаюць!» — яшчэ больш пацвельваем мы небараку. І вось сёння надышоў час адплаты. Я адчуў, што літаральна знямеў.

— Гэтыя нягодныя вучні, як высветлілася, увесь час здзекуюцца з няшчаснай дзяўчынкі. Няўжо дома іх ніхто ніколі не выхоўваў? Чаму нават у школе яны не пазбавіліся сваіх дурных звычак і хуліганскіх выхадак? Калі вы не можаце паўплываць на іх, дык аддайце ў мае рукі. Я за тры дні пазнаёмлю іх з продкамі да сёмага калена… — кажа ў абурэнні жанчына.

Настаўніца Дзіна маўчыць, нібыта вады ў рот набрала. Стаіць суровая, як скала.

— Даруйце! Я больш не буду, — раптам заплакаў Ікрам.

— Гэта не я, — сказаў я ў сваю чаргу, нават не спадзеючыся, што мне могуць паверыць.

Добрая аплявуха трапіла мне акурат на макушку. Усе маўчалі і пазіралі на мяне. Агульная пагарда ледзь не раздушыла мяне ў ляпёшку, ператварыла ў маленькага і слабога мураша. Адразу панікла мая галава, нібыта паламаўся шыйны пазванок. Настаўніца Дзіна ўсё ж такі пацягнула мяне за чупрыну і прыўзняла мой твар, які гарэў ад сораму. Нібыта праз заслону туману я ўбачыў, як плачуць Куляйхан і яе маці. Мяне наскрозь працінаюць вострыя позіркі трыццаці вучняў, што сядзяць у класе. З маіх вачэй нястрымна паліліся шчодрыя патокі слёз. Сам сабе клянуся, што цяпер і мухі не пакрыўджу — і так будзе заўсёды, слова сваё стрымаю. Свет маёй душы мяняўся, пераўвасабляўся, станавіўся зусім іншым, пакуль што незнаёмым.

Гэта была апошняя нітачка, якая звязвала мяне з дзяцінствам — свавольным, гарэзлівым, бесшабашным. Ужо прабівалася ў маёй свядомасці пачуццё адказнасці, адчуванне абавязку і неабходнасці. Я сталеў…

**З казахскай. Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

*Тосцік — грудзінка з тлушчам і шкуркай.

**Жэнге — жонка старэйшага брата ці блізкага сваяка.

***Жэнешэ — ласкавы зварот да жэнге.

****Дзіўана — дэрвіш, вандроўны пустэльнік.

*****Такылдак — дзяцел.

******Саржа-садак — лук з інкрустацыяй.

*Новы фармат*

# Гандлярка без дзяцей



*Сцэна са спектакля «Матухна Кураж і яе дзеці».*

**Прэм'ера спектакля «Матухна Кураж і яе дзеці» адбылася сёлета 21 і 22 студзеня, а 9 сакавіка ў Палацы прафсаюзаў прайшоў паўторны паказ. Сучасную і вельмі актуальную музычную камедыю пра вайну паводле п'есы Бертальда Брэхта паставіў «Тэатр Ч», вядомы публіцы дзякуючы інсцэніроўцы «Дзядоў» Адама Міцкевіча.**

Дзеянне п'есы адбываецца падчас Трыццацігадовай вайны. Галоўная гераіня Ганна Фірлінг — гандлярка, якую ўсе ведаюць як Матухну Кураж, — вандруе па Еўропе са сваімі дзецьмі, двума дарослымі сынамі і нямой дачкой. Сям'я выжывае толькі за кошт вайны — мір ёй пагражае разарэннем. Аднак у абмен за прыбытак вайна забірае ў Матухны дзяцей.

Ідэя пастаноўкі і яе рэалізацыя належаць Міхаілу Лашыцкаму, які быў не толькі рэжысёрам спектакля, але і сцэнографам ды аўтарам касцюмаў. М. Лашыцкі вядомы сярод тэатралаў як творца арыгінальнага густу і адметнага бачання, і ў п'есе надаецца вялікае значэнне гумару: дзякуючы яму ўдаецца дасягнуць эфекту адчужанасці, характэрнага для п'ес Брэхта. Спектакль не дае адназначнага адказу на «пытанне вайны», не навязвае пэўнае меркаванне, але падштурхоўвае да роздуму.

Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Алена Сідарава дасканала выканала ролю галоўнай гераіні — грубаватай гандляркі, якая праз скварпнасць і празмерны практыцызм губляе дзяцей. Але ні прага Швейцарца да справядлівасці, ні дурнаватасць Эйліфа, ні прастадушнасць Катрын не выклікаюць спачування да герояў: яны ўспрымаюцца як звычайныя прыстасаванцы, што звыкліся з сітуацыяй і жывуць так, як дазваляюць рэаліі і абставіны.

Самую складаную ролю — нямой Катрын — атрымала Алеся Самахавец. Без адзінага слова артыстка перадала найглыбейшыя пакуты і перажыванні. Цяжка знайсці больш яркі вобраз у сённяшнім тэатры, а песня ў нямым выкананні — сапраўдны акіян пачуццяў.

Асобная роля ў спектаклі належыць музыцы, якая адпавядае патрабаванням духу «эпічнага тэатра» Бертальда Брэхта. Жывое выкананне шасці вядомых гуртоў «9 миллиметр», «НагУаль», «ili-ili», «NAKA», «VuRaj», «Zui» не проста гукавое суправаджэнне — гэта асобны персанаж, які гледачу дапамагае зразумець п'есу, а самому спектаклю — дагрукацца да гледача.

Між тым было і шмат тэхнічных недасканаласцей: музыка часам рабілася занадта гучнай, а голас акцёраў не дасягаў апошніх шэрагаў. Спектакль падаецца крыху недашліфаваным. Магчыма, сказваецца тое, што ў тэатра няма пляцоўкі, а можа, і тое, што гэта ўсяго толькі трэці паказ. Будзем спадзявацца, што яшчэ не раз убачым «Матухну Кураж» на беларускай сцэне і надалей спектакль будзе толькі ўдасканальвацца.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Вобраз светлы

**Нацыянальны мастацкі музей Беларусі прадставіў выстаўку вядомага кітайскага мастака і каліграфа Лян Юнхэ.**



*«Любаванне кветкамі». 2014 г.*

Лян Юнхэ нарадзіўся ў жніўні 1948 года ў горадзе Уган правінцыі Хэнань. З дзяцінства займаўся жывапісам. Сёння ён намеснік старшыні Пекінскага саюза мастакоў «Хушэ», прэзідэнт Мастацкай акадэміі каліграфіі і жывапісу імя Сун Цынлінь, віцэ-старшыня рэдакцыі часопіса дзеячаў мастацтва Кітая, прарэктар Кітайскага інстытута каліграфіі і жывапісу, заслужаны дзеяч мастацтваў.

Карціны мастака адрозніваюцца тонкімі танальнымі пераходамі, арыгінальнай тэхнікай выканання, у іх пераважае жанр увасаблення кветак і птушак.

— Усяго на выстаўцы прадстаўлена 46 работ майстра. Калі глядзіш на іх, глыбока адчуваеш вобраз, цудоўны, светлы і чысты. Малюнак у сваім адвольным выяўленні выклікае надзвычайную цікавасць, пачуццё свабоды і разняволенасці. Лян Юнхэ дасягнуў вядомасці сваёй працавітасцю і талентам, а таксама пастаянным імкненнем да навізны, якая спалучаецца з нацыянальнымі кітайскімі традыцыямі, — адзначыла куратар выстаўкі Марына Мальгіна.

Творы жывапісца неаднаразова экспанаваліся і атрымлівалі прэміі на выстаўках выяўленчага мастацтва ў Кітаі і за мяжой. 10 кастрычніка 2009 года адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця Музея мастацтва імя Лян Юнхэ.

**Вера ЛАНКОЎСКАЯ**

# Мода па-эстонску

**Нацыянальны касцюм можа распавесці шмат цікавага пра краіну і яе традыцыі. Сакрэты Эстоніі адкрые выстаўка тэкстылю, якая працуе ў Цэнтры сучасных мастацтваў.**



Экспазіцыя «To be Estonian. Эстонскія асацыяцыі» прэзентуе 15 камплектаў жаночага адзення. Работы прадставілі Мары Акрэ, Дзіяна Дзянісава, Катрэ Арула, Пірэт Пупарт, Керту Сіпланэ ды іншыя мастакі-мадэльеры. Як паведаміла куратар выстаўкі, мастачка і дызайнер Ану Хінт, выстаўка ўжо здзейсніла падарожжа ў Германію, Кітай, Японію ды Фінляндыю, а ў нашай краіне ладзіцца ўпершыню.

Касцюмы, што склалі экспазіцыю, сучасныя, але з нацыянальным каларытам, пашытыя з натуральных тканін: бавоўны, валянай воўны, лёну… Некаторыя ўпрыгожаныя арнаментамі, кветкамі ды пацеркамі. Заўважна, што эстонскія мадэльеры аддаюць перавагу яркім колерам. Суправаджаюць выстаўку фотаздымкі Ану Хінт, на якіх прыгожыя паненкі дэманструюць нацыянальныя строі.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Эстоніі ў Рэспубліцы Беларусь Майт Марцінсан заначыў, што выстаўка стала добрай магчымасцю ўзмацніць сяброўскія сувязі паміж дзвюма краінамі. Беражлівае стаўленне да нацыянальнага касцюма ўласцівае і беларусам, і эстонцам. Традыцыйнае адзенне ў абедзвюх дзяржавах сёння зноў набывае папулярнасць: яго элементы выкарыстоўваюцца нават у дзелавым стылі.

На думку намесніка старшыні Беларускага саюза мастакоў Алеся Дранца, у работах, прадстаўленых на выстаўцы, гарманічна перапляліся трыдыцыі і сучасныя матывы. Дызайнеры захавалі ў касцюмах адметны нацыянальны стыль, які выпрацоўваўся стагоддзямі, дадалі новыя дэталі.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013 Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14

Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: А. С. Мастоўскі
Камп'ютарны набор: Г. Я. Палякова
Стыльрэдактар: Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк 02.04.2015 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 2230.
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1465 г.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12